**ГІСТАРЫЧНЫ НАВУКОВА-ПАПУЛЯРНЫ АЛЬМАНАХ**

РЭДАКТАР
***Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ***

АЎТАР ІДЭІ ВОКЛАДКІ
***Андрэй ВЯРЭНІЧ***

ПРЫ ЎДЗЕЛЕ
***ДУ “Віцебская абласная бібліятэка імя У.І. Леніна”***



На беларускай і рускай мовах

vicebski.sshytak@tut.by

Выдаецца з 1995 года. Усяго выйшла пяць нумароў

# ЗМЕСТ



# *СЛОВА ДА ЧЫТАЧА*

Шаноўны пане чытачу!

З моманту выхаду чацвёртага выпуску “Віцебскага сшытка” ў 2000 годзе прайшло досыць часу. Шмат што змянілася ў нашым жыцці. Краязнаўства Віцебшчыны, пытанням якога ад самага пачатку быў прысвечаны наш альманах, працягвае развівацца. Як у Віцебску, так і ў рэгіёнах з’яўляюцца новыя выданні, адбываюцца канферэнцыі, ладзяцца гісторыка-краязнаўчыя сустрэчы, чытаюцца лекцыі. Дзякуючы Інтэрнэту больш даступнымі зрабіліся друкаваныя і архіўныя крыніцы, значна пашырылася іх кола, спрасціліся кантакты паміж даследчыкамі. За гэты час пасталелі былыя аўтары, вырасла новае пакаленне гісторыкаў і краязнаўцаў, якія адшукалі ўласныя тэмы і шляхі іх асвятлення.

Нас цешыць тое, што чытацкая цікавасць да “Віцебскага сшытка” не згасла за гэтыя гады. Друкаваныя нумары выдання ўжо сталі бібліяграфічнай рэдкасцю, затое на сайце Віцебскай абласной бібліятэкі ўсе выпускі можна знайсці ў электронным выглядзе (http://vlib.by/index.php/by/virtualnye-proekty/38-projects/1643-vitsebski-sshytak).

Паколькі ніша, якую “Віцебскі сшытак” заняў ад першых гадоў свайго існавання, па-ранейшаму застаецца вольнай, мы, спадзеючыся на падтрымку як аўтараў, так і чытачоў, паспрабуем працягнуць выданне. Яго прынцыпы застаюцца ранейшымі. Большасць матэрыялаў кожнага нумара будзе прысвечана асобнай тэме, што дазваляе глыбей раскрыць тую ці іншую з’яву, а таксама скараціць колькасць недакладнасцей і фактычных памылак у матэрыялах асобных аўтараў.

Частка рубрык (да прыкладу, “Urbis”, “Archivum”) будзе прысутнічаць у кожным выпуску альманаха, незалежна ад абранай тэмы нумара. З’явіцца на старонках “Віцебскага сшытка” і зусім новы раздзел – “Latgale”, прысвечаны гісторыі Латгаліі – той часткі нашай краіны-суседкі Латвіі, што да пачатку XX стагоддзя ўваходзіла ў склад Віцебскай губерні. З гэтаю зямлёю нас звязваюць супольныя лёсы, агульная гістарычная спадчына, пра якую, на жаль, мы амаль нічога не ведаем.

Вялікі ўнёсак у вывучэнне гісторыі Віцебска і Віцебшчыны за прамінулыя гады зрабілі яшчэ адны нашы суседзі – супрацоўнікі навуковых інстытуцый Варшавы, Кракава ды іншых месцаў Польшчы. На жаль, гэтыя неацэнныя набыткі застаюцца ў нас амаль невядомымі пераважна з-за іх акадэмічнага характару і моўнага бар’ера. Мы збіраемся рабіць пераклады з польскай найбольш цікавых і важкіх з гэтых даследаванняў.

Словы шчырай удзячнасці за дапамогу ў падрыхтоўцы і выхадзе выдання хочацца выказаць Моніцы Банькоўскі-Цюліг (Швейцарыя) і Лідзіі Леднік (Беларусь).

Як і раней, жадаем Вам прыемнага і карыснага чытання.

З надзеяй на падтрымку,

***Людміла Хмяльніцкая, кастрычнік 2017 г., Віцебск.***

**Тэма нумара:** Шляхецкія рэзідэнцыі Віцебшчыны. Частка 1



*Палац у Лявонпалі. Калаж Аляксандра Аніськовіча*

*Уладзіслаў ЦЕХАНАВЕЦКІ*

# HISTORJA DOMESTICA*

## пана Ірэнія Васілеўскага, полацкага маршалка

***Ад перакладчыка***

*У альманаху “Z okolic Dźwiny” (“З ваколіц Дзвіны”), які выйшаў у 1912 г. па ініцыятыве кола польскамоўнай інтэлігенцыі Віцебска і губерні, дзевяць нічым не прыкметных старонак друкаванага тэксту былі прысвечаны пераказу дамовай хронікі полацкага маршалка Ірэнія Васілеўскага, якую той пісаў для сваіх нашчадкаў на працягу амаль усёй першай паловы XIX стагоддзя. Пераказ гэты быў зроблены Уладзіславам Цеханавецкім*[1]*, уладаром маёнтка Бачэйкава і вялікім аматарам даўніны, у рукі якога манускрыпт трапіў толькі на пэўны час ад унука руплівага “летапісца” (як яго называе сам расказчык). Нельга сказаць, што рукапіс вылучаецца асаблівай мастацкай ці гістарычнай каштоўнасцю. Аднак немудрагелістым нататкам чалавека шляхецкага стану, засяроджанага на сваім прыватным жыцці і ўласных праблемах, адлегласць амаль у 200 гадоў налічыла добрыя працэнты. Вагу іх падвышае і тое, што падобных помнікаў у нашым краі захаваліся лічаныя адзінкі. Да таго ж, публікатар манускрыпта, заўвагамі якога прасякнуты ўвесь тэкст, сам быў асобай вельмі неардынарнай.*

*Месца, дзе пісаўся дыярыуш полацкага маршалка, – фальварак Полькавічы, на месцы якога ў Шумілінскім раёне Віцебскай вобласці цяпер знаходзіцца вёска з тым жа найменнем. Сёння ад былога панскага дома Васілеўскіх тут не засталося і следу, згубіліся закінутыя магілы. Той жа лёс напаткаў і спадчыну Цеханавецкіх у Бачэйкаве. Так што дамовая гісторыя полацкага маршалка – ледзьве не адзіны на сёння помнік часам, што некалі паволі плылі ўздоўж берагоў Дзвіны і схаваліся за смугою стагоддзяў.*

Некалькі гадоў назад мне ў рукі трапіў тоўсты фаліянт, у якім знаходзіўся вялікі манускрыпт, што нагадваў старасвецкія гаспадарчыя кнігі. Напісаны ён быў прыгожым почыркам, чорнымі, як кітайская туш, чарніламі, на дасканалай старой паперы, дзякуючы якой так добра бароняцца ад часу, вільгаці і нядбаласці даўнія дакументы ды слоікі з канфіцюрамі.

Кніга, якая мела сціплую назву “Historja Domestica”**, была ўпрыгожана выявай герба старога і заслужанага ў краі дома Васілеўскіх, вельмі старанна намаляванага аўтарам, і ўяўляла сабой вялікую манаграфію гэтага роду, сабраную з розных крыніц[2]. Далей ішлі нататкі і заўвагі пана Ірэнія Васілеўскага, полацкага маршалка, якія ён упісваў на працягу большай часткі свайго жыцця; яны ўяўлялі сабою кшталт навукі для патомства, былі плёнам шматгадовага досведу продка, і таму аўтар “Historji” прыпісваў сваёй працы нямалую вагу.

Кнігу, як цікавы для мяне помнік даўніны, я ўзяў да падушкі, а калі дайшоў да апошняй старонкі, то ўжо даўно восеньскае сонца змяніла вечаровую свечку; увесь гэты час

* Domesticus – хатні (лац.).

** Кніга з’яўляецца ўласнасцю ўнука аўтара, пана доктара Ст. Васілеўскага, які мне яе ласкава пазычыў *(заўвага У. Цеханавецкага)*.



*Герб Васілеўскіх Астоя*

я ўважліва чытаў нататкі пана Васілеўскага і не шкадаваў пра бяссонную ноч. Пры адсутнасці гістарычнай значнасці Historja Domestica мела прыгажосць у тым, што апісвала даўнейшыя выпадкі на Віцебшчыне на працягу доўгага шэрагу гадоў, была без прэтэнзій, шчырай, наіўнай і лагоднай, добра характарызавала погляды нашых продкаў на важныя хвіліны, пражытыя імі.

Успаміны, натуральна, не з'яўляюцца гісторыяй і не могуць яе замяніць, але маюць той добры бок, што прапускаюць факты праз асабістыя ўражанні і перакананні, таму не раз тлумачаць гісторыю лепш, чым гэта можа зрабіць бесстаронні гісторык. Аднак пан Васілеўскі пісаў не свае ўспаміны, ён занатоўваў толькі храналагічныя падзеі, скрупулёзна запісваў нават самыя дробныя рэчы і не рабіў каментараў. Такога парадку будзем трымацца і мы, пераказваючы для спадарства асобныя ўрыўкі.

* * *

Святой памяці Ірэній Васілеўскі нарадзіўся ў 1812 г. у Бешанковічах Лепельскага павета, дзе пасля разрабавання іх двара французамі – і ўласнымі падданымі – схаваліся яго бацькі. З Полькавіч, спадчыны пана Клеменса Васілеўскага, полацкага падкаморага, бацькі аўтара з жонкаю і старэйшаю дачкою пехатою ўцяклі падчас нападу на двор французскай салдатні і пасля доўгіх блуканняў трапілі ў Бешанковічы, што знаходзіліся на адлегласці трох вёрст. Бешанковічы як мястэчка менш пазналі начных адведзін марадзёраў і гультаёў*. Пасяліліся Васілеўскія ў бешанковіцкім палацы, дзе ўладар граф Храптовіч[3], прыяцель падкаморага, гасцінна прыняў іх. Тут і ўбачыў свет пан Ірэній.

Аўтар, вучань выхаванца полацкіх езуітаў, пачынае свае нататкі з 1817 г. Калі быў яшчэ дзіцём, ён бачыў гістарычны агляд цара Аляксандра I пад Бешанковічамі[4], для



*Фабер дзю Фор. Касцёл у Бешанковічах. 1812 г.*



*Н. Орда. Палац Храптовічаў у Бешанковічах. Малюнак 1876 г.*

апісання якога пакінуў некалькі старонак пустымі. Відаць, яго падвяла памяць, бо аркушы так і засталіся незапоўненымі.

У 1823 г. ён паступіў у гімназію Халапеніцкага ў Мінску, дзе ў той час было 6 класаў і 350 вучняў, што насілі цёмна-сінія мундзіры з блакітнымі каўнярамі і чырвонымі кантамі. З гэтай гімназіі перайшоў у школу віцебскіх базыльянаў, якая лічылася адной з лепшых на Белай Русі**. Тут ён вітаў праязджаючага імператара Аляксандра, у снежні 1825 г. прымаў прысягу вялікаму князю Канстанціну, а праз некалькі дзён – імператару Мікалаю I. Ужо ў наступным годзе, знаходзячыся ў V класе, паступіў у канцылярыю Дваранскага сходу ў Віцебску, дзе наша шляхецкая моладзь рабіла першыя крокі на полі грамадскай і службовай працы.

У 1828 г. паўсталі з попелу родныя Полькавічы: пан падкаморы будуе мураваны палац; дзеля гэтага запрашаецца італьянец з Віцебска і муляры з глыбінь Расіі. Падчас будоўлі згарэла полькаўская фабрыка галандскага палатна і сталовай бялізны, заснаваная за некалькі гадоў перад тым панам Клеменсам. Пан падкаморы, вельмі засмучаны такою стратаю, цяжка захварэў, а напрыканцы года скончыў жыццё, пакінуўшы сыну шляхетныя традыцыі і прыгожы, не абцяжараны даўгамі маёнтак.

Pro memoria*** дадае пан Ірэній службовы curriculum vitae**** памерлага падкаморага, яго “Фармулярны спіс”. Летапісец як тыповы насельнік тых часоў меў слабасць да тытулаў і ордэнаў, рангаў і пасад, ніколі не забываўся, запісваючы пра смерць або шлюб жыхара павета, дадаць яму

* Да кнігі ў якасці дадатка прыкладзены пропуск з Віцебска, выдадзены пану падкамораму Васілеўскаму прэзідэнтам горада (мэрам) панам Р. Багамольцам і губернатарам генералам Шарпенцье 10 верасня 1812 г. *(заўвага У. Цеханавецкага).*

** Гэтая школа знаходзілася ў па-езуіцкіх мурах. Рэктарам быў кс. В. Будзынскі, прэфектам кс. Каксевіч. Мундзір школы – цёмна-сіні фрак, каўнер і адвароты пунсовыя, гузікі жоўтыя. Як калегаў аўтар згадвае Эд. гр. Плятэра, Ігн., Альф., Эд. і С. Васілеўскіх, Ал. Булгака, К., Я. і М. Рагозаў, Ваў., Іг. і Аўг. Дышлоўскіх, Ст. Станільцовіча, Ст. Корбута, З. Харошчу, М. Муфеля, В. Лявіцкага, Г. Цеханавецкага, Драздоўскіх, Чарномскіх, Станкевічаў *(заўвага У. Цеханавецкага).*

*** Pro memoria – для памяці (лац.).

**** Curriculum vitae – кароткі жыццяпіс (лац.).




*Бешанковічы і Полькавічы на карце Ф. Шуберта*

належны “чын”, а калі той быў уганараваны ордэнскім крыжом, хоць бы і найніжэйшай ступені, дадаць і “кавалер”, назваць жонку суседа “саветнікавай” або “прэзідэнтавай”. Гэта была адзнака польскай ветлівасці ўвогуле, а ў тыя часы – у першую чаргу і добрага выхавання.

1831 г. выразаны з “Historji” ці то панам Ірэніем, ці то пазней, а шкада. Хоць вайна 1831 г. не мела розгаласу на Віцебшчыне, цікава было б ведаць погляд беларускага грамадзяніна на тагачасныя палітычныя падзеі. Аднак і тут знаходзім пустыя старонкі, пакінутыя дзеля пазнейшых роздумаў аўтара над рэвалюцыяй, вайной і выкліканым імі станам спраў, аднак старонкі не былі запоўнены ў пазнейшыя часы.

Затое першы раз згадваецца халера, што ў наступныя гады часта наведвала нашу губерню, і яе ахвяраю стаў у Віцебску вялікі князь Канстанцін. “Людзі паміралі, ідучы па вуліцах, жыхары ўцякалі з горада, пакідаючы сваю маёмасць”. Тагачасная медыцына змагалася з эпідэміяй як магла: націркамі, піццём “дзёгцю з вадкаю”, нарэшце, бесперапынным паленнем люлек і цыгарак. Халера трымалася тры месяцы незвычайна сухога лета, звёўшы ў магілы вялікую колькасць люду, пераважна ў Віцебску, Полацку і Бешанковічах. Вялікі князь, які на пачатку чэрвеня прыехаў у Віцебск і спыніўся ў палацы генерал-губернатара князя Хаванскага, памёр у канцы таго ж месяца пасля хваробы, што працягвалася некалькі гадзін. Праз трыццаць дзён яго цела было выстаўлена на катафалку ў саборы, а потым перавезена ў Пецярбург. За труною ехала княгіня Ловіч са сваім капеланам, віцебскім пробашчам.

У 1832 г. пан Ірэній натуе шмат новых рэчаў: знішчэнне польскага права (Літоўскі Статут), увядзенне агульнарасійскага права і – шляхецкага мундзіра. У тым жа годзе ён упершыню прымае ўдзел у выбарах* і становіцца сябрам крымінальнага суда.

Пад 1833 г. маем кароткія занатоўкі** пра выпадкі, што адбыліся ў краі: пра заняцце слыннай школы піяраў у Полацку кадэцкім корпусам і пра закрыццё кляштараў усіх каталіцкіх ордэнаў, а менавіта: у Віцебску – бернардзінцаў, дамініканцаў, трынітарыяў і базыльянаў, а ў Полацку – піяраў, бернардзінцаў і францішканцаў. У Полацку пакінулі толькі касцёл дамініканцаў, у які з па-езуіцкага касцёла перанеслі цела благаслаўлёнага Андрэя Баболі. Месца памерлага ў тым жа годзе ўніяцкага арцыбіскупа Мартусевіча заняў праваслаўны біскуп Смагард, які зрабіў



*Віцебскі, Магілёўскі і Смаленскі генерал-губернатар князь М.М. Хаванскі*

сталіцу ў Полацку, дзе размясцілася і кансісторыя.

1831, 1832, 1833 і 1834 гг. былі выключна неўраджайнымі, што спарадзіла голад на ўсёй Віцебшчыне. Неўраджай для землеўласнікаў у тыя часы быў значна цяжэйшы, чым цяпер, бо пры паншчыне патрэбен быў хлеб для ўладара і яго двара, а таксама пасеву, а яшчэ трэба было карміць падданых, а набыццё патрэбнай колькасці збожжа з-за складанай камунікацыі было справай няпростай. Тады ўрад (1834) абавязаў уласнікаў стварыць склады, куды кожны памешчык павінен быў змясціць неабходную на пасевы і харчаванне колькасць зерня. Для нагляду за складамі былі прызначаны "складскія дэпутаты". Такі гонар напаткаў і нашага летапісца***.

У 1835 г. пан Ірэній нічога не ўпісвае; у 1836 г. ён упісвае да Historji толькі буру, якая 14 чэрвеня з градам велічынёй з лясны яблык пранеслася з Барысаўскага павета праз паветы Лепельскі, Полацкі і Віцебскі. Гэтая віхура шырынёй у тры вярсты нішчыла ўсё на сваім шляху, вываірочваючы дамы і дрэвы, забіваючы і калечачы людзей і жывёлу[5]. Пасевы загінулі канчаткова. У сваіх крэўных, паноў Дуброўскіх у Асінаўцы, калі на наступны пасля буры дзень прыехаў іх адведаць, убачыў ён дом без даху і разбураныя ўсе гаспадарчыя будынкі.

Затое 1837 г. багаты на запісы. З іх мушу працытаваць наступныя: пажар, які знішчыў Полацк дашчэнту, і ўступленне ў шлюб аўтара з паннай Зоф'яй з Бальцэвічаў. Пра першую падзею, у адрозненні ад другой, – толькі згадка, пра другую ж, як важнейшую для Historji Domesticae, – падрабязнасцей шмат, бо пан малады мусіў набыць і чацвёрку коней, за якіх заплаціў 870 рублёў срэбрам, і элегантную каляску з фардэклем за 350 рублёў, і зрабіць прапанову, і ўзяць шлюб, і асесці з жонкаю ў Полькавічах. Як шлюбны падарунак пан малады атрымаў ад грамадскасці пасаду полацкага маршалка, гонар заслужаны, бо, як бачна з хронікі і шматлікіх "камандзіровак" (пан Ірэній ужо займаў пасаду сябра крымінальнага суда), ён быў надзвычай актыўны, не толькі выконваючы ўрадавыя абавязкі "з задавальненнем начальства", але і пастаянна запрашаўся як арбітр або суддзя на ўсялякія кампрамісы і палюбоўныя суды ў павеце. Узначальваў ён полацкую шляхту аднак

* Пан Ірэній падае прозвішчы толькі некаторых прэтэндэнтаў, а менавіта: на губернскага маршалка (пасля Ф. Цеханавецкага) – М. Карніцкага, на прэзідэнтаў судоў: крымінальнага – П.Ількевіча, цывільнага – С. Сіпайлы, сумленнага – Я. Глінскага. Полацкім павятовым маршалкам застаўся С. Убры. Адкрыў пасяджэнне генерал-губернатар Віцебскі, Смаленскі і Магілёўскі генерал князь Хаванскі ў прысутнасці грамадзянскага губернатара Шрёдэра *(заўвага У. Цеханавецкага).*

** Тут таксама некалькі старонак выразана *(заўвага У. Цеханавецкага).*

*** У 1834 г. адбыліся шляхецкія выбары, на якіх губернскім маршалкам быў абраны Я. Шадурскі. З іншых абраных пан Ірэній згадвае толькі прэзідэнта сумленных судоў К. Буйніцкага і полацкага маршалка С. Беліковіча *(заўвага У. Цеханавецкага).*

нядоўга: у 1839 г. сам адмовіўся ад пасады па невядомай прычыне.

Як маршалак у лютым 1839 г. ён прымае ў Полацку арцыбіскупа ўніяцкай царквы кс. Сямашку і валынскага – кс. Зубко, у прысутнасці якіх усе ўніяцкія святары Полацкага павета прынялі праваслаўную рэлігію. Выхад пана Ірэнія з шэрагаў губернскага чынавенства і нараджэнне сына Клеменса – вось адзіныя годныя ўвагі нататкі да 1844 г., бо апроч згадкі пра самагубства віцебскага губернатара Львова, “без найменшага жалю для ўсіх” (дадае летапісец), і надзвычай добрага ўраджаю, пасля якога яўрэі плацілі казачную суму ў 11 рублёў за бочку жыта, нічога не сустракаем*. Такой цаны ніколі не ведалі нашы памешчыкі; таму што за бочку жыта ў тыя часы плацілі ад 5 – 6 руб., аўса – 2 – 2½, а за вядро водкі – да 50 кап. Часова, аднак вельмі каратка, у 1828 г. цана на бочку жыта падскочыла да 50 рублёў, каб пазней вярнуцца да нармальных 5 руб. У 1840 г. у многіх месцах зноў падняліся цэны з-за неўраджаю і – на жаль – на больш працяглы час; высокія цэны, аднак, не цешылі віцебскіх памешчыкаў.

З 1843 г. пачынаюцца гады няшчасця і смутку для нашага летапісца. У ліпені халера зноў наведала некаторыя паветы, і Полацк адзначыўся вялікай колькасцю ахвяр. У наступным годзе памірае пані маршалкова, пакінуўшы мужу двух малых сыноў – Клеменса і Стася, і бо няшчасце адно не ходзіць, запісвае пан Ірэній, той год быў адным з найгоршых у гаспадарчым плане: ад мая да паловы верасня зусім без перапынку лілі дажджы, вада ў Дзвіне стаяла так высока, як вясною, зрывала пераправы і зносіла лодкі, дарогі так сапсаваліся, што маскоўскія купцы, якія звычайна з’язджаліся на слынны бешанковіцкі кірмаш, не маглі дабрацца да гэтага мястэчка. У тым нешчаслівым годзе пачалі жаць жыта ў другой палове верасня, а сеялі ў кастрычніку. У канцы верасня – першы моцны мароз, пасля якога зноў дажджы да самай зімы. Быдла і коні хварэлі і гінулі. Вясною цана на збожжа падскочыла да небывалых сум, а зерня для пашы ва ўсёй губерні не было ўжо ў лютым. Для пракорму сваіх падданых ён быў вымушаны ўзяць скарбовую пазыку па 2 р. на душу, прадаць значную частку інвентару, пазнаёміцца з ліхвярамі.

Наступны год не быў лепшы, на гэты раз засуха. Пан Ірэній ужо плоціць па 18 р. за бочку жыта – калі можа здабыць. І зноў неўраджай, новая скарбовая і прыватная пазыка, пошукі збожжа. Апроч гэтага смутку мала цікавых звестак, аднак натуе пан Ірэній, што ў 1845 г. загадана яўрэям апранацца “па-нямецку або па-руску” і забараняюцца ранейшыя строі з пантофлямі і пейсамі. Вызваляліся ад гэтага толькі тыя ізраэліты, што мелі менш за 10 і больш за 60 гадоў.

* У гэты час адбыліся выбары: у 1837 г. пан Васілеўскі падае ўсе прозвішчы абраных; маршалкамі былі абраны: губернскім – М. граф Борх, павятовымі: віцебскім – М. Енька, суражскім – Т. Багдановіч, веліжскім – Я. Ліпскі, гарадоцкім – К. Корсак, невельскім – А. Ласоўскі, себежскім – Я. Медунецкі, полацкім – І. Васілеўскі, дынабургскім – А. Моль, люцынскім – Г. Вельгорскі, лепельскім – А. Сялява, рэжыцкім – П. Гаражанскі. Старшынямі судоў: П. Мількевіч, Д. Смольскі і А. Магучы. На выбарах прысутнічалі генерал-губернатар Дзякаў і віцэ-губернатар Гейжалінскі.

Наступныя выбары адбыліся ў 1840 г. Сярод прозвішчаў ён падае толькі губернскага маршалка М. Борха і полацкага У. Рэвута.

Больш прозвішчаў з выбараў 1844 г.: губернскі маршалак М. Грабніцкі, павятовыя: полацкі – А. Рэвут, віцебскі – Энька, себежскі – Д. Жаброўскі, невельскі – С. Петрыкоўскі, гарадоцкі – З. Корсак, суражскі – Р. Багдановіч, веліжскі – Г. фон Грэйфенфельс, дрысенскі – Э. Снарскі, дынабургскі – В. Шадурскі, люцынскі – Я. Ліпскі, лепельскі – А. Грыгаровіч *(заўвага У. Цеханавецкага).*

У наступныя гады полацкі маршалак запісвае, апроч звестак, якія тычацца сям'і і надвор'я, пра прыезды саноўнікаў, хваробы і сумныя наступствы папярэдніх неўраджаяў; старанна ўпісвае таксама навіны, пачутыя ад надзейных асоб. Да гэтых апошніх належаць весткі аб з'яўленні ў верасні 1845 г. у Магілёўскай губерні вялікіх зграй белых ваўкоў, якія нападаюць не толькі на людзей і ад якіх ужо (гэта значыць, на працягу 2 месяцаў) загінула 27 асоб, а таксама копія аўтэнтычнага, вельмі грубага ліста кітайскага імператара да англійскай каралевы.

Неўраджай 1844 – 1845 гг. апроч матэрыяльнага разбурэння шматлікіх гаспадарак пацягнуў за сабою іншыя сумныя наступствы. Сяляне, якія дрэнна харчаваліся, бо дастаць збожжа было немагчыма, "пачалі дэмаралізавацца, спынілі працу, падавалі скаргі на сваіх паноў, што дзякуючы ім паміраюць з голаду", і, не знаходзячы ні падтрымкі, ні дапамогі, пачалі пакідаць свае вёскі і адыходзіць, каб знайсці хлеб. Гэты рух пачаўся ў красавіку 1846 г. у Далосцах Себежскага павета і цалкам ахапіў Себежскі, Невельскі і Люцынскі паветы, адкуль перакінуўся на павет Дрысенскі. На гэтым вялізным абшары сяляне папрадавалі інвентар, паразбіралі свае дамы, знішчылі пасевы і рушылі "туды, дзе стаіць дарога жалезная", тлумачачы, што "ідуць да Белага Цара, які дасць ім волю". Даведаўшыся пра гэты рух, з Пецярбурга ў Себеж прыбылі два флігель-ад'ютанты, а з губерні – уся ўлада, аднак нічога не дабіліся: стан збяднелых і згаладалых сялян быў такі, што вымушаны былі выклікаць тры палкі. Летапісец да кароткай аб гэтым звесткі дадае, "што баталій было некалькі, дзе нямала загінула сялян і жаўнераў", перш чым бунт быў уціхамірана. Сялян вярнулі назад, у родныя мясціны, дзе іх чакала яшчэ горшая, чым раней, нястача, а палкі расквартаравалі ў губерні. Губернатар Татарынаў у выніку гэтых хваляванняў атрымаў адстаўку, а на яго месца быў прызначаны цывільны губернатар Радзішчаў.

Гэта быў ужо другі масавы рух у нашай губерні, бо з фармуляра бацькі нашага летапісца бачна, што, выконваючы ў 1802 г. абавязкі полацкага земскага спраўніка, ён быў пасланы ў Гарадоцкі павет на заспакаенне бунту тутэйшых сялян. Здаецца, што прычына руху ў Гарадоцкім павеце была тая ж самая, што і ў іншых паветах у 1846 г., гэта значыць, голад, бо вядома, што 1802 г. быў адзначаны вялікім неўраджаем.

У выніку намаганняў губернскага маршалка Грабніцкага ўрад прыйшоў на дапамогу збяднелым памешчыкам: "недаімкі" – а іх назбіралася шмат – былі раскладзены на дзесяць гадоў, розныя грашовыя пакаранні (пені) – дараваныя і на пазыкі грамадзе асігнавана 400,000 рублёў, з тою толькі ўмоваю, што яны будуць раздадзены выключна для закупкі збожжа. Вышэйзгаданыя льготы хоць і з'яўляліся вельмі важнымі, на жаль, не былі дастатковымі: цана на збожжа ў маі 1847 г. даходзіла да 2 – 3 р. за пуд і ўсё расла, з-за чаго ўрад загадаў выдаваць у якасці пазыкі з усіх скарбовых складоў муку і збожжа, што там знаходзіліся, ажно да поўнага апаражнення складоў.

Да няшчасцяў 1847 г. пан Ірэній яшчэ дадае зноў халеру, якая восенню з Магілёўскай губерні прыйшла да нас праз Лепельскі павет, забраўшы шмат ахвяр з галоднага віцебскага люду. Летапісец не падае больш падрабязную інфармацыю пра новую эпідэмію, аднак апавядае, што яна нагадвала халеру 1831 г.

У гэты ж самы час з'явілася банда галаварэзаў пад кіраўніцтвам братоў Кавалеўскіх, якая налічвала да 30 асоб, што нападалі на двары, корчмы, цэрквы, пошты і падарожнікаў. Напалі яны, між іншым, на двор пана Дзедзеля ў Лепельскім павеце, якога, жадаючы прымусіць да аддачы гатоўкі, жорстка катавалі. Вестка пра тыя рабункі разнеслася па ўсёй губерні, усе ўзбройваліся і рыхтаваліся да адпору рабаўнікам, нягледзячы на тое, што Кавалеўскія арудавалі галоўным чынам у Лепельскім і Полацкім паветах. Для злову



*Віцебскі, Магілёўскі і Смаленскі генерал-губернатар князь А.М. Галіцын*

банды была выслана каманда грэнадзёраў, якая, гонячыся на падводах за ёю, затрымала Кавалеўскіх з сямю таварышамі ў студзені ў Абольцах Копыскага павета і даставіла ў Віцебск. Рэшта іх кампаньёнаў была злоўлена ўся да аднаго*.

Пад 1848 г. летапісец апавядае пра выпадак з касцёлам Св. Антонія ў Віцебску, які з Пецярбурга было загадана закрыць. Католікі прыйшлі да генерал-губернатара князя Галіцына, просячы яго заступніцтва. Князь прыняў дэпутацыю і абяцаў, што зробіць адпаведнае прадстаўленне ў міністэрства, звяртаючы ўвагу на тое, што гэты касцёл – адзіны, што застаўся ў горадзе – з'яўляецца парафіяльным для шматлікіх віцебскіх католікаў. Сапраўды, з шасці касцёлаў, што існавалі да 1833 г., па-дамініканскі стаяў у руінах, таксама як і Св. Барбары, фара была апячатана і ператворана ў склад, па-езуіцкі касцёл стаў саборам, па-піярскі – кірхай, а трынітарскі – зачынены. Са здзіўленнем генерал-губернатар даведаўся і перадаў дэпутацыі, што распараджэнне аб закрыцці касцёла Св. Антонія было выклікана прапановай кс. афіцыяліста Ласкага, які кіраваў Магілёўскай дыяцэзіяй. У выніку прадстаўлення князя Галіцына было адменена закрыццё святыні, і калі ксёндз Ласкі падчас прыезду ў Віцебск паехаў з візітам да генерал-губернатара, пачуў ад яго, як і ад маршалка Грабніцкага, вельмі непрыемныя рэчы**.

1848 г. быў бы значна лепшы за папярэднія, калі б не халера – сталы госць Віцебскай губерні. Лячылі яе, як паведамляюць афіцыйныя запісы, водкай з перцам і кроплямі аміяку, аднак лекі не надта дапамагалі, і вельмі хутка эпідэмія ахапіла Віцебск, Полацк і Бешанковічы, разыходзячыся па вёсках і мястэчках. Якую моц яна мела ў Полацкім і Лепельскім паветах, відаць па тым, што ў самых Бешанковічах памерла больш за 200 асоб на няпоўныя 3000 жыхароў, у маёнтку пана Рэвута Андрэеве пад Улай – 30, а ў Тэкліцавілі (тамсама) – каля 100. Тады памерлі: былы віцебскі губернатар генерал Жыркевіч, паны Гласка, Саковіч, а ў Уле і Бешанковічах – пробашчы ксяндзы Кучынскі і Зраніцкі;

* Пра банду Кавалеўскіх, віцебскіх Рынальда-Рынальдзіні, шмат легенд кружыць і да сённяшняга дня. Вядома, што яны належалі да шляхты і атрымалі пэўнае выхаванне. Яшчэ нядаўна мы бачылі дубіны, якімі ўзбройвалі па дварах, не маючы іншай зброі, вартаўнікоў на выпадак нападзення тых слаўных бандытаў *(заўвага У. Цеханавецкага).*

** У студзені адбыліся шляхецкія выбары, незвычайна бурныя. Губернскім маршалкам застаўся М. Грабніцкі, з іншых абралі: полацкім – Ю. Гласку, лепельскім – Р. Цеханавецкага, дынабургскім – М. Шадурскага. Падчас выбараў аднаму з кандыдатаў, вядомаму гульцу, была ўкінута карта бубновы туз, што зрабіла выбары несапраўднымі. Сход дэлегаваў дэпутацыю да Пецярбурга для падзякі цару і прадстаўлення просьбаў: аб змяншэнні на палову падаткаў на 15 гадоў, аб закладанні Зямельнага банка на 52 гады (?), аб дазволе аддаваць скарбовую пазыку збожжам – зярном, аб дараванні грашовых штрафаў (пені) *(заўвага У. Цеханавецкага).*

з роты Мекленбургскага палка, якая ішла з Віцебска праз Бешанковічы, большая частка засталася ў мясцовым шпіталі, дзе таксама памерлі суправаджаючыя яе капітан і палкавы капелан. Усіх агарнула паніка: уцякалі і сяляне з вёсак, і паны з двароў; і пан Ірэній забраў сваю сям'ю з маёнтка і перавёз у іншую мясцовасць, хоць пасля пералічэння шматлікіх выпрабаваных спосабаў ратавання ад эпідэміі, прапанаваных выбару чытача, ён робіць націск на тым, што халера ўвогуле не страшная, трэба толькі "быць вясёлым і не засмучацца". Праўда, гэты надзейны сродак ён упісаў у кнігу *post factum*, калі перапынілася "хвароба", якая развіталася з нашай старонкай у верасні пасля двух месяцаў страшнага свайго побыту.

Пасля смутных гадоў, як промень сонца пасля непагоднай ночы, меў пан Ірэній некалькі ясных хвілін. У яго падраслі сыны Клеменс і Стась, якіх да таго часу выхоўваў гувернант, радавіты француз Жан-Франсуа Скунцэвіч, з напалеонаўскага войска, які атрымліваў штомесяц 4 рублі. Пан Ірэній цешыцца нашчадкамі і іх поспехамі ў навуках. Ураджаі лепшыя, жыццё цячэ нармальна. Пад 1849 г. ён занатоўвае правоз праз Віцебск жалезных камлыгаў, якія цягнулі 16 пар валоў, для помніка ў Полацку, вынікам чаго стала знішчэнне ўшчэнт усіх мастоў па дарозе. Помнік гэты быў скончаны ў тым самым годзе і адкрыты ў 1850 г. у прысутнасці спадчынніка трону і ўсіх афіцэраў – удзельнікаў вайны 1812 г.[6] Шмат такіх ветэранаў знайшлося і сярод нашага грамадства, сярод іх маршалак Мількевіч, якога як старога і заслужанага салдата вялікі князь доўга распытваў пра бітву пад Полацкам.

У тым самым годзе адбыліся шляхецкія выбары*. Адзінымі годнымі ўвагі эпізодамі выбараў была прапанова пана С. Убрыя[7], першая ў нас з 1819 г., надання волі сялянам і адначасовай выпрацоўкі ўмоў вызвалення іх ад прыгону з зямлёю, што было прынята вялікай колькасцю галасоў; а таксама прапанова кн. Альдэнбургскага – пазыкі на прадукты сельскай гаспадаркі. Пазыкі павінны былі выдавацца з касы князя на збожжа з аплатай 5 % гадавых. Шкада, што апроч згадкі пра гэтую прапанову невядома, кім яна была прадстаўлена, і летапісец нічога не паведамляе пра яе далейшы лёс. У тыя часы цяжкіх эканамічных умоў краю праект адкрываў памешчыкам танны крэдыт (працэнтная стаўка ў пяцідзясятыя гады была вельмі высокай), які быў і тым выгадны, што не патрабаваў фармальнасцей,



*Полацк. Помнік у памяць вайны 1812 г.*
*Фота пачатку XX ст.*

* Губернскім маршалкам быў абраны М. гр[аф] Борх, старшынямі судоў – К. Свалынскі, Я. Лісоўскі і А. Цеханавецкі, з павятовых маршалкаў згадвае толькі полацкага – Рэвута, лепельскага – П. Цеханавецкага, дрысенскага – І. Лапацінскага.

Маршалак Борх пасаду сваю займаў нядоўга, бо 16 сакавіка 1852 г. у выніку канфлікту з генерал-губернатарам кн. Галіцыным быў высланы ў Яраслаўль *(заўвага У. Цеханавецкага).*

якія абцяжарвалі пазыкі са скарбовых крэдытных інстытуцый.

Значна больш усіх цікавіла ўвядзенне акцызаў. Шмат пра гэта гаварылася як аб праекце ўрада (акцыз быў зацверджаны ў наступным, 1851 г.). Гэты праект вельмі палохаў памешчыкаў, нягледзячы на тое, што атрыманне 75 к. з вядра выгнанай гарэлкі не прадстаўляла нічога страшнага для ўладароў вінакурняў, аднак у выніку саміх чутак пра падатак шмат хто не толькі пераставаў гнаць, але нават зачыняў свае корчмы. Дзіўна таксама тое, што ў прамове пры адкрыцці выбараў генерал-губернатар мусіў тлумачыць памешчыкам значэнне новага закона і заспакойваць іх боязь.

Наступныя гады даюць мала матэрыялаў: адны нататкі пра смерці, нараджэнні, цэны на збожжа, прызначэнні на пасады і – нараканні на слынны інвентар. Набліжаўся час і даспяваў праект, над якім працавалі шмат гадоў – наданне волі сялянам. Ужо ў канцы саракавых гадоў праз мясцовыя органы ўлады збіраліся матэрыялы для новага закона, патрабавалася прадстаўленне ад кожнага спісаў падданых і ўмоў іх побыту ў кожным асобным маёнтку, так званыя інвентары*. У 1854 г. урад загадаў раздаць свае інвентары, паводле якіх змяншалася паншчына і ўстанаўлівалася аднолькавая для ўсіх сялян губерні. Новая пастанова абвяшчала, што хата, незалежна ад колькасці душ, што жылі ў ёй, дае мужчынскай адслугі (прыгону) тры дні, а жаночай – адзін штотыдзень. Калі хата не валодае двума канямі, то адпрацоўвае толькі паўтары дні прыгону. Шарварку** (згону) – 12 у год, а за неадпрацоўку дзён згону або прыгону душа (адпаведна – гаспадар) павінна плаціць за мужчынскі дзень адслугі 15 кап. срэбрам, за жаночы – 10. Пастанова нармавала таксама заробкі дваровых людзей і службы па 20 рублёў срэбрам на год, а іншых, што не маюць кваліфікацыі, але знаходзяцца пры двары, па 8 рублёў срэбрам, а таксама звальняла ад паншчыны (прыгону і згону) ключнікаў, сотнікаў, царкоўных стараст. Адначасова, паводле таго закона, землі, якія знаходзіліся ў карыстанні сялян, не маглі быць адабраныя, а такскама забаранялася пераводзіць людзей з адной хаты ў другую. Час уводу ўрадавых інвентароў быў прызначаны на 10 мая.

Як раней з акцызам, абвяшчэнне пастановы напоўніла трывогай сэрцы памешчыкаў, якія бачылі ў ёй поўны заняпад сельскай гаспадаркі. “Немагчыма будзе такой малой службай апрацоўваць палі і аплочваць даўгі”, – даводзіць з роспаччу летапісец, нягледзячы на тое, што старая служба, як бачна з яго нататак, нічым не адрознівалася ад той, што ўстанаўліваў урадавы інвентар. “Як тут, – піша ён далей, – гаспадарыць у нас, дзе трэба халопам заўсёды даць насенне на пракорм, каня купіць і падатак заплаціць. Грамадзяне паглыбіліся ў найвялікшы смутак і няведанне, што рабіць падчас працяглых неўраджаяў і ў маёнтках, абцяжараных даўгамі са скарбу і ад прыватных асоб…” У гэтых апошніх словах крылася прычына роспачы памешчыкаў: ім здавалася, што з новаю пастановаю, якая мела на мэце нармаванне працы, зусім перапыніцца праца падданага, а застанецца толькі абавязак карміць яго ў дрэнныя гады і выплочваць падаткі з моцна абцяжараных даўгамі маёнткаў.

Гэты страх перад прывідам недахопу рабочых рук можа нават станоўча паўплываў на культуру [земляробства],

* У Віцебскай губернскай камісіі для складання інвентароў бралі ўдзел: губернатар генерал Ярмолаў, віцэ-губернатар, чыноўнік з міністэрства і абраныя грамадзяне: С. Падвінскі, Н. Спасоўскі, Багушэвіч, А. Цеханавецкі, А. Магучы, Я. Быкоўскі і Я. Хлюдзінскі *(заўвага У. Цеханавецкага).*

** Шарварак – сумесная праца сялян на збудаванні і рамонце дарог, мастоў, памешчыцкіх пабудоў і іншых аб’ектаў.

як раздражняльнік для млявых і адсталых землеўладальнікаў: было заведзена начынне, якога вельмі не хапала, і павялічаны жывы інвентар. Сам пан Ірэній адразу пасля прачытання новай пастановы набыў "амерыканскую чыгунную машыну" для малацьбы, рабочых коней і наняў парабкаў. Тое ж самае зрабілі і яго суседзі.

Увасабленне ў жыццё інвентара, аднак, не адбылося ў маі, і гэта дзякуючы намаганням (так сцвярджае летапісец) магілёўскага губернскага маршалка кн. Любамірскага, які спецыяльна дзеля гэтага ездзіў у Пецярбург*; аднак ужо адбылася змена ў адносінах памешчыкаў да так крытыкаванай пастановы. Такое ўражанне атрымлівае кожны, чытаючы папярэднія ламентацыі Ераміі, а адразу потым прыгожыя развагі над абавязкамі грамадзяніна адносна люду. Трохі было сораму, трохі асваення з новым законам, а можа, верх узялі пачуцці больш шляхетныя. Будзь што будзе, няма ўжо наракканняў на інвентары, і калі праз некалькі гадоў пачалося стварэнне камітэтаў для выпрацоўкі ўмоў будучага вызвалення ад прыгону і надання волі, у нашых губернях пры вялікай згодзе і вельмі хутка скончылася праца над вялікай рэформай. Гэта ўвойдзе прыгожай старонкай у гісторыю нашага краю.

Пана Ірэнія, заглыбленага ў роздум над інвентарамі, чакаў адзін з самых балючых удараў у яго цярністым жыцці. Як мы ўжо згадвалі вышэй, ён меў двух сыноў, якія з-пад апекі француза Скунцэвіча паступілі ў школы: Стась – у Полацкі корпус, а Клеменс – у Віцебскую гімназію**.

Пан маршалак не можа нахваліцца на першую з тых устаноў, дзе яго сын быў ахоплены сапраўды бацькоўскай апекай афіцэраў і настаўнікаў. У маі (1854) атрымаў бедны летапісец першую сумную вестку пра хваробу Стася. Паляцеў ён у Полацк, знайшоў сына ў лазарэце і з дазволу дырэктара (ген. Лермантава) забраў яго ў Полькавічы; аднак ні вясковае паветра, ні бацькоўскія клопаты не дапамаглі: здароўе да хлопца не вярнулася, і ён сканаў на руках у бацькі. Слёзы паступаюць да вачэй, калі чытаеш вялікае і роспачлівае апавяданне пана Ірэнія пра смерць сына, напісанае дрыжачай рукою.




*Віцебск. Будынак, у якім знаходзілася мужчынская гімназія ў 1803–1876 гг. Гравюра XIX ст.*

У хроніцы здарыўся вялікі перапынак, і калі трохі суцішыўся боль, пан Ірэній бярэцца за пяро. Сыплюцца нататкі пра надвор'е, адведванне суседзяў, смерці і хваробы. Далей ідуць вялікія вытрымкі з тагачасных газет пра вайну, якая пачалася тады ў Крыме. Пра вайну напісана шмат, бо пан маршалак любіў палітыку, скрупулёзна чытаў усё, што знаходзіў, і пакінуў для наступных пакаленняў экстракт здабытых ім звестак.

* Увядзенне інвентароў адбылося 10 студзеня 1856 г. *(заўвага У. Цеханавецкага).*

** У кнігу ўключаны малюнак, які прадстаўляе мундзір вучня Віцебскай гімназіі. Ён уяўляў сабою чорны фрак з чырвоным каўняром і рукавамі. На каўняры – падвойная залатая вышыўка, на фраку – залатыя гузікі: 9 для зашпільвання, па 3 на рукавах, па 3 па баках і 4 ззаду. Шапка з чырвоным кантам.

Дырэктарам быў Бернгоф, інспектарам – Лебедзеў *(заўвага У. Цеханавецкага).*

Ёсць таксама звесткі і пра халеру, бо пра гэтую госцю нічога даўно не чулі, аднак пра эпідэмію толькі кароткая згадка, pro memoria, бо віцябчанін да яе ўжо прызвычаіўся, трохі зверху на яе паглядаў. Між іншым, грамадства было занята, згодна з указам, стварэннем міліцыі (апалчэння), і пан Ірэній з гэтай нагоды едзе ў Віцебск. На ўсялякі выпадак, хоць ён і не баіцца халеры (якая, аднак, 800 чалавек у самым горадзе адправіла ў лепшы свет), піша тастамент, бо Віцебск быў галоўным асяродкам эпідэміі.

На стварэнне губернскага "апалчэння" было загадана даць па 12 мужчынскіх душ з тысячы, а хто валодаў менш чым сотняй душ, мусіў даць трох міліцыянераў. На экіпіроўку кожнага было асігнавана 15 руб., і вынесена пастанова браць падатак па 2 к. з душы, апроч таго, вырашана даць на ўтрыманне на працягу дзевяці месяцаў па 16 пудоў мукі і 1 ½ пуда круп, патрэбную бялізну і боты па пары на кожнага прадстаўленага салдата. Начальнікаў для міліцыі выбіралі з адстаўных афіцэраў. Праз месяц віцебскае "апалчэнне" рушыла на тэатр вайны[8].

У 1856 г.* было скасавана генерал-губернатарства Віцебскае, Магілёўскае і Смаленскае, якое існавала з 1772 г., і ліквідаваны ўвесь прыдворны штат, які перавышаў шэсцьдзясят асоб. Апошнім генерал-губернатарам быў у нас генерал-ад'ютант кн. Урусаў, які пакінуў пасля сябе вельмі прыемную памяць; яго папярэднікамі былі генерал-ад'ютанты Дзякаў, кн. Галіцын (пры ім ваенным губернатарам быў славуты ген. Ярмолаў), Ігнацьеў, кн. Хаванскі.

Крымская кампанія перапыніла працу над скасаваннем прыгоннага права, з яе канцом зноў пачалася ў губернях дзейнасць камітэтаў па наданню вольнасці расійскаму халопу. На 15 студзеня 1858 г. быў прызначаны першы з'езд павятовых маршалкаў для абмеркавання парадку спраў, аднак разбіраліся пераважна стасункі паміж губернскім маршалкам Юр'евічам і губернатарам Калакольцавым, у той час вельмі напружаныя. Маршалкі раздзяліліся, як, зрэшты, і грамадства, на дзве партыі: арыстакратычную (як называе яе пан Ірэній), якая падтрымлівала губернатара, і дэмакратычную – маршалка. Пан Ірэній належаў да другой; шкада, што ён не расказвае больш падрабязна пра прычыны варожасці, што падзяляла грамаду ў такую важную хвіліну.

У сакавіку адбыўся новы з'езд для выбару сяброў губернскага камітэта, так званага сялянскага, у склад якога ўвайшлі маршалкі паветаў, два чалавекі ад кароны (былыя маршалкі П. Мількевіч і П. Цеханавецкі) і па два дэлегаты ад кожнага павета.

Гэта апошняя звестка *ex publicis***, унесеная ў сямейную хроніку пана Васілеўскага. Далей прыпіска алоўкам: "У 1859 г. сын мой Клімусь, што знаходзіўся ў ваеннай службе ў Нізоўскім палку, жыццё сваё скончыў, і я перастаў ужо запісваць нататкі ў гэтай кнізе. Агарнулі мяне смутак і роспач!.."

Больш ужо пан маршалак нічога не ўпісваў ажно да смерці (1872 г.). Ён запісваў усё: і надвор'е, і цэны, і плёткі, і артыкулы з часопісаў – для сваіх каханых сыноў. Калі ж яны развіталіся са светам, ён не меў для каго збіраць тое, што лічыў скарбам жыццёвых або цікавых звестак.

Я ўважліва чытаў старонкі хронікі, якую аўтар напаўняў успамінамі дзён смутных

* Выбары, якія адбыліся ў 1856 г., былі вельмі бурныя. Частка шляхты была супраць выбару маршалкам Юр'евіча, якога жадала скінуць. Частка ж настойвала на выбары. Здараліся гарачыя эпізоды. Самі выбары цягнуліся цэлы месяц. Губернскім маршалкам стаў Ст. Юр'евіч, старшынямі судоў: Э. Снарскі, А. Цеханавецкі, К. Свалынскі, лепельскім павятовым маршалкам – Н. Спасоўскі, полацкім – Я. Рэвут.

Папярэднія выбары 1853 г. былі таксама бурнымі, асабліва ў паветах Дрысенскім і Віцебскім *(заўвага У. Цеханавецкага).*

** Ex publicis – ад грамадскасці (лац.).

і вясёлых, што бачыў і што чуў. Часамі ён наіўны, часамі імпануе глыбокай верай, нечым пачцівым, шляхетным і праведным. А колькі роспачы, колькі болю ў тых апошніх вершах, якімі ён скончыў свае нататкі…

На дарозе з Бешанковіч у Віцебск з тракта бачны сярод старых дрэў белы двухпавярховы палац. Маёнтак належыць сялянам, дом пусты, дзверы зніклі, вокны без шыбаў, мала гонты засталося на даху палацыка пана Ірэнія, моцнай яшчэ пабудовы, а ззаду, пад гнілымі крыжамі, побач з жонкай і дзецьмі, у зарослым садзе спачывае вечным сном на чужой ужо зямлі пан маршалак Васілеўскі.

***У. Цеханавецкі.***
***Бачэйкава, верасень 1909 г.***

***Ciechanowiecki Wł. Historja Domestica p. Ireniego Wasilewskiego, marszałka polockiego // Z okolic Dźwiny. Wilno, 1912. S. 210–218.***
***Пераклад з польскай і каментары Людмілы Хмяльніцкай.***

**Каментарый:**

1. Уладзіслаў Цеханавецкі (1860 – 1910) – гісторык-аматар, краязнавец, аўтар некалькіх кніг. Генеалагічны даведнік "Цеханавецкія герба Дуброва", выдадзены на польскай мове ў 1997 г. у Варшаве калектывам аўтараў у складзе Станіслава Думіна, Анджэя Рахубы і Іяланты Сікорскай-Кулешы, паведамляе пра яго наступнае:

"Уладзіслаў Міхал Стэфан Эмануэль, сын Юзафа Паўла.



*Уладзіслаў Цеханавецкі падчас вайсковай службы*

Ужываў імя Уладзіслаў. Нарадзіўся 25 XI 1860 г. у Гопчыцы. У 1862 – 1868 гг. атрымаў хатнюю адукацыю ў Францыі, а таксама ў семінарыі айца Hetcha пад апекай біскупа Dupanloup. 7 II 1878 г. як дабраахвотнік трэцяй катэгорыі ўступіў у 3 Смаленскі полк уланаў. У той самы час вучыўся вайсковай справе як юнкер кавалерыйскай школы ў Цверы. Пасля яе заканчэння атрымаў званне (3 X 1880 г.) партупей-юнкера і быў прызначаны ў 6 Клясціцкі полк гусараў, які пазней быў перайменаваны ў 18 Клясціцкі полк драгунаў. У 1882 г. полк стаяў у Мінску. Служыў у войску да 1890 г. Быў павышаны па службе спачатку да карнета (23 II 1881 г.), потым паручніка (26 VI 1885 г.) і штаб-ротмістра (26 II 1887 г.). Ужо ў войску выявілася яго цікавасць да гісторыі. У 1885 г. на падставе архіўных крыніц, сабраных у архіве Навуковага камітэта Галоўнага штаба, апрацаваў гісторыю свайго палка, якая была надрукавана ў 1886 г. За гэтую працу атрымаў асабістую падзяку ад Аляксандра III (выказаную ў загадзе камандуючага корпусам 25 II 1887 г.), а таксама



*Уладзіслаў Цеханавецкі. Фота каля 1910 г.*

кампенсацыю выдаткаў. Тады ж атрымаў гесэнскі ордэн Філіпа Вялікадушнага 1 класа за вайсковыя заслугі (29 V 1887 г.) і рускі ордэн Св. Станіслава 3 класа (16 IV 1888 г.). 17 VIII 1887 г., застаючыся ў спісах палка, быў прызначаны асабістым ад'ютантам камандуючага 7 корпусам арміі. Дрэнны стан здароўя і неабходнасць займацца маёнткам пасля смерці бацькі сталі нагодай для звальнення з вайсковай службы. Адстаўку ў чыне ротмістра ён атрымаў 29 III 1890 г.

Асеўу атрыманым у спадчыну пасля [старэйшага брата] Баляслава Бачэйкаве, аддаючыся гаспадарцы, публічнай дзейнасці, пісьменніцкай і навуковай працы. Яму ўдалося павялічыць фартуну, якая зменшылася ў часы [яго бацькоў] Паўла і Александрыны. Нам невядомы кошт усяго маёнтка Уладзіслава. Вядома, што на пачатку дзевяностых гадоў ён валодаў 3000 дзесяцін у Лепельскім павеце і 280 дзесяцінамі ў павеце Барысаўскім; непадзельна з братам Баляславам валодаў каля 2000 дзесяцін лесу і 1000 дзесяцін ворнай зямлі. У 1898 г. набыў у Станіслава Цеханавецкага Малую Гару ў Барысаўскім павеце. З дапамогай Баляслава адбудаваў і перабудаваў палац у Бачэйкаве пасля пажару 1908 г. Засноўваў фабрыкі, прамысловыя таварыствы, арганізоўваў сельскагаспадарчыя выставы. Каля 1900 г. інвесціраваў капітал у будоўлю фабрыкі суперфасфату ў Стрымешычах у Заглэмбю Дамброўскім, дзе быў старшынёй наглядной рады (ажно да смерці ў 1910 г.); меў таксама шматлікія кантакты з прадпрымальнікамі з Францыі, якія тычыліся лясных маёнткаў і сплаву лесу ў Рыгу.

Уладзіслаў на працягу шэрагу гадоў займаў ганаровую пасаду міравога суддзі Лепельскай акругі. У 1897 г. быў адзначаны срэбным медалём у памяць панавання Аляксандра III. Праз няпоўны год пасля заняцця ў шосты раз судзейскай кадэнцыі, загадам яго імператарскай міласці ад 1 I 1904 г. атрымаў чын стацкага саветніка, а потым (верагодна, пасля выхаду ў адстаўку з цывільнай службы) правадзейнага стацкага саветніка (ранг IV класа, цывільны адпаведнік звання генерал-маёра). Карыстаўся павагай і папулярнасцю сярод суграмадзян. Яго роля ў асяроддзі памешчыкаў як апекуна непаўналетніх нашчадкаў, судовага выканаўцы тэстаментаў, сяброўства ў земстве вынікала таксама з яго вялікіх сувязяў з губернскімі і пецярбургскімі ўладамі. Лічыўся чалавекам вельмі энергічным, быў старшынёй некалькіх мясцовых інстытуцый. Напрыклад, пасля вялікага пажару ў Віцебску ў 1901 г. ён быў абраны старшынёй камітэта дапамогі пагарэльцам.



*Герб Цеханавецкіх Дуброва*

Меў няздзейсненыя амбіцыі выканання сур'ёзнай палітычнай ролі ў Дзяржаўнай думе.



*Уладзіслаў Цеханавецкі з жонкаю Марыяй Луізай з Кіменсаў*

Яго цікавілі палітыка, гісторыя, генеалогія, грамадскія справы, а таксама хімія. Ён быў аўтарам артыкулаў у розных сферах, апублікаваных у польскіх (напрыклад, "Przegląd Techniczny"), рускіх і замежных часопісах. З 6 XI 1909 г. быў сапраўдным сябрам Гісторыка-генеалагічнага таварыства ў Маскве. На падставе сямейнага архіва, асабліва гаспадарчых дакументаў, апісаў гісторыю Бачэйкава ад першых згадак, якія паходзяць з паловы XV ст., да 1861 г. у працы, выдадзенай уласным коштам у 1905 г. Архівам у Бачэйкаве карыстаўся таксама Юзаф Ігнацій Крашэўскі, калі вёў пошукі для сваіх гістарычных і літаратурных прац.

Уладзіслаў быў аматарам і знаўцам мастацтва. Меў талент да малявання, захаваліся выкананыя ім палітычныя і грамадскія карыкатуры. Калекцыяніраваў старое польскае шкло, мініяцюры і парцаляну.

Ажаніўся з Марыяй Луізай Кіменс (нарадзілася 19 XII 1869 г. у Чарнаміне на Падоллі – памерла 15 I 1952 г. у Лондане), англіканскага веравызнання, з якога перайшла ў каталіцызм, дачка Рышарда (1831 – 1876), інжынера, заснавальніка некалькіх цукровых заводаў на Падоллі (у тым ліку ў Чарнаміне), і Алаізы Whitmore-Perks (1838 – 1917) з роду баронаў Perks. Шлюб адбыўся 23 VI 1892 г. у Варшаве ў касцёле візітак. Сведкамі былі граф Стэфан Калона-Валеўскі і граф Пётр Плятэр-Зіберг.



*Палац Цеханавецкіх у Бачэйкаве. Фота пачатку XX ст.*

Муж і жонка аселі ў Бачэйкаве, якое зноў стала асяродкам таварыскага жыцця на Беларусі. Марыя валодала ўласным маёнткам Суша. Прымала таксама ў сваіх дамах у Варшаве і Пецярбургу. Шмат часу прысвячала грамадскай працы, дапамагаючы мясцовым сялянам, засноўваючы шпіталі, установы асветы і школы.

Уладзіслаў памёр ад сардэчнага прыпадку ў Бачэйкаве 23 IV 1910 г.; быў пахаваны на сямейных могілках у Бачэйкаве, заснаваных у 1884 г. Ужываў тытул графа. З гэтым тытулам выступае, між іншым, у паведамленні аб смерці, надрукаваным сям'ёю ў Францыі.

Марыя пасля смерці Уладзіслава жыла ў Пецярбургу дзеля выхавання сына. Пасля рэвалюцыі вярнулася ў Бачэйкава, потым праз Скандынавію злучылася з сынам. Пасялілася ў Варшаве, дзе вяла дом халастога брата Р.Е. Кіменса, брытанскага дыпламата. Салон "пані Марыі" ў палацыку на вуліцы Пенькнай, які называлі "малой брытанскай амбасадай", яднаў як палякаў, так і чужаземцаў, асабліва дыпламатаў. Гады II Сусветнай вайны яна правяла ў Польшчы, перадусім на Палессі ў Скірмунтаў, пазней праз Львоў і Беласток вярнулася ў Варшаву ў маі 1940 г. Паўстанне перажыла ў Варшаве. Пасля вайны выехала ў Англію, пазней вярнулася ў Кракаў, каб злучыцца з сям'ёю. Пасля смерці брата зноў выехала ў Англію, дзе памерла ў Лондане 15 I 1952 г.

Мелі сына Ежы.

Уладзіслаў надрукаваў, між іншым, наступнае: *История 18 драгунского Клястицкого Его Королевского Высочества великого герцога Гессенского полка. 1651. 1806 – 1886. Варшава, 1886 (VIII, 286, 144 стр., 19 карт); Historya Acetylenu // Przegląd Techniczny. 1897. Nr. 13. S. 206 – 213; Хроника одного поместья. Бочейково. Витебск, 1905.*

Падчас I Сусветнай вайны з-за пагрозы набліжэння фронту па распараджэнні Марыі была вывезена з Бачэйкава ў Маскву мэбля, абразы, самыя каштоўныя рэчы, а таксама сямейны архіў. Пошукі з мэтаю знайсці гэтыя калекцыі дагэтуль не прынеслі вынікаў" (*Dumin S., Rachuba A., Sikorska-Kulesza* J. Ciechanowieccy herbu Dąbrowa. Warszawa, 1997. S. 139 – 141).

2. Сёння пра род Васілеўскіх вядома няшмат. "Гербоўнік віцебскай шляхты" паведамляе пра яго наступнае: "Васілеўскія гербу Астоя, які прадстаўляе два няпоўныя месяцы ля сярэдзіны мяча ў блакітным полі, з 5 страусавымі пер'ямі на шлеме; Васіль Багданавіч Васілеўскі, віцебскі земскі пісар, меў маёнтак Аўдзевічы ў Полацкім ваяводстве, у 1579 г.



*Хрысціян фон Мартэнс. Бешанковічы.*
*З рукапіснага "Дзённіка рускай кампаніі 1812 г.". Акварэль*



*Хрысціян фон Мартэнс. Бешанковічы.*
*З рукапіснага "Дзённіка рускай кампаніі 1812 г.". Акварэль*

ад князя Клінскага набыты; другое і трэцяе пакаленні, як сведчыць вечнае права, у 1605 г. атрымалі ад полацкіх айцоў-езуітаў зямлю, што называецца Спаская; 4-га і 5-га пакаленняў тычацца два дакументы: межавы ліст маёнткаў Міткевіч і Андрэевічы 1634 г. і тэстамент 1656 г., па якому ўладанні былі запісаны братам; у 6-м пакаленні права на вечны продаж маёнтка Полькавічы ў Полацкім ваяводстве панамі Козічамі ў 1680 г., прывілей польскага караля Аўгуста II на пасаду віцебскага падстолія, прывілей таго ж караля 1703 г. на пасаду гараднічага, інвентар маёнтка Аўдзевічы 1713 г., працэс 1717 г. пра дакументы, што загінулі падчас спалення Масквой горада Віцебска, інтэрцызійны дакумент паміж братамі 1732 г.; у 7-м пакаленні дэкрэт эксдывізітарскі 1761 г. паміж братамі, прычым 8-е выводнае пакаленне прадставіла доказы на зямельныя ўладанні Клімава, Саннік, Полькавічы і іншыя, пасады і ўшанаванні, атрыманыя ад папярэднікаў, а таксама бездакорную працэдэнсію і шляхецкае паходжанне. Згодна з гэтым Віцебскі земскі суд фамілію, што здаўна ў Полацкім і Віцебскім ваяводствах квітнее, зацвердзіў ва ўсіх прэрагатывах і вольнасцях шляхецкага стану" (Herbarz szlachty witebskiej. Kraków, 1898. S. 139 – 140).

3. Уладаром Бешанковіч на той час быў граф Ірэніюш Храптовіч (1775 – 1850), які на пачатку XIX стагоддзя ўзвёў у спадчынным уладанні двухпавярховы палац, побач з якім разбіў пейзажны англійскі парк.

4. Размова ідзе пра падзеі 1821 г., калі імператар Аляксандр I рабіў у Бешанковічах агляд свайго гвардзейскага корпуса. Разам з корпусам знаходзіўся лейб-гвардыі Сямёнаўскі полк, шэфам якога быў сам імператар. Сямёнаўцы паводле манаршага загаду вясною 1821 г. былі выпраўлены са сталіцы імперыі ў бок заходняй мяжы. Гэта было пакаранне за непаслушэнства, выказанае восенню 1820 г. ніжэйшымі чынамі палка, якія адмовіліся падпарадкоўвацца фельдфебелю, самавольна выйшлі на пераклічку і падалі начальству скаргу на ўціск палкавога камандзіра. І хоць адзінай прычынай іх выступлення было «совершенное остервенение» супраць палкоўніка Шварца, бестактоўнага і крутога нораву немца, якога на пасаду прызначыў А.А. Аракчэеў, імператару Аляксандру падалася ў гэтым супраціве рука карбанарыяў, што ўжо раздувалі рэвалюцыйны агонь у Італіі і Іспаніі. За бунт сямёнаўцы былі прыкладна пакараны – завадатараў білі бізунамі і шпіцрутэнамі, выключылі з вайсковага звання і саслалі на катаржныя працы, шмат каго разжалавалі і перавялі ў аддаленыя гарнізоны (падрабязней аб гэтым гл.: *Великий князь Николай Михайлович*. Император Александр I // Александр I. Сборник. М., 2007. С. 188 – 199).




*Хрысціян фон Мартэнс. Дзвіна ля Бешанковіч.*
*З рукапіснага "Дзённіка рускай кампаніі 1812 г.". Акварэль*

Праз паўгода пасля гэтых падзей Аляксандр І загадаў Сямёнаўскаму палку выступіць з Пецярбурга ў бок Вільні. Мэта паходу афіцэрам была не зусім зразумелая, аднак, як пісаў будучы дзекабрыст Мікалай Ларэр, яны былі рады "падыхаць чыстым паветрам і на час забыцца пра змрочныя вільготныя манежы" (*Лорер Н.И.* Записки моего времени. Воспоминание о прошлом // Мемуары декабристов. М., 1988. С. 331 – 332). Полк спыніўся, дайшоўшы да Бешанковіч, дзе злучыўся з гвардзейскім корпусам, які быў размешчаны па навакольных вёсках.

Аляксандр І прыбыў з Царскага Сяла ў Бешанковічы 16 верасня і спыніўся ў доме графа Храптовіча. Хутка войску быў прызначаны агляд, і "незлічоныя палкі пакрылі стройнымі радамі палі Бешанковіч". Імператар аб'ехаў фронт, пасля чаго быў запрошаны афіцэрамі на абед, да якога рыхтаваліся загадзя і вельмі старанна.

Кожны з афіцэраў корпуса ахвяраваў на банкет па паўімперыяла (залатая манета наміналам 5 рублёў). На адлегласці вярсты ад палаца Храптовіча з саломы і ельніку была збудавана асобная зала, якую афіцэры світы імператара ўпрыгожылі зброяй і кветкамі.




*Хрысціян фон Мартэнс. Царква ў Бешанковічах.*
*З рукапіснага "Дзённіка рускай кампаніі 1812 г.". Акварэль*




*Der große Sturm und Hagel in Witebsk Gouvernement in Russland. 1836*

Асобныя кур’еры былі выпраўлены ў Рыгу за вінам і ў Пецярбург за капельмайстрам, які павінен быў кіраваць аркестрам з некалькіх музыкантаў. Сталы накрылі на 1200 кувертаў, прычым паставілі іх такім чынам, што ўсе госці былі звернуты тварамі да імператара, які сядзеў у цэнтры за асобным сталом разам з камандуючым корпусам і генерал-ад’ютантамі. Як пісаў у сваіх мемуарах лейб-медык Аляксандра I Дзмітрый Тарасаў, над галавою манарха “ўзвышалася прамяністае ззянне”, якое ўтваралася з размешчаных адмысловым чынам штыкоў, сабель і іншай зброі. Усе тосты суправаджаліся гарматнымі стрэламі, ад якіх “стагнала зямля і траслася”, а таксама батальённым агнём пяхоты (*Тарасов Д.К.* Император Александр I. Последние годы царствования, кончина и погребение. Пг., 1915. С. 53 – 55).

Шыкоўна наладжаным святам гвардзейцы спадзяваліся атрымаць найвышэйшае дазваленне на вяртанне ў сталіцу. Аляксандр, якому прыём сапраўды спадабаўся, тым не менш пакінуў корпус зімаваць у Віцебскай і Віленскай губернях, а сам 25 верасня вярнуўся ў Царскае Сяло.

5. У адным з нямецкіх часопісаў 1836 г. пад загалоўкам “Der große Sturm und Hagel in Witebsk Gouvernement in Russland” былі змешчаны малюнак і карэспандэнцыя пра гэтую буру. Дата падзеі была недакладна пераведзена з юліянскага календара на грыгарыянскі (14 чэрвеня адпавядае 26 чэрвеня). У карэспандэнцыі паведамлялася наступнае:

“**Вялікая бура і град у Віцебскай губерні ў Расіі.**

25 чэрвеня 1836 г. ваколіцы Віцебска пацярпелі ад жудаснай буры; на шчасце, яе працягласць была зусім кароткай, аднак спусташэнні, нягледзячы на гэта, страшныя. За некалькі хвілін тысячы дрэваў былі паламаныя, выдраныя з каранём і закінутыя далёка ад свайго ранейшага месца, паўсюль былі да падмуркаў разбураны цэлыя будынкі, сярод якіх таксама мураваныя цэрквы, жылыя дамы і хаты. Людзі і жывёлы былі аднесены на многія сотні крокаў і збітыя, а потым град вагой у паўфунта паставіў кропку ў гэтай пачварнай сцэне, пакрываючы саванам разбураны надзел і надзею некаторых сялян. Падчас гэтай жудаснай прыроднай з’явы адбылася паміж іншым вартая заўвагі падзея. Адзін з працаваўшых у полі сялян, падхоплены бурай, упаў у суседні пруд, з якога ён быў зноўку выцягнуты ўверх новым ударам ветру і кінуты на зямлю. Жах і здзіўленне прывялі яго ў лагер хворых, аднак без небяспекі для яго жыцця. Шкода ў 5 раёнах Віцебскай губерні, нанесеная палям, быдлу, будынкам і цэрквам, падлічваецца пакуль што ў 600 000 рублёў. Адна жанчына была забітая, шмат людзей было больш-менш цяжка паранена. Таксама і ў Пскоўскай губерні гэтая бура прынесла ў той самы дзень істотныя спусташэнні” (*Пераклад з нямецкай Алега Лісоўскага*).

6. Помнік у памяць вайны 1812 г. у Полацку быў зроблены па праекце архітэктара з Пецярбурга Антоніа Адаміні, італьянца швейцарскага паходжання. Ён уваходзіў у лік 16 помнікаў, якія па загадзе Мікалая I былі ўсталяваны на месцах баёў 1812 г. і па велічыні, аздабленню і важнасці падзяляліся на тры класы. Помнік у Полацку адносіўся да 2 класа. Адліваўся ён на Луганскім ліцейным заводзе і складаўся з 1985 частак, якія да пачатку снежня 1849 г. былі дастаўлены ў Полацк і сабраны на месцы ўстаноўкі – Корпуснай плошчы. Помнік быў знішчаны на пачатку 1930-х гг. і на яго месцы пастаўлены помнік У.І. Леніну. Помнік у памяць вайны 1812 г. быў адноўлены на старым месцы ў снежні 2009 г.

7. Убры (d'Oubril) Сяргей Паўлавіч, прадстаўнік бельгійскага шляхецкага роду, з якога выйшла некалькі пакаленняў буйных дыпламатаў Расійскай імперыі. Уладальнік маёнтка Клясціцы (зараз Расонскі раён Віцебскай вобласці). Быў пляменнікам упраўляючага Калегіяй іншаземных спраў Пятра Якаўлевіча Убры (1774 – 1847). У 1823 г. з залатым медалём скончыў Царскасельскі ліцэй, пэўны час знаходзіўся пры рускай місіі ў Мадрыдзе (Памятная книжка лицеистов 1811 – 1911. Издание Собрания Курсовых Представителей Императорского Александровскаго лицея. СПб., 1911. С. 10).

Летам 1832 г. шмат шуму нарабіла яго выступленне падчас шляхецкіх выбараў у Віцебскай губерні. Маючы намер балатавацца на пасаду маршалка Полацкага павета, 4 чэрвеня С. Убры зрабіў на шляхецкіх выбарах у Віцебску прамову па-французску, у якой заклікаў шляхту скласці апазіцыю чынавенству і ўмацаваць сваё становішча. Хоць выступленне і не ўтрымлівала крытыкі існуючага ладу, знайшліся добразычліўцы, якія данеслі пра дзёрзкае выказванне памешчыка, што нядаўна прыбыў у Клясціцы з-за мяжы, грамадзянскім і жандармскім уладам губерні, а тыя ў сваю чаргу – III Аддзяленню і асабіста імператару Мікалаю I. Была распачата "Справа па найвышэйшым дазволе, заведзеная з нагоды недарэчнай прамовы калежскага асесара Убры на шляхецкіх выбарах у Віцебскай губерні".

Разбіральніцтва расцягнулася на некалькі гадоў. На месцы дазнанне ўзначаліў Віцебскі, Магілёўскі і Смаленскі генерал-губернатар М.М. Хаванскі, які, спасылаючыся на звесткі нейкага памешчыка, паведаміў у дэпартамент паліцыі Міністэрства ўнутраных спраў меркаванне, "ці не меў на пана Убры ў гэтай справе ўплыву і ці не кіраваў ім у гэтым вядомы вершатворца Пушкін, з якім Убры выхоўваўся і навучаўся ў адной навучальнай установе – Ліцэі і з якім, як вядома, знаходзіўся ён у перапісцы". Падчас далейшага следства меркаванне гэтае, аднак, не пацвердзілася, а Сяргей Убры, трэба меркаваць, не без хадайніцтва свайго высокапастаўленага дзядзькі, абышоўся толькі вымоваю за сваю "недарэчную" прамову і быў адпраўлены ў ганаровую высылку ў Калугу чыноўнікам для асобных даручэнняў пры мясцовым губернатары (*Дейч Г.М.* Всё ли мы знаем о Пушкине? М., 1989. С. 33 – 41).

8. Пра падзеі Крымскай вайны (1853 – 1856) віцебскі гісторык і этнограф М.Я. Нікіфароўскі (1845 – 1910) пісаў наступнае: "Грозные события севастопольской войны отозвались в Витебске тем ошеломляющим ударом, при котором и после которого чувствовалось, правда, что жизнь не оставила течения, но что она как-то круто изменяет положение вещей, рассчитанные планы ведет к нерассчитанному концу. Уже необычайные явления природы того времени, точно по сговору, пророчили что-то особенное, а в устах легковерных указывали на неминучую грозу, которою, по стечению обстоятельств, было затруднительное положение России. Так, чуть ли не в течение целого 1854 г. зловеще появлялась длиннохвостая комета, что совпало с усиленным рекрутским набором, два года сряду опустошавшим мужскую молодежь (разумеется, податную), которая или попадала «под красную шапку», или исчезала в безвестной отлучке с местожительства. 29 января 1855 г. последовал призыв государственного ополчения, что, дополняя народные беды по рекрутскому набору, по воспоминаниям живых тогда свидетелей войны 1812 г., воочию говорило о чрезвычайном положении государства. Поразительный зной и бездожие начала

лета 1856 г., повлекшие нескончаемые лесные, торфяные и деревенские пожары, день ото дня все больше и больше туманили видимое пространство, на котором в кровавом облике виднелись то солнце, то луна; кажется, это страшило и тварей небесных… 7 июля 1855 г., около 4 час. пополудни, все это разразилось над Витебском страшным ураганом, с градом и молнией, чрез полчаса сжегшей на одной из городских круч (Узгорских) деревянную церковь Св. Иоанна Богослова. Произведя в городе опустошения и причинив ему и жителям убытку на сумму до 73,000 руб., ураган с тою же стремительностью и разрушением понесся в сторону дороги, ведущей в г. Сураж, где еще сравнительно недавно можно было видеть (вблизи ст. Кордонской) следы опустошения на изуродованных березах вдоль дороги, на величавых раньше рощах и попутных лесах. Как велика была сила этого ураганного движения, можно судить из слов пострадавшего рабочего, с возом сена застигнутого на открытом поле: воз с лошадью катило, как мяч, до первого оврага… <…>

Все эти явления, волновавшие многие тогдашние умы, проходили среди следующих событий первостепенной важности: 18 февраля 1855 г. неожиданно скончался популярнейший государь Николай Павлович; с театра войны, где находился цвет русских сил, родственники, друзья и знакомые оставшихся здесь получали вести одна другой мрачнее; к Севастополю спешно следовали, между прочим, и через Витебск, новые и новые подкрепления, едва успевавшие принять здесь святительское напутствие и окропление св. водою; то сплавом по Двине, то стадными усилиями местных клячонок следовали к местам назначения грозные орудия – чугунные, медные, стальные; появились невиданные доселе «бородатые солдаты» далеко не молодого возраста; они недолго длили свое пребывание в городе и, после спешной подучки ружейным приемам, куда-то спешно же укрывались; вместе и вслед за ними двигались новые, но уже безружейные «бородатые солдаты», в черных казакинах, с единственными орудиями – топорами и лопатами. Последние полки (саперы) вершили смятение: правда, шли люди военные, но с могильными доспехами… Наравне со всею тогдашнею Россиею приуныла жизнь Витебска, потому что и при новом воцарении война продолжалась с тою же энергией, все еще одинаково плакали и томились как город, так и деревня, пока обидный парижский мир 18 марта 1856 г. не принес кое-какого облегченного вздоха. Вскоре чрез Витебск обратно проследовали полки, не успевшие даже дойти до театра войны, проследовали с ласкающими звуками маршей, достаточными остановками в городе, оркестровою игрою на опустевших было городских бульварах. Одновременно с сим стали поворачивать назад, в лайбах и тележным путем, в свою очередь, не достигшие места назначения пушки, из коих одной, довольно значительного калибра, чугунной, так-таки и суждено было не только искупаться, но и значительное время пролежать на двинском дне, у бывшего деревянного моста, и отправиться из Витебска значительно позже своих подруг. Тут же замелькали разоруженные ополченцы, из которых рядовые поспешили к своим деревенским очагам, а их начальники еще несколько лет продолжали красоваться в изящных офицерских кафтанах серого и черного сукна, с ополченскими крестами на козырьковых шапках. Наконец, в силу высочайшего повеления от 3 мая 1856 г., внесены и на вечные времена помещены в Николаевском кафедральном соборе знамена саперных дружин витебского государственного ополчения, № 1, 2 и 3, пожалованные им 14 октября 1855 года; первоначально они стояли у обоих клиросов, а после капитальной переделки собора (в конце 60-х и до 6 дек. 1872 года) установлены при внутренних колоннах собора" (*Никифоровский Н.Я.* Странички из недавней старины города Витебска. Витебск, 1899. С. 5 – 9).

*Ала АРЛОВА*

# БАЧЭЙКАВА НА ЭКРАНЕ:

## мастацкі фільм “Джэнтльмен і певень” (1928)

Годам заснавання вёскі Бачэйкава Бешанковіцкага раёна лічыцца 1460 год, таму што ў “Літоўскай метрыцы” яна ўпамінаецца менавіта пад гэтай датай.

Пра далёкае мінулае Бачэйкава і Бачэйкаўскага парку апавядаюць кнігі У.П. Цеханавецкага “Хроника одного поместья. Бочейково” (1905) і Р. Афтаназі “Гісторыя старых рэзідэнцый” (1991). Гэта першакрыніцы нашых ведаў аб тым, як жылі, чым займаліся ўладары маёнтка і простыя сяляне. Але мясцовыя жыхары, старажылы вёскі захавалі ў памяці той момант, калі ў Бачэйкаве ў 1928 годзе здымаўся мастацкі фільм “Джэнтльмен і певень”.

Пра гэты факт мы не знайшлі друкаваных крыніц, нават кінагісторыкі не валодалі такой інфармацыяй. З 65 фільмаў (з іх 45 нямых), выпушчаных студыяй Белдзяржкіно, “Джэнтльмен і певень” займае восьмы радок у спісе. Доўгія гады мы не маглі паглядзець гэтую стужку поўнасцю, у нашым распараджэнні былі толькі тры першыя часткі з субцітрамі на ўкраінскай мове. Былы Дзяржфільмафонд СССР знаходзіцца ў Расійскай Федэрацыі (г. Дамадзедава Маскоўскай вобласці). У Беларусі няма большасці іграых стужак савецкага перыяду. Супрацоўнікі Дзяржфільмафонду Расіі згадзіліся на платнай аснове адрэстаўрыраваць і перадаць у Музей гісторыі беларускага кіно частку фільмаў, але сродкаў на набыццё фільмакопій выдзялялася мала. Таму ў 2011 годзе Міхаіл Генадзьевіч Высоцкі (брат аўтара артыкула – *рэд.*) аказаў Музею гісторыі беларускага кіно спонсарскую дапамогу – за яго грошы была набыта копія фільма “Джэнтльмен і певень”. Такім чынам, да гістарычнага матэрыялу пра вёску Бачэйкава далучыўся яшчэ адзін – фільм.

Старажылы вёскі расказваюць, што летам 1928 года здымачная група ехала па дарозе з Мінска ў пошуках месца для здымак. З левага боку адкрыўся прыгожы, увесь у кветках луг і цудоўны двухпавярховы палац, які тануў у зяляніне старасвецкіх дубоў. Адразу было вырашана тут спыніцца. У той час у палацы быў размешчаны дзіцячы дом, вакол якога было шмат будынкаў рознага прызначэння. Кінаэкспедыцыя заставалася тут жыць да канца здымак.

Былы настаўнік Бачэйкаўскай школы Мікалай Іванавіч Талстой успамінае: “У гэтым фільме ў так званых «масоўках» здымаліся мой бацька Талстой Іван Васільевіч, 1911 года нараджэння, і яго малодшы брат Талстой Гурый Васільевіч. Быў наладжаны адбор жадаючых, таму што іх было шмат. Яшчэ трэба было насіць сафіты, якія працавалі ад паравога генератара, трымаць іх у руках у час здымак. За гэта вельмі добра плацілі. За дзень працы бачэйкаўцы атрымлівалі паўрубля. У той час гэта было вельмі многа. У «масоўках» прымалі ўдзел таксама і выхаванцы дзіцячага дома”.

Спачатку фільм назвалі “Пеўні пераклікаюцца”, але ў канчатковым варыянце фільм атрымаў назву “Джэнтльмен і певень”. Джэнтльмен – гэта чалавек высакароднага паходжання, у пераносным сэнсе – добра выхаваны чалавек. Але ж фільм – сатырычная камедыя, таму аўтары, якія прытрымліваліся жанру, не проста крытыкуюць графа Бадзецкага, а высмейваюць яго, з гратэскам прадстаўляюць як варожы элемент, чужы



*Бачэйкава. Фасад палаца з боку парку. Кадр з фільма. 1928 г.*

новаму сацыялістычнаму грамадству. Тэма ідэалагічнага супрацьстаяння была вельмі актуальнай у даваенным кінематографе. Дарэчы, у 1937 годзе гэты фільм трапіў у "чорны спіс", таму што галоўным героем быў вораг народа.

Кінастужка пачынаецца цітрам: "Устаноўленая Рыжскім мірным дагаворам 1921 года мяжа паміж панскай Польшчай і Савецкай Беларуссю прайшла праз памесце польскага графа Бадзецкага". На савецкай тэрыторыі засталася лепшая частка памесця з палацам. Там гаспадарыць вясёлы піянерскі атрад.

Пеўні, якія пераклікаюцца па розныя бакі мяжы, напамінаюць графу пра тое, як аднойчы раніцай пад іх крык у яго палац уварваліся сяляне-бунтаўшчыкі. Таму граф Бадзецкі адчувае панічны страх кожны раз, калі чуе "ку-ка-рэ-ку!". Ён страляе па пеўнях, загадвае слугам знішчыць іх усіх. На савецкі бок уцякае карова Манька. За ёй следам ідзе пастух Васіль. Ён застаецца ў БССР, бо тут у яго з'яўляецца магчымасць вучыцца.

На тэрыторыі БССР рыхтуюцца да свята, а на польскім баку адзначаюць імяніны графіні. Васіль перадае запіску сваёй каханай Ядзі, а графу – карыкатуру на яго. Заканчваецца трэцяя частка стралянінай графа па пеўнях.

У тых частках, якія ў нас не захаваліся, расказваецца пра тое, што граф убачыў на служанцы чырвоную хустачку і кінуўся на яе. Ядзя ўцякла цераз мяжу да свайго Васіля. Фільм заканчваецца на аптымістычнай ноце, што характэрна для стужак таго часу.

У.У. Балюзек (1881 – 1957) быў не толькі рэжысёрам фільма "Джэнтльмен і певень", але і мастаком. Сцэнарыстамі фільма з'яўляюцца І. Даўгапольскі і Л. Іерыхонаў, аператарамі – М. Казлоўскі, А. Кальцаты, мастакамі – У. Балюзек і У. Ягораў. Вобраз графа Бадзецкага стварыў акцёр Леў Дабравольскі. Гэта быў пяты фільм з яго ўдзелам. Ядзю сыграла артыстка В.Г. Баранава. Акцёр К.А. Гун – ролю вахмістра Янэка і целаахоўніка графа. У кіно ён пачаў здымацца з 1927 года. Працаваў у ленінградскіх тэатрах, памёр у 1983 годзе. Пастуха Васю сыграў С.Л. Кузняцоў (1879 – 1932), які яшчэ ў 1925 годзе атрымаў званне Заслужанага артыста савецкіх тэатраў Рэспублікі, а ў 1929 годзе – званне Народнага артыста Рэспублікі. Свае ролі артысты сыгралі цудоўна. Гэта было нямое кіно, і кінаакцёры выкарыстоўвалі міміку для таго, каб глядач мог зразумець усе пачуцці. Таму артыстаў здымалі буйным планам. Такім чынам, фільм цікавы не толькі тым, што адкрывае новую старонку гісторыі вёскі





*Бачэйкава. Фасад палаца з боку парку. Кадры з фільма. 1928 г.*

Бачэйкава, але і дэманструе асаблівасці кінематографа таго часу.

Здымкі фільма праходзілі на вуліцы і ў самім палацы. У першай частцы фільма можна бачыць палац. Будынак зроблены з улікам тагачасных тэндэнцый у архітэктуры і густу заказчыка. Ён прамавугольнай формы, складаецца з паўпаверха, другога паверха і мансардавага жылога паверха. Гэта заходні паркавы фасад. Да 1908 года мансардавага паверха не было, што можна вызначыць па здымках ранейшага часу. Для павелічэння жылой плошчы зрабілі мансарды, і былы дах стаў вышэйшым. За кошт схілу рэльефу будынак маштабна павялічыўся і атрымаў манументальны характар. Фасад упрыгожваў сярэдні паўкруглы крапаваны пілястрамі эркер з трыма арачнымі вокнамі пад сплюшчаным купалам. Да эркера прылягала абшырная паўкруглая тэраса з двухбаковым лесвічным каскадам з балюстраднай агароджай, якая вяла ў парк. Пад тэрасай знаходзіўся ўваход у жылы скляпеністы паўпаверх. Вокны паркавага боку мелі такія ж прамавугольныя праёмы і памеры, як і на ўсходнім фасадзе. Частыя шыбы ў вокнах вытрыманы ў стылі XVIII стагоддзя. Дах на палацы двухспадовы. Ён упрыгожаны авальнымі люкарнамі (невялікімі аконнымі праёмамі на даху).

Яшчэ ў першай частцы фільма можна бачыць будынак, куды служанка Ядзя нясе ваду. Тут з садовага боку жыла чэлядзь, размяшчаліся гаспадарчыя памяшканні. Гэтыя будынкі да нашага часу не захаваліся.



*Бачэйкава. Галоўны (усходні) фасад палаца. Кадр з фільма. 1928 г.*



*Бачэйкава. Выхаванцы дзіцячага дома ў масоўках. Кадр з фільма. 1928 г.*



*Бачэйкава. Галоўны (усходні) фасад палаца. Кадр з фільма. 1928 г.*

У другой частцы фільма здымкі адбываюцца на лузе, дзе пасвяцца каровы. У Бачэйкаве яго завуць Карнёвым лугам. З боку лугу, на захад ад палаца, бачны Ульская вуліца, рака Ула з яе стромкім берагам, з высокімі старымі дрэвамі. У наш час луг зарос дрэвамі і кустоўем. Калі здымалі луг са статкам кароў, то ў кадр трапіў будынак аранжарэі, у якой раслі пальмы, абрыкосы, кіпарыс, ружы, хрызантэмы. З 1972 да 1993 года ён выкарыстоўваўся ў якасці бальніцы, пакуль не пабудавалі новую. Будынак знаходзіўся ў аварыйным стане: лесвіцы, што вялі на другі паверх, згнілі, дах пацёк, таму былую аранжарэю разабралі. Яшчэ ў кінастужцы можна бачыць будынак флігеля, які захаваўся да нашага часу. Трапілі ў кадр і выхаванцы дзіцячага дома, які існаваў тут з 1925 года.

У трэцяй частцы фільма мы бачым будынак палаца з боку заезду. Аднак ён выглядае не так, як на фотаздымку з архіва Цеханавецкага, бо ў 1908 годзе быў убраны шчыпец порціка, на яго месцы зрабілі балкон. Раней па галоўнай восі размяшчаўся невялікі чатырохкалонны порцік. У пакатым трохвугольным франтоне была прарэзана акруглая люкарна. У фільме мы бачым двухпавярховы будынак з драўляным другім паверхам.



*Бачэйкава. На заднім плане – будынак флігеля. Кадр з фільма. 1928 г.*



*Бачэйкава. Луг, на заднім плане – аранжарэя. Кадр з фільма. 1928 г.*

Такім чынам, у фільме "Джэнтльмен і певень" можна ўбачыць, як выглядаў палац Цеханавецкіх і яго ваколіцы ў 1928 годзе. А. Мальдзіс у артыкуле "Тры вагоны каштоўнасцей, вывезеных у Маскву" пісаў, што сёння "ад сядзібы захаваліся асобныя каменныя будынкі – флігель і домік лоўчага, якія маюць гістарычную і архітэктурную каштоўнасць". Фільм "Джэнтльмен і певень" ажывіў старонкі гісторыі вёскі Бачэйкава і праілюстраваў творчы патэнцыял беларускіх майстроў. Кадры фільма з выявамі Бачэйкава далучаюць нас да вечных катэгорый прыгожага, даюць жывое адчуванне гістарычнага развіцця, выхоўваюць і ўзмацняюць павагу да роднага краю.

Вывучаны матэрыял дапоўніў нашы веды з першакрыніц пра далёкае мінулае Бачэйкава. Параўнаўшы кадры з фотаздымкамі з архіва А. Цеханавецкага, мы ўбачылі, якія змены зведаў будынак на пачатку ХХ стагоддзя.

Гісторыя стварэння фільма адкрыла новую старонку кінематографа Беларусі – Белдзяржкіно. Пасля таго як фільм быў набыты, М.Г. Высоцкі адправіў яго копію графу А. Цеханавецкаму ў Лондан. 16 хвілін фільма размешчаны на сайце "БССР–online".

Гэты фільм адкрывае новую старонку гісторыі і культуры нашай вёскі, спрыяе духоўнаму сталенню асобы і больш глыбокаму ўспрыманню нацыянальных каштоўнасцей .

**Літаратура і крыніцы:**

1. *Мальдис А.* Последний из князей Мстиславских и Заславских // СБ. Беларусь сегодня. 2009. 13 июня. С. 20.

2. *Мальдис А.* "Три вагона ценностей, вывезенных в Москву" // СБ. Беларусь сегодня. 2010. 9 октября.

3. *Цехановецкий В.П.* Хроника одного поместья. Бочейково. Витебск, 1905. 43 с.



*Альбрэхт Адам. Галоўная кватэра напалеонаўскіх войск у вёсцы Бачэйкава. 23 ліпеня 1812 г.*

*Аляксандр АНІСЬКОВІЧ*

# ЛЯВОНПАЛЬСКІЯ ЗАМАЛЁЎКІ

Лявонпаль – невялікая вёска (а калісьці даволі вялікае мястэчка) у Міёрскім раёне Віцебскай вобласці. Знаходзіцца на левым беразе Заходняй Дзвіны, недалёка ад мяжы з Латвіяй. Сёння тут менш за сотню жыхароў, а ў XIX – пачатку XX стагоддзя гэтае паселішча было не меншым, чым суседнія Друя ці Дзісна.

Усходнія славяне на месцы Лявонпаля пасяліліся больш чым за 1000 гадоў таму. Сёння аб гэтым сведчаць пахавальныя курганы X – XIII стагоддзяў, якія тут знаходзяцца. Яны яшчэ памятаюць моцных воінаў і падарожнікаў-вікінгаў, якія часта праплывалі па Дзвіне ў пошуках выгаднага гандлю і палітычнага супрацоўніцтва са славянамі.

Першае дакументальнае згадванне гэтых мясцін адносіцца да 1506 года, калі Аляксандр Ягелончык перадае ў дар Ганне Масальскай маёнтак Друйскі з вёскамі Залессе і Чурылавічы[1]. Менавіта такую назву – Чурылавічы, або Лількі – меў тады Лявонпаль.

У сярэдзіне XVIII стагоддзя ўладаром становіцца берасцейскі ваявода Мікалай Лапацінскі (1715 – 1778). Новы гаспадар будуе тут сваю рэзідэнцыю і ў гонар свайго бацькі Лявона, удзельніка пераможнай бітвы войска Рэчы Паспалітай з сіламі Асманскай імперыі пад Венай (1683 г.), пераймяноўвае вёску ў Лявонпаль. Гэтыя часы – найбольш значная старонка ў гісторыі мястэчка. Тагачасныя жыхары пакінулі пасля сябе багатую культурную, у тым ліку і архітэктурную спадчыну, якая захавалася да нашых часоў.

Заможнаму роду Лапацінскіх належала шмат зямель у розных кутках Вялікага Княства Літоўскага. У Прыдзвінні яны былі ўладальнікамі не толькі Лявонпаля, але і маёнтка Сар'я з мястэчкам Росіца (сучасны Верхнядзвінскі раён), а таксама маёнтка Шаркаўшчына.

Лапацінскія гаспадарацьтут амаль 200 гадоў. У перыяд з XVIII да пачатку XIX стагоддзя Лявонпаль становіцца не толькі культурным, але і прамысловым цэнтрам па вытворчасці вырабаў з "друйскага льну". Тканіны, палотны, абрусы з высакаякаснай сыравіны з поспехам экспартуюцца па Дзвіне праз Рыгу ў заходнія краіны.

Двойчы Заходняя Дзвіна была мяжою паміж суседнімі дзяржавамі, Лявонпаль двойчы станавіўся памежным мястэчкам. У 1772 годзе, пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай, мяжа нашай краіны з Расійскай імперыяй упершыню ўсталявалася па Дзвіне. Аб той далёкай падзеі сёння нагадвае непаўторны помнік архітэктуры Беларусі – мемарыяльная калона ў гонар Канстытуцыі 3 мая. Пасля савецка-польскай вайны, з 1921 года і да пачатку Другой сусветнай вайны ў 1939-м, Дзвіна зноў стала мяжою, на гэты раз паміж Польшчай і Савецкім Саюзам.

Напярэдадні Напалеонаўскага паходу 1812 года ў лукавіне Дзвіны, каля Лявонпаля і Дрысы, быў створаны Дрысенскі ўмацаваны лагер рускай арміі. Пры набліжэнні французскіх войскаў з боку Вільні ў лагеры адбыўся ваенны савет, які ўзначалілі расійскі імператар Аляксандр I і камандуючы 1-й Заходняй арміяй Барклай дэ Толі. Савет вырашыў пакінуць лагер без бою з-за недахопаў умацаванняў у стратэгічных і тактычных адносінах. Гэтыя падзеі адлюстраваныя ў знакамітым рамане Льва Талстога "Вайна і мір"[2].

У 1999 годзе, па ініцыятыве пісьменніка і аматара даўніны Сяргея Панізніка, у Лявонпалі былі створаны Музей радзімазнаўства і яго філіял – Хата бабкі

Ядзвінні. А на супрацьлеглым беразе Дзвіны ў вёсцы Цінкаўцы (Верхнядзвінскі раён) Панізнікам арганізаваны народны музей "На шляху з грэкаў у варагі. Хата бабкі Параскі", які існуе з 1979 года.

Сведкі плённай дзейнасці Лапацінскіх раскінуліся па ўсяму Прыдзвінскаму краю. Час захаваў для нас цудоўныя помнікі архітэктуры Лявонпаля: палацава-паркавы комплекс (1750 – 1768), былую ўніяцкую царкву (1774), мемарыяльную калону (1791), старую школу (1930-я гады).

У Сар'і падарожнікаў зацікавяць стары велічны парк былога маёнтка Лапацінскіх і прыгожы касцёл – цудоўны прыклад неагатычнай архітэктуры Беларусі, які быў узведзены Ігнацiем Лапацінскім у памяць аб яго памерлай каханай жонцы.

Наведвальнікаў Росіцы чакае сустрэча з вялізным неараманскім касцёлам, галоўным фундатарам якога быў Станіслаў Лапацінскі. Нашы душы глыбока кране гісторыя аб духоўным подзвігу святароў гэтага храма падчас Другой сусветнай вайны – бласлаўлёных Юрыя Кашыры і Антонія Ляшчэвіча.

У Шаркаўшчыне яшчэ можна пабачыць захаваныя рэшткі сядзібнай забудовы Лапацінскіх. А ў вёсцы Барадзінічы (Браслаўскі раён) мясцовыя жыхары абавязкова раскажуць наведвальнікам паданне аб з'яўленні невялікага мураванага




*Цэгла завода Лапацінскіх з кляймом Станіслава Лапацінскага.*



*В. Жаўняровіч. Краявід з хутарам. 1937 г.*

касцёла, які таксама фундаваны прадстаўнікамі роду Лапацінскіх.

Пакінутая Лапацінскімі спадчына захапляе, і, што вельмі важна для нас, сучаснікаў, гэтая спадчына натхняе і вымушае нас разважаць пра лёс Радзімы, лёс людзей, што жылі тут, пра іх надзеі і мары...

Невыпадкова Лявонпаль, Росіца і Сар'я на працягу многіх гадоў натхняюць мастакоў і пісьменнікаў з розных мясцін Беларусі. З гэтых Прыдзвінскіх мясцін паходзяць і многія сучасныя паэты і празаікі: Сяргей Панізнік, Франц Сіўко, Ірына Жарнасек, Антон Бубала, Эдуард Зубрыцкі, Алена Масла, Галіна Загурская (Міснік). На гэтай зямлі пачаўся творчы шлях мастака Віктара Жаўняровіча, добра вядомага ў беларускім замежжы.

Сёння Росіца, Сар'я і Лявонпаль – улюбёная тэма творчасці вядомага мастака з Верхнядзвінска Валерыя Шчаснага. Летам 2005 года ў Лявонпалі адбыўся пленэр маладых мастакоў "У пошуках Атлантыды".

12 ліпеня 2000 года Лявонпаль святкаваў сваё 1000-годдзе. Падчас урачыстасцей ва ўшанаванне 2000-годдзя хрысціянства і 1000-годдзя паселішча каля галоўнай вуліцы мястэчка быў усталяваны памятны знак – крыж, які сваёй формай нагадвае крыж Ефрасінні Полацкай. Гэты падарунак полацкага прадпрыемства "Шкловалакно" – своеасаблівы сімвал адзінства і рэлігійнай талерантнасці беларусаў. У прысутнасці



*Перабудова палаца пад касцёл. Галоўны фасад. Фота 1920-х гг.*

мясцовых вернікаў і гасцей крыж асвяцілі праваслаўныя і каталіцкі святары: благачынны Міёрскай акругі протаіерэй Мікалай Рундо, святар Лявонпальскай царквы Мікалай Мелех і ксёндз Уладас Пятрайціс.

Сёння патрыярхальны Лявонпаль з яго помнікамі архітэктуры і драўлянымі старасвецкімі хацінамі мясцовых жыхароў – своеасаблівы музей пад адкрытым небам.

На жаль, неахайнае гаспадаранне ў савецкі час прывяло мястэчка амаль да поўнага заняпаду. Дзяржаўныя праграмы будаўніцтва аграгарадкоў альбо развіцця турызму маглі б ажывіць тутэйшае жыццё. Таму сёння былыя лявонпальцы робяць усё, каб прыцягнуць увагу грамадства да свайго роднага, не надта вялікага, але вельмі цікавага куточка Беларусі, што месціцца ў цудоўным па прыгажосці старажытным Міёрскім краі.



*Святкаванне 1000-годдзя Лявонпаля. Праваслаўныя і каталіцкія харугвы крочаць разам па галоўнай вуліцы Лявонпаля. Фота аўтара*

### Палац Лапацінскіх

Палац Лапацінскіх у Лявонпалі быў пабудаваны ў другой палове XVIII стагоддзя. У 1750 годзе Мікалай Лапацінскі пачаў будаўніцтва сядзібнага дома з уязнымі брамамі, гаспадарчых пабудоў, а таксама заклаў парк. Усе добрыя пачынанні заможнага ўладальніка пазней чакала шмат драматычнага.

Так, у помсту Лапацінскім за ўдзел у вызваленчым паўстанні 1863 – 1864 гадоў, казакі разрабавалі і спалілі сядзібны дом, які быў адноўлены толькі ў 1905 – 1906 гадах.

Згубнымі сталі для Лявонпаля Першая сусветная вайна, рэвалюцыя і польска-савецкая вайна. У 1919 годзе ў палацы адбыўся пажар. Будынак аднавілі, перабудавалі пад касцёл, які існаваў да 1939 года.

З 1939 года ў былым палацы месцілася праўленне калгаса “17 верасня”. Пасля вайны тут знаходзіліся сельскагаспадарчае вучылішча, школа-інтэрнат, клуб. Кіраўніцтва гэтых устаноў не рамантавала будынак, і ён з цягам часу стаў занядбаным, а потым і ўвогуле закінутым.



*Ігнацій Эгенфельдэр. Магістр філасофіі і вольных навук Тамаш Жэброўскі. XVIII ст. У руках трымае малюнак абсерваторыі Віленскага езуіцкага калегіума*

Толькі дзякуючы мясцоваму жыхару Язэпу Бунту, які з 1960-х гадоў па ўласнай ініцыятыве ахоўваў сядзібу з моцнымі мятровымі сценамі, палац не загінуў канчаткова. Была спроба ўладкаваць тут дом адпачынку, але марна.

У 1992 годзе палац зноў вярнулі мясцовым каталікам, якія з вялікімі цяжкасцямі вялі яго аднаўленне пад касцёл. Эканамічныя цяжкасці і агульная дэмаграфічная сітуацыя ў Лявонпалі зрабілі сваю справу – рэстаўрацыя была спынена шмат гадоў таму.

Сёння, дзякуючы новым архіўным фотаматэрыялам, мы можам з упэўненасцю сказаць, што першапачатковы выгляд лявонпальскага палаца быў больш цікавы і манументальны, чым думалася раней. Першапачаткова ў лявонпальскім палацы Лапацінскіх быў высокі ламаны мансардны дах. Фотаздымкаў палаца з такім архітэктурным абліччам пакуль не знойдзена. Але зрабіўшы аналіз іншай архітэктурнай спадчыны Беларусі, а таксама прагледзеўшы тыя фотаздымкі лявонпальскага палаца, што захаваліся, прыходзім да наступных высноў.

Першае. Палац Лапацінскіх у Лявонпалі і палац Агінскіх у былой вёсцы Ганута Смаргонскага раёна Гродзенскай вобласці (не захаваўся) былі пабудаваны ў адзін час па праектах адных і тых жа архітэктараў. Гэта італьянец Абрахам-Антоній Гену (? – каля 1746), які знаходзіўся на службе ў Агінскіх, а таксама езуіт Тамаш Жэброўскі (1714 – 1758). Даследчыкі сведчаць, што нейкі час А. Гену і Т. Жэброўскі працавалі разам. Вядомы даследчык гісторыі сядзіб Рэчы Паспалітай Раман Афтаназі сцвярджае, што ў будоўлі палаца ў Гануце ўдзельнічаў і іншы архітэктар – Ян Кнакфус. Цікава, што тых жа асоб – Тамаша Жэброўскага і Яна Кнакфуса ў якасці галоўнага архітэктара і выканаўцы праекта называе і Эўзебіюш Лапацінскі, дасведчаны гісторык і апошні гаспадар палаца ў Лявонпалі[3]. Як вынік: у кампазіцыі і аздобе палацаў Гануты і Лявонпаля бачым шмат агульнага. Таму з упэўненасцю можна казаць, што і архітэктурнае рашэнне формы даху павінна было быць аднолькавым.



*Палац Агінскіх у Гануце. Уязная брама*



*Палац Лапацінскіх у Лявонпалі. Уязная брама*



*Палац у Гануце. Фота 1920-х гг.*

Другое. На фота лявонпальскага палаца пасля пажару 1919 года добра бачны брандмаўэры з высокімі комінамі другога мансарднага паверха, якія пазней былі разабраны. Гэтыя цагляныя збудаванні на ўзроўні другога паверха не маюць ніякага сэнсу, калі б яны не былі канструктыўнай часткай высокага ламанага мансарднага даху.

Трэцяе. Аналізуем некалькі фотаздымкаў 1920-х гадоў, якія былі зроблены падчас перабудовы палаца ў касцёл. Тут з розных ракурсаў бачны неатынкаваныя сцены ўнутранай прасторы ламанага мансарднага даху памяшканняў, якія, хутчэй за ўсё, былі нежылымі. Бачны і праёмы дзвярэй увахода ў мансарднае памяшканне з другога паверха цэнтральнага корпуса, якія пазней былі закладзены. Заўважым, што і карніз другога паверха цэнтральнага корпуса даходзіць толькі да паверхні былога ламанага даху. Пры перабудове даху на нізкі двухсхільны гэты карніз так і застаўся – яго не сталі доўжыць да новай паверхні даху.

Усё гэта яскрава сведчыць аб наяўнасці да пачатку XX стагоддзя ў лявонпальскім палацы высокага ламанага мансарднага даху, аднатыпнага з палацам у Гануце. На жаль, у 1919 годзе дах згарэў, абваліўся і быў перабудаваны на больш просты і танны – нізкі двухсхільны, які існуе дагэтуль.

Трэба заўважыць, што ў міжваенны час былі спробы перабудаваць лявонпальскі палац пад каталіцкі касцёл больш кардынальна. Захаваўся цікавы праектны малюнак[4], на якім мы бачым высачэзны неабарокавы франтон цэнтральнага корпуса з праёмамі пад званы і нішамі пад скульптуры. У такім жа стылі планавалася перарабіць і франтоны бакавых карпусоў палаца. Дах тут двухсхільны высокі, шмат і іншых пераробак.



*Лявонпальскі палац пасля пажару 1919 г.*



*Палац у Лявонпалі. Фота 1920-х гг.*




*Палац у Лявонпалі па стане на 1750 г. Рэканструкцыя А. Аніськовіча.*

Ёсць звесткі, што абмерамі лявонпальскага палаца і праектам яго пераробкі ў касцёл займаўся вядомы ў той час віленскі архітэктар, рэстаўратар, гісторык мастацтва Ян Бароўскі[5]. Верагодна, гэты малюнак аўтарства Бароўскага. Але такі кардынальны праект перабудовы палаца ажыццявіць не ўдалося.

Палацавы комплекс у Лявонпалі і сёння яшчэ ўяўляе сабой шэраг дабротных, але напаўзакінутых будынкаў: велічны палац, гаспадарчыя пабудовы, некалькі брам. Яшчэ захавалася большая частка пейзажнага парку і… нікуды не дзелася павольная Дзвіна. Спадчына Лапацінскіх абавязкова павінна знайсці новага гаспадара, які надасць палацу годнае прызначэнне (палацавы комплекс знаходзіцца зараз на балансе мінскага ААТ “Інтэграл”). Магчыма, тут можа быць уладкаваны дом адпачынку з гістарычна-этнаграфічным напаўненнем.

## Свята-Троіцкая царква

Рэлігійнае жыццё на ранейшай чурылаўскай зямлі мае глыбокія карані.

У гістарычных хроніках разам са звесткамі аб шматлікіх перадачах вёскі ад аднаго ўладальніка да другога ўказваецца, што ў 1700-м тут была ўніяцкая царква, якая абвалілася ў 1740 годзе[6]. Верагодна, старая царква стаяла на тым самым месцы, што і сучасная, бо да сённяшняга часу на падворку лявонпальскай царквы захаваліся старажытныя пахавальныя каменныя крыжы, больш характэрныя да перыяду сярэднявечча.




*Палац у Лявонпалі па стане на 1939 г. Рэканструкцыя А. Аніськовіча*



*Палац у Лявонпалі. Фасад ад берага Дзвіны. Прапанова па рэстаўрацыі.
3D рэканструкцыя А. Аніськовіча*





*Палац у Лявонпалі. Галоўны фасад. Прапанова па рэстаўрацыі.
3D рэканструкцыя А. Аніськовіча*

Новы будынак царквы ў Лявонпалі быў узведзены на сродкі Лапацінскіх у 1774 – 1775 гадах як уніяцкі. Выдатны хрэстаматыйны помнік местачковай драўлянай сакральнай народнай архітэктуры з рысамі барока. Гэта выцягнуты аднанефавы будынак з трохкутным франтонам і дзвюма чацверыковымі вежамі на фасадзе. Да пяцігараннай апсіды з двух бакоў далучаны маленькія рызніцы. Бажніца накрыта высокім двухсхільным дахам, алтарная частка – больш нізкім шматгранным дахам. Інтэр’ер зальны з плоскай столлю, над уваходам захаваліся хоры. Будынак на каменным падмурку, мае падвальныя памяшканні, у якіх Лапацінскія захоўвалі сваё найлепшае віно. Пабудавана без выкарыстання цвікоў (акрамя ашалёўкі, якая з’явілася праз 100 гадоў)[7]. У куце царкоўнага падворка знаходзіцца драўляная чатырохгранная двух’ярусная званіца на каменным падмурку, дах шатровы. На старадаўніх фотаздымках царква адлюстравана ў першапачатковым выглядзе.

У 1839 годзе ўніяцкая царква была скасавана. Усе ўніяты гвалтоўна пераводзіліся ў праваслаўе. Захавалася шмат сведчанняў аб барацьбе тутэйшага ўніяцкага насельніцтва супраць далучэння да праваслаўя ў 1840-х гадах. Барацьба была настолькі жорсткай, што ў 1842 – 1845 гадах Лявонпаль апынуўся пад прамым урадавым кіраваннем. За адмову насельніцтва адрачыся ад уніі расійскія ўлады неаднойчы ўводзілі ў раён Лявонпаля і Узмёнаў жандараў і войскі[8]. У той зацятай



*Царква ў Лявонпалі. Фота 1920-х гг.*

барацьбе меліся і свае ахвяры. У 1918 годзе на царкоўным пляцы Лявонпаля быў пастаўлены крыж, на якім былі змешчаны прозвішчы сямі забітых насмерць казакамі мучанікаў-уніятаў[9]. Крыж на гэтым месцы прастаяў да 1970-х гадоў, потым некуды знік.

З-за пастаянных спрэчак лявонпальскіх каталікоў і праваслаўных, што былая ўніяцкая царква знешне падобная на касцёл, у канцы 1940-х гадоў было вырашана знесці вежы фасада. У цяжкі пасляваенны час было прасцей спілаваць старыя апоўзлыя вежы, чым рамантаваць іх. А каб будынак хоць чымсьці нагадваў храм, зверху ў сярэдзіне даху мясцовыя майстры надбудавалі невялікі купал. У такім стрыманым выглядзе царква дайшла да нашага часу.

Нягледзячы на моцны антырэлігійны ціск у савецкі час, дзякуючы намаганням айца Мікалая (Мікалай Мелех, 1925 – 2011, пахаваны ля царквы), які служыў тут з 1959 года, а таксама падтрымцы мясцовых вернікаў, царква ніколі не закрывалася і была цэнтрам праваслаўнага духоўнага жыцця не толькі Лявонпаля, але і наваколля. Старажытны драўляны будынак захаваўся да нашых дзён у добрым стане і захапляе сучаснікаў прыгажосцю і таямнічасцю.



*Свята-Троіцкая царква ў Лявонпалі. Сучасны выгляд. Фота аўтара*



*Крыж у гонар мучанікаў-уніятаў ля царквы ў Лявонпалі. Фота пасля 1918 г.*



*Старажытнае ўніяцкае ўкрыжаванне Хрыста. Фота 1920-х гг. Зараз захоўваецца ў прытворы лявонпальскай царквы*

**Могілкі**

Лявонпальскія могілкі – тыповыя для Беларусі. Гэта аповед пра людзей, якія жылі на тутэйшай зямлі. Тут – прытулак для праваслаўных і каталікоў, шляхты і простых людзей, ветэранаў паўстання 1863 – 1864 гадоў, безыменных ахвяр розных войнаў, польскіх жаўнераў і чырвонаармейцаў.

Па старой дарозе на Даўгінава на ўзвышшы, што на ўскрайку Лявонпаля, калісьці былі каталіцкія і яўрэйскія могілкі. У савецкі час пры будаўніцтве новай дарогі і жывёлагадоўчай фермы большую частку каталіцкіх могілак знішчылі. Аб іх сёння нагадваюць толькі адзіны каменны помнік ды некалькі ледзь пазнавальных пагоркаў -магіл.

За каталіцкімі могілкамі было каля 10 яўрэйскіх пахаванняў, абнесеных дротам, але без надгробкаў[10].Традыцыйна склалася так, што ў асноўным памерлых лявонпальскіх яўрэяў хавалі ў Друі – найбольш буйным у рэгіёне цэнтры яўрэйскага асяроддзя. Аб існаванні яўрэйскіх могілак у Лявонпалі зараз нічога не нагадвае, бо магілы раз’езджаны дарогаю, зараслі лесам і кустамі.



*Лявонпальскія могілкі. Злева – нагробак падпаручніка Баніфацыя Руткоўскага (1841 – 1931), ветэрана паўстання 1863 г.*



*Сінагога ў Лявонпалі. Рэканструкцыя А. Аніськовіча. Папера, чарніла, аловак. 2008 г.*

**Сінагога**

З 1750 года Мікалай Лапацінскі разгарнуў у Лявонпалі буйную прамысловую дзейнасць па пераробцы ільну і вытворчасці разнастайных тканых вырабаў. Гэта ажывіла сувязь мястэчка з іншымі рэгіёнамі краіны і замежжам праз гандлёвы шлях па Дзвіне з Рыгаю. Не дзіва, што ў такіх умовах эканамічнага ажыўлення значную частку насельніцтва Лявонпаля пачалі складаць яўрэі. У 1866 годзе ў мястэчку жылі 27 праваслаўных, 15 каталікоў, 65 яўрэяў і 2 лютэраніна[11].

У другой палове XVIII стагоддзя лявонпальскія яўрэі атрымалі дазвол ад уладальніка мястэчка Лапацінскага на будаўніцтва сінагогі. Бажніцу пабудавалі на схіле невялікага пагорка на каменным падмурку. Пры знешняй прастаце будынак атрымаў даволі арыгінальную і рацыянальную канструкцыю. У адназрубным аднааб'ёмным будынку спалучаліся два ярусы, што было даволі рэдкім для храмаў такога тыпу[12].

На жаль, лёс сінагогі склаўся не так добра, як іншых помнікаў архітэктуры Лявонпаля. Да нашага часу будынак не захаваўся. Сёння аб ім могуць распавесці нешматлікія архіўныя крыніцы, фотаздымак 1920-х гадоў і малюнак пачатку XX стагоддзя з архіва Лапацінскіх у Вільні. На фота і малюнку сінагога ўяўляе сабой даўно закінуты спарахнелы будынак.

Сумнаму лёсу лявонпальскай сінагогі і адыходу яўрэйскага насельніцтва ў больш "перспектыўныя" рэгіёны спрыяў шэраг умоў. У другой палове XIX стагоддзя будуецца Рыга-Арлоўская чыгунка, якая прайшла ўздоўж усходняга берага Дзвіны. З гэтага часу спрадвечны рачны гандлёвы шлях "з варагаў у грэкі", на якім здаўна грунтавалася



*Сінагога ў Лявонпалі. Малюнак пачатку XX ст. з былога архіва Лапацінскіх у Вільні*



*Сінагога ў Лявонпалі другой паловы XVIII ст. Фота 1920-х гг.*

эканоміка рэгіёна, паступова страчвае сваё значэнне. Агульная антысеміцкая сітуацыя ў Расійскай імперыі канца XIX – пачатку XX стагоддзя распачынае працэс міграцыі яўрэйскага насельніцтва за мяжу. Перад Першай сусветнай вайной некаторыя яўрэі Лявонпаля падаліся ў Амерыку. Ля прыстані на Дзвіне доўга трубіў параход, які адыходзіў у Рыгу, а падарожнікі не спяшаліся развітвацца, яшчэ хадзілі па хатах – набіраліся зычэнняў-жаданняў добрай дарогі і шчаслівага жыцця ў далёкіх краінах…

Але ўсё ж такі колькасць яўрэйскага насельніцтва Лявонпаля пакуль застаецца значнай. За польскім часам яны ўтрымліваюць тут 11 крам.

Пакуты Першай сусветнай вайны, рэвалюцыйных падзей і савецка-польскай вайны зрабілі сваю справу. Колькасць яўрэйскага насельніцтва беларускіх гарадоў і мястэчак працягвае змяншацца. Польскія ўлады Заходняй Беларусі ніяк не перашкаджалі дзейнасці яўрэйскіх абшчын. Але не дзіва, што ў 1920 – 1930-х гадах лявонпальская сінагога ўжо не дзейнічае і становіцца закінутай. Менавіта ў гэты час занядбаны будынак паволі разбураўся, пакуль яго рэшткі не прадалі. Існуе паданне, што, калі разбіралі намоленую сінагогу і здымалі дах, нейкі хлопец зваліўся і разбіўся насмерць.

Падзеі Другой сусветнай вайны сталі катастрофай для яўрэяў усёй Еўропы. Фашысцкія расправы над яўрэямі не прамінулі і Лявонпаль. Апошні рабін Лявонпаля Гірша Лейбавіч Школьнік (1864 – 1942) быў забіты ў сваёй хаце, бо не мог і не хацеў ісці насустрач сваёй смерці.

У Лявонпалі, як і ў многіх іншых месцах нашай краіны, ёсць свая “яма”, дзе было расстраляна каля сямі чалавек. Сярод іх называюць Янкеля Пліскіна і двух яго сыноў. Гэты куточак лесу на ўскрайку мястэчка, за хрысціянскімі могілкамі на былым стрэльбішчы польскіх стражнікаў, на жаль, сёння ніяк не пазначаны. Большую частку мясцовых яўрэяў немцы адканваіравалі да вясны 1942 года ў Друйскае і Дзісенскае гета, дзе яны прынялі пакутніцкую смерць. Выратаваліся толькі адзінкі, але дадому ўжо мала хто вярнуўся.

Некаторая частка яўрэяў знайшла свой выратавальны прытулак сярод беларускага насельніцтва Лявонпаля і прылеглых хутароў і вёсак. Многія з гэтых шчаслівых выратаваных потым падаліся ў партызаны і сталі актыўнымі ўдзельнікамі антыфашысцкага руху. Са 158 яўрэяў Лявонпаля пасля вайны засталіся толькі 7 чалавек[13].

Сёння той пагорак, на якім была сінагога, пустуе. На месцы будынка яўрэйскай бажніцы зараз расце старое дзікае пладаноснае дрэва з сімвалічнай народнай назваю “райская яблыня”.



*Разам з выкладчыкамі ля школы. На заднім плане – будынак школы, звычайны мястэчковы дом. Надпіс на адвароце: "Dn. 17/VI 1928 r. Szkoła Leonpol"*

**Школа**

Звесткі па гісторыі адукацыі ў Лявонпалі захаваліся з сярэдзіны XIX стагоддзя.

У 1861 годзе ў Расійскай імперыі адбылася адмена прыгоннага права. Развіццё прамысловасці, транспарту і сельскай гаспадаркі патрабавала адукаваных людзей. Ды і сялян ужо не задавальнялі школы граматы і царкоўнапрыходскія школы, якія існавалі раней і давалі пераважна рэлігійныя веды.

З сярэдзіны XIX стагоддзя ўлады Расійскай імперыі пачалі па ўсёй Беларусі адкрываць так званыя народныя вучылішчы – своеасаблівы тып пачатковай свецкай школы. Асабліва ўпарта ўзяліся за адукацыю пасля вызвольнага паўстання 1863 – 1864 гадоў. Дзейнасць народных вучылішчаў пачала рэгулявацца "Палажэннем аб народных вучылішчах" 1864 года. Згодна з ім у Паўночна-Заходнім краі павінен быў выхоўвацца выключна рускі дух. У такіх гістарычных умовах у Лявонпалі ў 1862 годзе з'явілася адно з першых у нашым краі народных вучылішчаў. Першымі вучнямі ў ім сталі 29 хлопчыкаў і адна дзяўчынка[14].

Школьнае навучанне паспяхова працягвалася ў Лявонпалі да 1921 года, калі мястэчка ўвайшло ў склад адноўленай дзяржавы – Другой Рэчы Паспалітай. Лявонпальскую школу тады наведвала шмат дзяцей не толькі з мястэчка, але і з прылеглых вёсак і хутароў. Навучаліся ў школе як хрысціяне, так і іудзеі. Да 1937 года пад патрэбы школы быў прыстасаваны вялікі драўляны будынак, які захаваўся і знаходзіцца зараз праз дарогу ад магазіна.

Выкладанне ў школе паступова было пераведзена на дзяржаўную мову – польскую. Але ўсе дзеці як у хаце, так і ў школе паміж сабою гаварылі па-беларуску. Польская мова была абавязковай для карыстання на занятках і ў стасунках з настаўнікамі.

У міжваеннай Польшчы існавала "двухпавярховая" сістэма школьнай адукацыі. Абавязковаму навучанню вучні падлягалі толькі да 4-х класаў – пачатковая "паўшэхная" школа. Пасля заканчэння сямі класаў можна было паступіць у гімназію. Бліжэйшая да Лявонпаля сямікласная школа існавала ў Друі. Пры кляштары беларускіх айцоў-марыянаў у 1924 годзе была адкрыта гімназія імя Стэфана Баторыя[15]. Навучанне ў гімназіі каштавала бацькам вучняў вялікіх грошай, што было мала каму па кішэні. У многіх вёсках існавалі трохкласныя і двухкласныя школы, дзе дзеці атрымлівалі толькі самыя неабходныя веды. Далейшую адукацыю яны павінны былі набываць у больш буйных паселішчах.



Trzy-klasowa Publiczna Szkoła Powszechna
w Leonpolu (powiat: Brasław).
Nr 30 Rok szkolny 1935/36

ŚWIADECTWO SZKOLNE

Aniśkowicz Eljasz
urodzony dnia 24 lipca 1924 r. w Borsmpach
(powiat: Brasław), religji (wyznania) prawosł.
uczeń oddziału czwartego otrzymuje za rok szkolny 1935/36
stopnie następujące:

| | |
|---|---|
| ze sprawowania się | bardzo dobry |
| z nauki religji | dobry |
| „ „ języka polskiego | dobry |
| „ „ języka | |
| „ „ rachunków z geometrją | dobry |
| „ „ przyrody, a mianowicie: z przyrody żywej | dobry |
| z fizyki i chemji | |
| z higjeny | |
| „ „ geografji i nauki o Polsce współczesnej | dobry |
| „ „ historji | |
| „ „ rysunków | dobry |
| „ „ robót ręcznych | dobry |
| „ „ śpiewu | bardzo dobry |
| „ „ ćwiczeń cielesnych | bardzo dobry |
| „ „ robót kobiecych | |

Liczba opuszczonych godzin szkolnych 1, z czego nie usprawiedliwiono –
Liczba spóźnień –, z czego nie usprawiedliwiono –

Wynik ogólny dobry
w Leonpolu, dnia 21 czerwca 1936 r.

Opiekun oddziału — PUBL. SZKOŁA POWSZ. W LEONPOLU — Kierownik szkoły

Drukarnia Państwowa Nr 82893. 25.III.36. Świadectwo szkolne dla szkół powszechnych 3, 4 i 5-klasowych (P. 2).

*Школьнае пасведчанне Аніськовіча Ільі. Лявонпаль. 1936 г.*

У Лявонпалі спачатку існавала трохкласная школа, потым колькасць класаў у ёй павялічылася. Адпаведна тагачаснай сістэме, школьны год доўжыўся з 20 жніўня па 20 чэрвеня. Калядныя канікулы былі з 22 снежня па 15 студзеня. На дзень было па 4 – 5 урокаў. Заняткі, кожны з якіх доўжыўся 40 хвілін, пачыналіся ў 8 гадзін раніцы. На вялікім перапынку давалі кубачак кавы з булачкай. Выкладаліся матэматыка, польская мова і правапіс, фізіка і хімія, геаграфія і навукі аб Польшчы, гісторыя, прырода, малюнак, спевы, праца для хлопчыкаў і дзяўчынак асобна, фізкультура. Абавязковым быў Закон Божы. Выкладаў яго два разы на тыдзень лявонпальскі праваслаўны святар Ермалай Сурвіла (з прыходам савецкай улады ён быў вывезены чырвонаармейцамі на чаўне на ўсходні бераг Дзвіны і забіты). Звярталіся школьнікі да настаўніка не па імю, а "пан настаўнік" ці "пан дырэктар". Лічбавых адзнак не ставілі, а ацэньвалі веды вучняў такімі словамі: "недастаткова" (значыць, зусім дрэнна), "дастаткова", "добра", "вельмі добра". Дзённікаў не было, адзнакі ставілі толькі ў сшытку. У канцы кожнага навучальнага года выдавалі гербавую паперу – школьнае пасведчанне (Świadectwo szkolne) аб заканчэнні пэўнага класа.

Моцным бокам у працы школ таго часу было тое, што яны камплектаваліся высокакваліфікаванымі педагогамі. Усе настаўнікі як мінімум былі выпускнікамі настаўніцкай семінарыі, мелі добрую педагагічную і метадычную падрыхтоўку. Настаўнікамі былі звычайна мужчыны. Зарплата ў польскага настаўніка была даволі высокая – каля 100 злотых.

У маі 1935 года ў Польшчы была абвешчана нацыянальная жалоба. Адноўленая дзяржава назаўсёды развіталася з яе першым кіраўніком – маршалкам



*Лявонпальская школа. Заняткі па фізкультуры ў старэйшых класах. На другім плане – настаўнікі, далей – валейбольная пляцоўка. Надпіс на адвароце: "Aniśkowicz Eliasz klasa VI. Dnia 29/V–1939 roku"*




*Карта “100 школ маршалка Юзафа Пілсудскага на Віленшчыне”*

Юзафам Пілсудскім (1867 – 1935). Паходзіў ён з мястэчка Зулаў (польск. Zułów, літ. Zalavas) каля Вільні і незадоўга да смерці загадаў пабудаваць на радзіннай Віленшчыне 100 школ.

По загаду Польскай дзяржавы ў гонар Юзафа Пілсудскага быў выпрацаваны план па пашырэнні адукацыі сярод насельніцтва краю пад назвай “100 школ маршалка Юзафа Пілсудскага на Віленшчыне”[16]. Згодна з ім у Віленскім рэгіёне, у склад якога тады ўваходзіў і Лявонпаль, прадугледжвалася будаўніцтва 100 пачатковых навучальных устаноў з выкладаннем на польскай мове. На аснове мясцовай ініцыятывы, шэфскай дапамогі польскіх вайскоўцаў і фінансавання цэнтральных улад у Лявонпалі ў 1936 – 1937 гадах была пабудавана новая вялікая драўляная школа. Будынак узводзілі вельмі хутка па тыповым праекце. У мясцовых касцёлах і цэрквах з нагоды адкрыцця школ імя Юзафа Пілсудскага звычайна праводзіліся святочныя малебны.

Лявонпальская школа – адзін з тыповых помнікаў драўлянай грамадзянскай архітэктуры 1930-х гадоў. Дзякуючы апошнім даследаванням у галіне архітэктуры Заходняй Беларусі, сёння можна вызначыць стыль будынка: помнік беларускага неарамантызму першай паловы XX стагоддзя[17]. Станаўленне гэтай архітэктурнай плыні ў 1920 – 1930-я гады звязана з імёнамі вядомых архітэктараў, якія плённа працавалі на Віленшчыне: прафесара Віленскага ўніверсітэта Юліюша Клоса, архітэктара і былога дзеяча БНР Лявона Вітан-Дубейкаўскага і Клаўдзія Дуж-Душэўскага, Яна Бароўскага і іншых.

Першым сфармуляваў, абгрунтаваў, а потым і практычна ўвасобіў беларускі стыль у будоўлі Лявон Вітан-Дубейкаўскі. У 1929 – 1931 гадах Юліюш Клос разам са знакамітым віленскім фатографам Янам Булгакам і студэнтамі Віленскага ўніверсітэта даследаваў і зафіксаваў адметныя архітэктурныя будынкі Браслаўскага павета (між іншым, у 1929 годзе яны зафіксавалі і помнікі архітэктуры Лявонпаля). Гэтыя выбітныя дзеячы на падставе аналізу архітэктурных традыцый рэгіёна выпрацавалі новы архітэктурны стыль, які гарманічна стасуецца з існуючым асяроддзем: драўлянай забудовай беларускіх вёсак і мястэчак, бугрыстым ландшафтам Паазер’я і адначасова адпавядае сучаснаму ўзроўню будавання. Стыль вылучаецца перайманнем найлепшых гістарычных і мастацкіх традыцый беларускага драўлянага будаўніцтва з асцярожным выкарыстаннем прыёмаў “закапанскага” стылю ў аб’ёмах і некаторых элементах барока ў дэталях. Для пабудоў стылю беларускага неарамантызму

характэрна гарманічнасць прапорцый, высокі і часта складаны пластычны дах, вялікія навесы даху над сценамі, шалёўка сцен часцей вертыкальная, часта наўмысная адмова ад ашалёўкі (бярвенні сцен гладка абчасаныя), выкарыстанне элементаў барока (крывалінейныя франтончыкі, круглыя вакенцы, паўцыркульныя галерэі і праёмы акон, барочныя калоны і вежачкі і г. д.).

Найбольш яскравымі прыкладамі будынкаў стылю беларускага неарамантызму ў тагачасным Браслаўскім павеце з'яўляюцца драўляныя касцёлы у Дрысвятах, Мяжанах і вёсцы Далёкія. У гэтым стылі рознымі архітэктарамі распрацавана і ўвасоблена шмат праектаў будынкаў грамадзянскага прызначэння: лесніцоўкі, стражніцы, староствы, будынкі добраахвотнай пажарнай каманды, школы, шпіталі, чыгуначныя вакзалы. Найбольш яскравымі прыкладамі з'яўляюцца будынкі калоніі для ўрадоўцаў у Браславе.

Вялікі па памерах і прыгожы па прапорцыях драўляны будынак школы ў Лявонпалі стаіць на каменным падмурку і мае ў плане два крылы, якія злучаюцца між сабой накшталт літары "Г". У даўжэйшым крыле размешчаны тры прасторныя класы. Яны асвятляюцца вялікімі і якаснымі па выкананню вокнамі, якія наўмысна арыентаваны на поўдзень. У доўгія зімовыя вечары класы асвятляліся электрычнымі лямпачкамі (электрычнасць была ў Лявонпалі з 1920-х гадоў). У карацейшым крыле будынка размешчана памяшканне для выкладчыкаў, а за брандмаўэрам (глухая цагляная перагародка ад падмурка да канька даху), які засцерагаў розныя часткі будынка ад выпадковага пажару, размяшчалася кватэра – жытло дырэктара школы. Кватэра дырэктара даволі прасторная, мае асобны ўваход. У падмурку жытла выкладзены з каменя вялікі падвал.

У зімовую сцюжу ўвесь будынак школы ацяплялі шэсць добрых печак. Высокі дах быў накрыты тэракотавай дахоўкай, якая ў савецкія часы заменена на шыфер. Край даху далёка навісае над сценамі, з-за чаго яго плоскасць вымушана пластычна выгінацца ўбок. Сцены складзены ў "чысты вугал" і наўмысна не ашаляваны, бярвенні гладка абчасаны (будынак часткова ашаляваны ўжо ў савецкі час). Вуглы сцен дэкарыраваны вертыкальнымі дошкамі. Галоўны ўваход у школу і ганак кватэры дырэктара аздоблены белымі барочнымі калонамі з лаканічнай Х-падобнай балюстрадай.

Будынак школы ў цэлым выглядае вельмі гарманічна, якасна і дабротна. Менавіта такі падыход быў карысны і ў



*Пачатковая школа ў Лявонпалі. 1937 г.*



*Выпускное фота з настаўнікамі. У цэнтры – лявонпальскі бацюшка Ермалай Сурвіла, па яго правую руку – дырэктар Франц Міханьчык. Надпіс на адвароце: “Kl. VI dn. 20.VI–1939 r. Eliasz Aniśkowicz. Syn Jana i Lidy”.*

ідэалагічным сэнсе: сваім выглядам ён павінен быў адлюстроўваць трываласць і стабільнасць новай улады, садзейнічаць развіццю культуры на ўсходзе краіны.

Лявонпальскія старажылы ўзгадваюць вельмі добрую абсталяванасць школы сучаснай на той час мэбляй і школьнымі прыладамі, сярод якіх быў цудоўны чорны раяль, з дапамогай якога паспяхова навучалі спевам лявонпальскіх дзетак амаль да апошніх часоў існавання школы.

Даваенным дырэктарам лявонпальскай школы быў Франц Міханьчык, які пазней стаў удзельнікам Арміі краёвай. Жыў ён разам са сваёй сям’ёй у кватэры пры школе, гаспадаркі не меў. Пры школе быў “пан струж” – вартаўнік. У яго абавязкі ўваходзілі ўсе гаспадарчыя клопаты па




*Цэнтр Лявонпаля ў 1939 г. Малюнак А. Аніськовіча*



*Школьнікі з настаўнікам ля помніка маршалку Ю. Пілсудскаму ў Лявонпалі. Удалечыні за плоцікам – парк палаца Лапацінскіх. Здымак датаваны 26.V–1937. Даслана з Польшчы нашчадкамі Ф. Міханьчыка*




*Абеліск у гонар савецкіх воінаў на месцы помніка Ю. Пілсудскаму. Фота аўтара*

забеспячэнні дзейнасці школы: ахова, топка печак, утрыманне чысціні, рамонт і розныя даручэнні дырэктара.

Адначасова з будаўніцтвам новай школы на галоўным царкоўным пляцы Лявонпаля быў усталяваны бюст земляку – маршалку Польшчы Юзафу Пілсудскаму (не захаваўся)[18]. Аснаваннем для бюста быў прамавугольны выцягнуты ўверх бетонны пастамент, да якога вялі тры прыступкі. Каля гэтага помніка звычайна праходзілі афіцыйныя і святочныя мерапрыемствы Лявонпаля, удзел у якіх заўсёды бралі школьнікі. Перад помнікам Пілсудскаму рэгулярна шарэнгавалі жаўнеры Лявонпальскага корпуса аховы пагранічнай (KOP Leonpol).

Пасля 17 верасня 1939 года бюст Ю. Пілсудскага, зразумела, перастаў існаваць. Але цікава іншае: пастамент ад помніка захаваўся. У 1944 годзе на гэтым царкоўным пляцы былі пахаваны савецкія салдаты, якія загінулі недалёка ад Лявонпаля ў баі з немцамі. Тады агалены пастамент ад помніка Ю. Пілсудскаму дапоўнілі пірамідальным шпілікам з чырвонай зоркай наверсе. Такім танным спосабам атрымаўся абеліск савецкім воінам, які добра захаваўся да нашага часу.

Сёння, праз многія гады, даволі цяжка ўявіць сабе манументальнасць былога царкоўнага пляца з помнікам Юзафу Пілсудскаму. Зараз гэтае месца абрасло вялікімі ліпамі і агароджана сучасным бетонным плоцікам у мяшчанскім стылі. Ды і перароблена пасля вайны царква – высотная дамінанта куточка – страціла сваю першасную веліч.

Адзначым, што ў гады вайны школа ў Лявонпалі працавала, аднак наведвала яе няшмат дзяцей, бо нямецкая акупацыя ўспрымалася насельніцтвам як нешта часовае. Падручнікі і выкладанне былі беларускамоўнымі. Выкладчыкамі тут у асноўным працавалі былыя польскія настаўнікі. Аднойчы ноччу партызаны паспрабавалі падпаліць школу. Аднак Тэлесфор Шайтэр, тагачасны дырэктар школы, прачнуўся і склікаў людзей. Натоўпам атрымалася патушыць пажар. У ліпені 1944 года гэты край цалкам вызвалілі ад акупацыі. Дырэктар быў арыштаваны і



Акт
здачы Леонпольскай школы.
Дня 1/XI-1941 г. Міханьчык Франц
былы кіраўнік школы ў прысут-
насці настаўніка Палько Юсіфа
і школьнага сторожа Белауса
Івана здаў школу назначана-
інспектарам на павет Браслаў
кіраўніку Шайтэру Тэлесфору
па інвентарнай кнізе.
Пры здачы аказалася, што ўвесь
інвентар запісаны ў кнізе ёсць
апрача 2 вёдзер, каторыя
забрала войска.
1/XI-1941 г. Прыняў: [illegible]
Здаў: [illegible]

*Акт перыяду акупацыі аб здачы лявонпальскай школы новапрызначанаму кіраўніку. 1/XI–1941 г.*

назаўсёды знік з мястэчка. Выкладчыкам пашанцавала больш: іх назаўжды пазбавілі настаўніцкай працы. Новы навучальны год распачыналі ўжо іншыя настаўнікі, у асноўным з прыезжых.

Усе наступныя савецкія гады школа была беларускамоўнай. Навучэнцаў было шмат, заняткі праводзіліся ў дзве змены. На жаль, у савецкі час жорсткая палітыка калгаснага кіраўніцтва вымушала людзей пакідаць родны Лявонпаль, які хутка адчуў дэмаграфічны спад. У 1980-х гадах школу закрылі, а яе кадры і маёмасць перавялі ў Даўгінава.

Былая пачатковая школа імя Юзафа Пілсудскага ў Лявонпалі, на шчасце, паспяхова дажыла да нашага часу. Сёння яе трэба лічыць помнікам архітэктуры і адным з самых старых будынкаў школ, якія яшчэ дзе-нідзе захаваліся на абшарах былога Віленскага краю. У класах школы хутка змяняліся партрэты лідэраў дзяржаў: Пілсудскі, Ленін, Гітлер, Сталін… Школа выхавала не адно пакаленне лявонпальцаў.

На жаль, лёс няўмольны: старая школа даўно закрыта, і замест шматлікага вясёлага натоўпу дзяцей яе драўляныя сцены абкружае пышны здзічэлы бэз…

**Музей радзімазнаўства**

Гісторыя неўміручая. Тое, што здарылася на лявонпальскай зямлі, захавалася ў помніках архітэктуры, а таксама жыве ў памяці тутэйшых людзей. Мясцовым аматарам даўніны, пісьменнікам і краязнаўцам Сяргеем Панізнікам пры Лявонпальскай сельскай бібліятэцы ў 1999 годзе створаны выдатнейшы музей – Музей радзімазнаўства і яго філіял Хата бабкі Ядзвінні. Зацікаўлены падарожнік не пашкадуе, калі завітае сюды. Тут – сховішча



*Сучасны выгляд школы ў Лявонпалі. Зараз будынак не выкарыстоўваецца і закрыты. Фота аўтара*




*Шыльда Музея радзімазнаўства ў Лявонпалі. Аўтар выявы – А. Аніськовіч*

памяці людзей, дзе з галавой можна акунуцца ў сівую даўніну, пагартаць пажоўклыя фотаздымкі, памацаць старадаўнія рэчы народнага побыту. Сярод іх ёсць шмат арыгінальных і непаўторных, страціць якія ніяк нельга: драўляны ровар пачатку ХХ ста-годдзя, Евангелле 1914 года, Беларускі каляндар 1910 года...

На шыльдзе Музея радзімазнаўства ў Лявонпалі па прапанове краязнаўцы Сяргея Панізніка лагатыпам абраны родавы герб колішніх уладальнікаў гэтых мясцін – шляхціцаў Лапацінскіх, якія пакінулі багаты культурны адбітак на прыдзвінскай зямлі.



*Драўляны ровар пачатку ХХ стагоддзя*



*Паэт, пісьменнік, перакладчык і краязнавец Сяргей Панізнік*

**Маладыя мастакі**

З 30 ліпеня па 6 жніўня 2005 года ў Лявонпалі прайшоў пленэр маладых мастакоў пад назвай “У пошуках Атлантыды: Лявонпаль”. Прыдумалі і арганізавалі яго дзве палачанкі: мастачка і дызайнер Кацярына Мяснікова і паэтка Лера Сом. Гэты арт-праект цяпер праходзіць штогод, ён стаў вельмі папулярным у культурна-мастацкім асяроддзі.

Лявонпалю ж было наканавана стаць першай кропкай памкненняў мастакоў, якія жадалі адкрыць гледачу белыя плямы ў гісторыі нашай Айчыны. Мястэчка сустракала ў сваіх абдымках пачынаючых



*У Музеі радзімазнаўства*



*А. Міхайлаў. Лявонпальскія краявіды. 2005 г.*



*Ю. Шайкова. Царква. 2005 г.*

мастакоў: Кацярыну Мяснікову, Андрэя Міхайлава, Алену Бабіч, Людмілу Кацэра, Юлію Шайкову, Вольгу Церашонак, Аляксандра і Наталлю Аніськовіч, а таксама сталых мастакоў: Алеся Пушкіна і Валерыя Шчаснага. Ганаровым удзельнікам пленэру стаў лявонпалец, паэт, пісьменнік і краязнавец Сяргей Панізнік.

Першая спроба пяра была ўдалай. Па выніках пленэру прайшлі выставы ў Верхнядзвінску, Полацку, Віцебску і Мінску. Аб праекце загаварылі вядучыя абласныя і рэспубліканскія выданні, віцебскім абласным тэлеканалам быў зняты відэасюжэт. Працы з лявонпальскімі краявідамі знайшлі годнае месца ў асабістых калекцыях і некалькіх музеях Віцебска.

Ужо потым, у наступныя гады, былі маляўнічыя і багатыя на гісторыю куткі Паазер’я: Асвея на Верхнядзвіншчыне, Дзісна на Міёршчыне, Друя і Опса на Браслаўшчыне, Лучай на Глыбоччыне, Смаляны і Межава на Аршаншчыне, Параф'янава каля Докшыц, старажытны Полацк…

Праект “У пошуках Атлантыды” існуе і сёння. Асноўны напрамак працы – правядзенне пленэру маладых мастакоў, па выніках якога праводзяцца мастацкія выставы, прэзентацыі. З мэтай навучання маладых на пленэр запрашаюцца сталыя



*К. Мяснікова. Тут сапраўды жыве прывід. 2005 г.*



*Н. Аніськовіч. Цёплы дзень. Царква. 2005 г.*




А. Пушкін. Кіно ў Лявонпалі. 2005 г.

мастакі, мастацтвазнаўцы. Наведваюць удзельнікаў імпрэзы паэты, літаратары, краязнаўцы. Таленавітыя, апантаныя і шчыра ўлюбёныя ў родны край яго сыны і дочкі шукаюць адказы на шматлікія пытанні, звязаныя з вядомымі і малавядомымі мясцінамі, асобамі, падзеямі, легендамі і паданнямі.

Удзельнікам першага пленэру "У пошуках Атлантыды: Лявонпаль" Сяргей Панізнік даслаў паэтычнае прывітанне – свой верш "Жытло Айчыны".

*Над роднаю Дзвіною – серабро*
*яшчэ не звечарэлае зары…*
*Не прамінуў я лепшае пары:*
*прыносіла Лявонпалю дары*
*супольніцтва*
*няспуджаных*
*сяброў.*

*Нашэптамі шурпатае кары*
*сасна вяртала продкаў запавет.*
*Каб ад натхнення*
*узнаўляўся свет, –*
*нам нельга прамінуць сваёй гары:*
*уласны след расою акрапіць,*
*уліць у золак маладую кроў,*
*узяць*
*жытло Айчыны*
*пад Пакроў.*
*Хай сніць Лявонпаль творчыя дары!*
*Пры іх нядрэмна дыхалі бары,*
*зырчэла Атлантыда на двары,*
*сузор'яў не журыліся журы:*
*хто змог*
*з Сафійскае крыніцы*
*піць, –*
*навек асуджаны ў атлантах быць.*



В. Шчасны. Росіца. Знак бяды. 2005 г.

**Літаратура і крыніцы:**


1. *Hedemann O.* Historia powiatu brasławskiego. Wilno, 1930. S. 392 – 393.

2. Гл. т. 3, ч. I, гл. X – XI.

3. *Aftanazy R.* Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. T. 4. Wrocław – Warszawa – Kraków, 1993. S. 182, 187.

4. *L.J.* Z nad brzegów Dźwiny, na krańcach Polski // Przewodnik Katolicki. 1930. Nr. 1. 5 stycznia. S. 7.

5. *Lorentz S.* Jan Borowski (1890 – 1966) // Biuletyn Historii Sztuki. 1967. № 4.

6. *Hedemann O.* Historia powiatu brasławskiego. S. 392 – 393.

7. Гл.: *Лакотка А.І.* Пад стрэхамі прашчураў. Мінск, 1995; *Лакотка А.І.* Нацыянальныя рысы беларускай архітэктуры. Мінск, 1999; Хрысціянскія храмы Беларусі на фотаздымках

Яна Балзункевіча. Пачатак XX стагоддзя. Мінск, 2001; *Лакотка А.І.* Драўлянае сакральна-манументальнае дойлідства Беларусі. Мінск, 2003.

8. Памяць. Міёрскі раён. Мінск, 1998. С. 611.

9. *L.J.* Z nad brzegów Dźwiny, na krańcach Polski. S. 7.

10. Матэрыялы С. Панізніка з Музея радзімазнаўства ў Лявонпалі.

11. Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich. T. V. Warszawa, 1884. S. 147.

12. *Локотко А.И.* Архитектура европейских синагог. Минск, 2002.

13. Усе звесткі пра жыццё яўрэйскай абшчыны пачэрпнуты з матэрыялаў С. Панізніка з Музея радзімазнаўства ў Лявонпалі.

14. Памяць. Міёрскі раён. С. 96.

15. *Надсан А.* Біскуп Чэслаў Сіповіч: святар і беларус. Мінск, 2004.

16. *Баравая Г.* У школах Пілсудскага – юбілей // Наша ніва. 2007. Снежань.

17. *Харэўскі С.* Культавае дойлідства Заходняй Беларусі 1915 – 1940 гг. Вільня, 2008.

18. Падрабязней аб гэтым гл. у артыкуле В. Ермалёнка "Помнік у гонар першай Канстытуцыі ў Лявонпалі".



*Польскія стражнікі з лявонпальскай моладдзю. Фота 1932 г.*
*З фондаў Музея радзімазнаўства*

*Вітаўт ЕРМАЛЁНАК*

# ПОМНІК У ГОНАР ПЕРШАЙ КАНСТЫТУЦЫІ Ў ЛЯВОНПАЛІ

3 мая 1791 года была прынята Канстытуцыя Рэчы Паспалітай, якая стала першай не толькі ў нашай краіне, але і ў Еўропе. У гонар гэтай падзеі ў рэзідэнцыі Лапацінскіх у Лявонпалі была пастаўлена калона, якая захавалася да гэтага часу. Помнік такога тыпу адзіны на Беларусі[1].

Ужо праз тры з паловай месяцы пасля прыняцця Канстытуцыі ўладальнік Лявонпаля Ян-Нікадэм Лапацінскі 22 жніўня 1791 года напісаў: "Задумаў я ўвекавечыць тут, на рубяжы Рэчы Паспалітай, на відавоку грознага ворага, вялікую справу Канстытуцыі 3 мая, у якой і мой невялікі ёсць удзел. Таму вырашыў вымураваць высокі слуп паводле майго малюнку, амаль на самым беразе Дзвіны, абы быў здалёку бачны нашым нешчаслівым братам за кардонам і мацаваў у іх сэрцы надзею"[2].

Вышыня пабудаванай калоны была 12 метраў. 18 жніўня 1791 года адбылося ўрачыстае асвячэнне гэтага помніка, у якім прынялі ўдзел Віленскі біскуп і вялікая колькасць як свецкага, так і законнага духавенства. Прысутнічала шматлікая шляхта, у тым ліку кашталян генерал Томаш Мірскі з братам Станіславам, Бяганьскія, Беліковічы, Свірскія, Пазёмкаўскія, Рудаміны і шмат іншых. Біскуп выступіў з пранікнёнай прамовай, якая выклікала ў слухачоў слёзы. На калоне была замацавана шыльда з надпісам-сведчаннем таго, у гонар якой падзеі пастаўлена калона[3].

Толькі ўжо праз восем месяцаў адбыўся другі падзел Рэчы Паспалітай. Лявонпаль апынуўся ў складзе Расійскай імперыі, а ўдзельнікі ўрачыстасці прынялі актыўны ўдзел у паўстанні Тадэвуша Касцюшкі. Генерал Мірскі і Беліковіч сабралі атрад у трыста чалавек і прынялі ўдзел у баях. Томаш Ваўжэцкі быў пасля ранення Касцюшкі кіраўніком паўстання.

Нягледзячы на вайну 1812 года, грамадзянскую і Другую сусветную войны, на шматлікія артылерыйскія абстрэлы, калона ацалела. Помнік стаіць паблізу рэчкі Каменкі ў наваколлі Лявонпаля. Першая рэстаўрацыя калоны адбылася 80 гадоў таму, у 1936 годзе. Вось што апавядае аб гэтай падзеі карэспандэнт у ваяводскай газеце ад 19 верасня 1936 года: "За амаль паўтара стагоддзя ўстанаўлення калоны час значна яе пашкодзіў. Ад яе першапачатковага выгляду амаль нічога не засталося. На версе яе нават зрабілі гняздо буслы. Вось чаму на грамадскіх пачатках быў створаны камітэт па рэстаўрацыі помніка. Ён звярнуўся да вядомага віленскага скульптара Пятра Германовіча з просьбай аб рэстаўрацыі калоны. Германовіч ахвотна згадзіўся. Праца працягвалася да 16 верасня 1936 года. Скульптар на версе калоны размясціў легіённага арла велічынёй больш за метр. На капітэлі калоны ён размясціў выяву чатырох дзіцячых галовак – як сімвал жыццяздольнасці Рэчы Паспалітай. У хуткім часе адбудзецца ўрачыстае асвячэнне рэстаўрыраванай калоны.

Падчас свайго побыту ў Лявонпалі Пятро Германовіч зрабіў яшчэ выяву бюста маршалка Юзафа Пілсудскага. Гэтая праца выклікала вялікую цікавасць мясцовых улад, вайскоўцаў Корпуса аховы пагранічча і жыхароў мястэчка. Было вырашана ўстанавіць у Лявонпалі помнік аднаўляльніку польскай дзяржавы. Гміна выдзеліла для гэтага плошчу. Скульптар Пятро Германовіч адмовіўся ад ганарара і згадзіўся перадаць свой твор дарма.








*Калона ў гонар Канстытуцыі 3 мая 1791 г. Фота 1928 г., 1970-х гг. і сучасны стан*

У хуткім часе на плошчы быў пабудаваны пастамент і ўстаноўлены бюст Ю. Пілсудскага. Мясцовы люд адразу атачыў яго сваёй апекай”[4].

У савецкія часы мясцовыя жыхары ўжо звязвалі помнік з падзеямі вайны з французамі. Калона, аброслая наўкол лесам і хмызняком, засталася знявечанай, але ацалела.

Упершыню пасля вайны помнік быў добраўпарадкаваны да міжнароднай канферэнцыі “Дзісенскія чытанні” ў чэрвені 1996 года. Быў спілаваны лес, які наступаў, высечаны хмызняк. Зрабілі і касметычны рамонт. Да калоны была прымацавана памятная шыльда, якую мастак Аляксандр Аніськовіч замяніў пасля на больш дакладную і сучасную.

Ушанавалі помнік Канстытуцыі ў Лявонпалі і падчас святкавання 1000-годдзя Лявонпаля ў 2000 годзе.

18 мая 2016 года на ўрачыстасць 225-годдзя прыняцця Канстытуцыі завітала вялікая група з 19 асоб – войты, старшыні праўлення гмінаў, бургамістры некалькіх гарадоў Падляшскага ваяводства на чале з Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь Конрадам Паўлікам.

Урачыстасць пачалася з малітвы ксяндза-пробашча Міёрскага касцёла Кшыштафа Мянкінэ. Касцёльны хор “Fiat” спяваў польскія песні, прысвечаныя Канстытуцыі 3 мая. Пасол Конрад Паўлік звярнуўся да прысутных з прамовай, у якой распавёў пра значнасць гэтай падзеі не толькі для мінулага, але і для развіцця дэмакратыі ў наш час. Да калоны былі ўскладзены вянкі ад польскай дэлегацыі і ад раённага выканаўчага камітэта. Прысутныя разам праспявалі вядомы гімн “Рота” і іншыя патрыятычныя песні. На завяршэнне адбыліся гутаркі паміж прысутнымі і гасцямі-палякамі, якія ўручылі прысутным сувеніры. Польскі пасол падкрэсліў, што сродкі, неабходныя для рэстаўрацыі калоны, будуць выдзелены польскім бокам.

**ПАДАННЕ АБ КАЛОНЕ Ў ЛЯВОНПАЛІ**

Мясцовыя жыхары – прыгонныя паноў Лапацінскіх, напэўна, не ведалі сапраўднай прычыны ўзвядзення калоны. І таму хутка яе сталі атаясамліваць з падзеямі вайны 1812 года, а пазней пра яе ўзніклі і мясцовыя легенды. Найбольш вядомая з іх – аб

чалавеку, замураваным у цагляным слупе. Вось яе змест.

У Грудзінаве жыў малады каваль Васіль. Нягледзячы на малады ўзрост, ён выдатна ведаў сваю справу, і таму паны Лапацінскія часта запрашалі яго ў свой маёнтак, каб выканаць найбольш складаную кавальскую працу. Тут маладому кавалю трапіла на вочы прыгажуня Ганна, якая працавала ў пані пакаёўкай. Паміж маладымі ўзнікла ўзаемнае каханне. Яны пачалі часта сустракацца. Хутка ўжо бацькі сталі рыхтавацца да вяселля, папярэдне пан даў згоду. Але калі даведалася пра гэта гаспадыня, яна пачала проста вар'яцець ад злосці. Не жадала радавацца чужому шчасцю, бо свайго не мела. Пачала нагаворваць пану, каб той не дазволіў маладым узяць шлюб. Але Лапацінскі быў разважлівы і не жадаў патураць жонцы. Аднак аднойчы, калі пан з'ехаў па нейкіх справах у Варшаву, пані загадала слугам схапіць Васіля і жывым замураваць у каменным слупе. Калі даведалася аб гэтым Ганна, яна не вытрымала болю ад страты каханага і павесілася пад акном пані. Бацькі Васіля і Ганны праклялі род Лапацінскіх.

Мясцовыя жыхары, калі ноччу падыходзілі да слупа і прыкладвалі да цэглы вуха, нібыта чулі стогн са словамі: "Вызваліце мяне адсюль, вызваліце мяне..."



*Дзіцячыя галоўкі на капітэлі калоны. Сучасны стан*



*Праект рэканструкцыі калоны ў Лявонпалі. Аўтар – А. Аніськовіч*

**Літаратура і крыніцы:**


1. Дакументальных сведчанняў аб тым, што калона на могілках у Глыбокім удзведзена менавіта ў гонар Канстытуцыі 3 мая, не знойдзена.
2. *Hedemann O.* Historia powiatu brasławskiego. Wilno, 1930. S. 132 – 133.
3. Ibidem.
4. Restauracja wzniesionej w r. 1791 kolumny w pow. brasławskim // Kurjer Wileński. 1936. Nr. 318. 19 listopada. S. 8.

*Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ*

# МАЁНТАК БЕЛІЦА РОДУ СВЯЦКІХ

Пра рэзідэнцыю шляхціцаў Свяцкіх у Беліцы (сёння вёска Полымя Сенненскага раёна Віцебскай вобласці) добра вядома аматарам мясцовай даўніны і падарожнікам, якіх вабяць сівыя паданні ды руіны старадаўніх палацаў і замкаў[1]. Калі б удалося цалкам захаваць комплекс сядзібных і гаспадарчых пабудоў, што перажылі дзве вайны, Сенненшчына мела б сёння ўнікальны гістарычны і культурны аб'ект, які быў бы здольны даць новае жыццё і ўсёй вёсцы. Рэшткі гаспадарчых пабудоў з чырвонай неатынкаванай цэглы – кароўніка, спіртзавода і млына – сёння стаяць без выкарыстання. Ад сядзібнага дома засталіся толькі руіны васьміграннай двух'яруснай вежы ды частка сцяны галоўнага фасада.

Пасля прыходу да ўлады бальшавікоў, у 1919 годзе ў былым палацы ўладкавалі Беліцкую сельскагаспадарчую школу, якая ў 1934-м была ператворана ў сельскагаспадарчы тэхнікум. У 1954 годзе Беліцкі заатэхнічны тэхнікум перавялі ў горад Калінкавічы Гомельскай вобласці, а ў былым палацы адкрылі сельскагаспадарчую школу бухгалтараў, якая існавала ўсяго тры гады. Пазней у сядзібным доме знаходзіліся агульнаадукацыйная школа, дом культуры, бібліятэка. У сярэдзіне 1980-х будынак пачаў разбурацца. Імкнучыся яго ўратаваць, у 1985 годзе распрацавалі праектна-каштарысную дакументацыю на рэканструкцыю. Падчас падрыхтоўкі да правядзення рэстаўрацыйных прац з будынка знялі дах. Аднак сродкаў на пачатак рэстаўрацыі так і не знайшлося. Пазбаўлены даху, дом хутка разбураўся, а мясцовыя жыхары давяршылі справу – разабралі сцены на цэглу[2].

Пра апошняга ўладара маёнтка Караля Свяцкага ў ваколіцах кружляюць легенды: быццам бы знайшоў скарб, утоплены пры адступленні Напалеона ў возеры ля Крупак, адсюль і грошы на пабудовы і прыгожае жыццё. Наогул жа ўяўленне аб жыцці апошніх уладароў маёнтка мясцовыя жыхары маюць вельмі цьмянае.

У той жа час рэканструяваць гэтае жыццё магчыма. Возьмем у памагатыя дзве галоўныя крыніцы: успаміны аднаго з родзічаў гаспадароў маёнтка – Вацлава Лядніцкага[3], а таксама некалькі альбомаў сямейных здымкаў, якія захоўваюцца зараз у Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве і дзякуючы інтэрнэту даступны кожнаму[4].

"Беліца разам з іншымі маёнткамі, фальваркамі і лясамі займала тэрыторыю ў дванаццаць тысяч дзесяцін, што належалі магнацкай фартуне[5] Караля Свяцкага, – пісаў В. Лядніцкі. – Маці Караля і яго сястры Марыі была з роду Ваньковічаў[6], бабка – з роду Дварэцкіх-Багдановічаў. У сям'і распавядалі, што дзед Караля Свяцкага быў упраўляючым у Багдановіча (якога – не ведаю, ва ўсялякім выпадку, пра сваяцкасць



*Вёска Полымя. Рэшткі колішняй рэзідэнцыі Свяцкіх. Сучасны стан*



*Вёска Полымя. Рэшткі колішняй рэзідэнцыі Свяцкіх. Сучасны стан*

заўсёды гаварылася, і Свяцкіх я называў дзядзькам і цёткай), багатага і ўплывовага памешчыка. Багдановіч некалі параіў Свяцкаму набыць які-небудзь большы маёнтак (можа, Беліцу), зразумела, на яго, Багдановіча, імя. Свяцкі маёнтак купіў, аднак на сваё імя, а Багдановічу прапанаваў кампраміснае выйсце: каб яму да маёнтка той аддаў таксама дачку. Так і зрабілі, і такім чынам была закладзена аснова вялікай фартуны Свяцкіх”[7] .

Такім чынам, прыхопім цярпенне і скіруемся ў падарожжа ў часе.

### Гаспадар

Вялізныя зямельныя і лясныя ўладанні ў Сенненскім павеце Магілёўскай губерні Караль Свяцкі і яго сястра Марыя атрымалі ў спадчыну ад бацькі ў 1877 годзе. Спадчына налічвала 12 212 дзесяцін зямлі і ўключала маёнткі Шыйкі, Крупкі, Гара, Замошша, Урэц, Старая Беліца і Бачарова. Дзеці рана страцілі бацьку: Каралю тады споўнілася ўсяго 11 гадоў, Марыі – 12. Як паведамляў А.С. Дэмбавецкі ў 1884 годзе, у маёнтках Свяцкіх у тыя часы працавалі два вадзяныя млыны, сукнавальня і карчма, якія прыносілі штогод 150 рублёў прыбытку, ветраны млын, а таксама вінакурны, “крупчаты” і скіпідарны заводы з даходам у 120 рублёў[8]. А ўжо праз чвэрць стагоддзя штогадовы даход з маёнткаў аднаго толькі Караля Свяцкага, які прыклаў руку да развіцця і ўдасканальвання сваёй гаспадаркі, складаў 100 тысяч рублёў.

Як жа ўдалося дасягнуць такога неверагоднага поспеху? Адказ просты: штодзённай карпатлівай працай і цярпеннем. Вучыцца Каралю асабліва не давялося. Скончыў ён толькі павятовае вучылішча (верагодней за ўсё, у Сянно) і, ледзьве дасягнуўшы 20-годдзя, пачаў займацца гаспадаркай. Пасля падзелу



*Лес, які атачаў двор у Крупках*





*Лесапілка і склад бярвенняў у Крупках*

спадчыны з сястрою Караль атрымаў маёнткі Беліца, Крупкі і Урэц. Да 1890 года ў Беліцы ўжо працавалі спіртзавод і млын (іх капітальныя пабудовы захаваліся да нашага часу). Караль хутка зразумеў, што будучае за ўкараненнем новых форм гаспадарання, і зрабіў на гэта стаўку, што хутка прынесла яму вялікія дывідэнды. Ужо ў 1895 годзе на яго прадпрыемствах у Беліцы была ўсталявана паравая машына на 90 конскіх сіл і працавалі 10 рабочых. Гадавая сума вытворчасці склала 17 тысяч рублёў[9]. К канцу 1900-х гадоў К. Свяцкі стаў сябрам Магілёўскага аддзялення Расійскага таварыства вінакурных заводчыкаў[10].

Крупкі былі цудоўным лясным маёнткам, з вялізнымі пушчамі на берагах ракі Бобр. Менавіта лясное багацце стала падставай імклівага павелічэння фартуны К. Свяцкага. У 1896 годзе ў мястэчку Крупкі (зараз раённы цэнтр Мінскай вобласці) ён адкрыў фабрыку запалкавай саломкі, а ў 1900 годзе – лесапільны завод[11]. Упраўленне прадпрыемствамі К. Свяцкі перадаў у арэнду прадстаўнікам яўрэйскай абшчыны Крупак. Запалкавую фабрыку ўзялі ў арэнду С. Хаціновер і М. Годэс, лесапільны завод – С. Рапапорт[12]. З крупскімі яўрэямі, якія складалі значную частку насельніцтва мястэчка, К. Свяцкі доўгія гады жыў у міры і згодзе.

Да 1907 года фабрыка запалкавай саломкі Караля Свяцкага лічылася ўжо адным з буйнейшых дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў Сенненскага павета. На яе долю прыпадала 8,62 % агульнай сумы



*Лесапілка ў Крупках*



*Пажарная вышка ў лесе Свяцкіх*



*Палац Свяцкіх у Крупках, пабудаваны ў 1909 годзе*

прадукцыі, што выраблялася ў павеце. На фабрыцы было 48 рабочых, якія за 290 дзён 1906 года зарабілі 7380 рублёў, перапрацаваўшы 600 сажняў асіны і вырабіўшы 7100 скрыняў запалкавай саломкі для Амерыкі. На лесапільным заводзе ў Крупках было занята 25 рабочых, якія ў 1906 годзе зарабілі 2000 рублёў, перапілаваўшы 80000 кубічных футаў калод на дошкі[13]. Да 1912 года на лесапілцы працавалі ўжо 30 рабочых, на запалкавай фабрыцы – 60. На кожным прадпрыемстве быў усталяваны лакамабіль магутнасцю 16 конскіх сіл [14].

Распараджаўся К. Свяцкі ляснымі рэсурсамі, якія цяжка аднаўляюцца, з вялікім разлікам, розумам і спецыяльна выпрацаванай стратэгіяй. Вось што пісаў пра гэта В. Лядніцкі: “Крыніцай вялізнага даходу Свяцкага былі яго лясы і лесапілкі – 6000 дзесяцін так званага “матэрыяльнага” лесу. Ён заўсёды меў цудоўнага старшага ляснічага з вышэйшай адукацыяй. Доўгі час ім быў Рышард Луба, жанаты на старэйшай дачцэ Юзафа Пачобута Зоі. Старшы ляснічы жыў у прыгожым, нядаўна пабудаваным, сучасным, мураваным палацы-віле ў Крупках, над цудоўным возерам той жа назвы[15]. Свяцкі арганізаваў рацыянальную лясную гаспадарку, якая засноўвалася на штогадовай (у межах ста гадоў) вырубцы і пасадцы лесу. Усе лясы падзяляліся на квадраты з шырокімі прасекамі, якія былі засеяны лубінам або травой і з’яўляліся



*Выгляд з адкрытай тэрасы палаца ў Крупках на раку Бобр*



*Выгляд з балкона палаца ў Крупках на раку Бобр і сасновую пушчу на другім беразе*



*Зоя Пачобут у Крупках на рацэ Бобр*

перашкодай для магчымага распаўсюджання пажару. Такія шыкоўна дагледжаныя лясы я бачыў толькі ў Германіі”[16].

Зоя Пачобут даводзілася цёткай Вацлаву Лядніцкаму, а ў адным з фотаальбомаў Свяцкіх знаходзім яе рамантычны партрэт у лодцы на рацэ Бобр. Палац-віла, у якім яна жыла разам са сваім мужам Рышардам Лубай, згодна з запісам у тым жа альбоме, быў пабудаваны ў 1909 годзе познаньскім архітэктарам Станіславам Мячкоўскім. З балконаў і тэрасы дома адкрываўся маляўнічы від на наваколле, раку і пушчу, якая раскінулася за Бобрам.

Каб зберагчы галоўнае багацце маёнтка ад агню, К. Свяцкі загадаў устанавіць у лесе пажарныя вышкі, на якіх увесь час знаходзіліся дазорныя. У Крупках было створана добраахвотнае пажарнае таварыства, ганаровымі сябрамі якога былі Караль Свяцкі і Рышард Луба. Крупскае пажарнае таварыства было, бадай, самым шматлікім і добра структураваным сярод усіх тых, што дзейнічалі ў павеце. Пад



*У так званым “гняздзе бусла” ў парку ў Крупках. Першы злева – Караль Свяцкі, трэці злева – Рышард Луба*

кіраўніцтвам старшыні праўлення працавалі начальнік дружыны з памочнікамі, цэхмайстар, загадчык гаспадаркі, касір, сакратар, атрад “лазальшчыкаў” і атрад “водазабеспячэнцаў”, а таксама чацвёра дзясяцкіх. Сябрамі пажарнага таварыства былі ў асноўным яўрэі. Уваходзілі ў яго склад і арандатары запалкавай фабрыкі: мешчанін Сімха Лейзераў Хаціновер выконваў функцыі памочніка начальніка пажарнай дружыны і загадчыка гаспадаркі, а купец Моўша Эльевіч Годэс лічыўся неадменным сябрам таварыства[17].

Дастаткова хутка дасягнуўшы фінансавага дабрабыту, Караль Свяцкі, здавалася б, мог супакоіцца і пачаць выдаткоўваць грошы на свае вялікія і малыя задавальненні. Аднак ён зрабіў інакш. “Штогадовыя вырубкі прыносілі



*Выгляд з балкона палаца ў Крупках на раку Бобр і дзікую пушчу за ёю*



*Янка Купала. Фота пачатку 1900-х гг.*

Свяцкаму больш за сто тысяч рублёў, якія ён выдаткоўваў на павышэнне вытворчасці сваіх зямель і гаспадаранне на тых шасці тысячах дзесяцін, што заставаліся", – пісаў В. Лядніцкі[18].

Цікавасць да сельскай гаспадаркі ў Караля Свяцкага з'явілася ў хуткім часе пасля шлюбу. Ажаніўся ён у 1894 годзе з Марыяй з роду Данімірскіх (6.XII.1872 – 29.XII.1954). Дзяўчына паходзіла з цэнтральнай часткі сучаснай Польшчы, якая пасля падзелаў Рэчы Паспалітай апынулася пад уладаю Прусіі. Яе бацькі Эдвард Данімірскі (1844 – 1907) і Хелена-Соф'я з роду Валаньскіх (1851 – 1931) жылі ў маёнтку Лысаміцы каля Торуня. Шлюб адбыўся ў маёнтку бацькоў жонкі, а вянчанне – 18 ліпеня 1894 года ў парафіяльным касцёле ў Папове-Торуньскім, які знаходзіўся непадалёк[19].

В 1896 годзе Караль Свяцкі ўжо прыняў удзел у сваёй, відаць, першай сельскагаспадарчай выставе, якая ладзілася ў Магілёве. Яе поўная назва – Сельскагаспадарчая і кустарна-прамысловая выстава, арганізаваная Магілёўскім таварыствам сельскай гаспадаркі. У аддзеле "Жывёлагадоўля" ён паказаў сваіх коней і рагатую жывёлу. Коні К. Свяцкага не зрабілі вялікага ўражання на арганізатараў выставы, а вось два быкі буланай масці – па мянушцы Гектар (альгаўскай) і Ганібал (метыс альгаўска-швіцкай пароды) – былі адзначаны малым срэбным медалём Міністэрства земляробства і Дзяржаўных маёмасцей[20]. У хуткім часе К. Свяцкі стаў сябрам савета Сенненскага аддзялення Магілёўскага таварыства сельскай гаспадаркі[21].

У 1901 годзе ён прыняў удзел у выставе, арганізаванай Магілёўскім таварыствам сельскай гаспадаркі ў гонар свайго 25-годдзя, якая праходзіла з 26 жніўня па 4 верасня. У гэтым аглядзе дасягненняў сельскай гаспадаркі прынялі ўдзел прадстаўнікі Мінскай, Віленскай, Віцебскай, Валынскай, Гродзенскай, Кіеўскай, Ковенскай, Магілёўскай, Смаленскай і Чарнігаўскай губерняў. Павільёны, у якіх дэманстравалася каля 700 экспанатаў, былі разбіты ў гарадскім садзе. Караль Свяцкі прадставіў на выставе 40 экспанатаў, у тым ліку хлеб, што быў вырашчаны ў яго маёнтках[22].

У канцы 1903 – на пачатку 1904 года ў Беліцы апынуўся будучы класік беларускай літаратуры паэт Янка Купала (1882 – 1942). Праўда, тады яшчэ малады Іван Луцэвіч не пісаў вершаў і са снежня 1903 года працаваў настаўнікам у Беліцкім народным вучылішчы ў вёсцы Старая Беліца. Пазней служыў у канторы Караля Свяцкага, а вясною 1904 года ў сувязі з хваробаю маці вымушаны быў вярнуцца ў фальварак Селішча Барысаўскага павета. Там 5 ліпеня 1904 года напісаў самы ранні з вядомых сёння вершаў на беларускай мове – "Мая доля". У 1970 годзе на колішнім сядзібным доме Свяцкіх ўладкавалі мемарыяльную дошку з надпісам: "У гэтым доме жыў у 1903 – 1904 гадах Народны паэт Беларусі Янка Купала (Іван Дамінікавіч Луцэвіч)"[23].



*Палац Данімірскіх у Лысаміцах*



*Бык чырвонай дацкай пароды, якога набыў К. Свяцкі ў жывёлаводчым цэнтра Bellinge у Даніі. 1908 г.*



*Данія. Жыллё сельскагаспадарчага работніка. 1908 г.*

У 1907 годзе ў Варшаве было створана Цэнтральнае сельскагаспадарчае таварыства, якое дзейнічала на тэрыторыі Царства Польскага. Караль Свяцкі запісаўся ў яго сябры. Ужо летам наступнага года таварыства арганізавала азнаямляльнае падарожжа ў Швецыю і Данію, спосаб вядзення сельскай гаспадаркі ў якіх на той час быў выключна мала вядомы ў Беларусі і Польшчы. У падарожжа накіраваліся 17 сяброў таварыства, у тым ліку і К. Свяцкі. Відаць, да гэтага часу ён ужо скончыў "замежную вышэйшую агранамічную ўстанову"[24], пра якую, на жаль, дакладных звестак знайсці не ўдалося.

Для ўдзельнікаў падарожжа, як паведамлялася ў гадавой справаздачы, таварыства дамаглося атрымання льготных пашпартоў. Падчас падрыхтоўкі экспедыцыі давялося звярнуцца па дапамогу да прафесара Дампфельда са Стакгольма, генеральнага сакратара Сельскагаспадарчага таварыства ў Мальмё Leufvéna, а таксама сакратара Дацкага экспартнага таварыства Вінтфельда[25]. Кіраўніком падарожжа стаў сакратар Цэнтральнага сельскагаспадарчага таварыства Антоній Вяняўскі.

У суботу, 27 чэрвеня 1908 года, у 4 гадзіны дня з Венскага чыгуначнага вакзала ў Варшаве сябры групы выправіліся ў падарожжа[26]. Невялікі прыпынак у Берліне, потым – параход у Данію.



*Швецыя. Заліў ля Гётэборга ўвечары.*
*Удалечыні – караблі ваеннай англійскай эскадры. 1908 г.*



ПОѢЗДКА

въ

ДАНІЮ и ШВЕЦІЮ

*устроенная въ іюнѣ 1908 года*

ЦЕНТРАЛЬНЫМЪ

СЕЛЬСКОХОЗЯЙСТВЕННЫМЪ ОБЩЕСТВОМЪ

ВЪ ВАРШАВѢ.

ОПИСАЛЪ
К. Свяцкій.

МИНСКЪ.
Типографія Илья Капланъ. Телефонъ № 230.
1908.

*Вокладка брашуры К. Свяцкага. 1908 г.*

Краіна, у якой удзельнікі паездкі правялі чатыры дні, уразіла не толькі белымі начамі і дасягненнямі ў галіне сельскай гаспадаркі, але і незвычайным уладкаваннем дзяржаўнага ўпраўлення. “Данія з’яўляецца краінай дробнай уласнасці і сялянскай культуры, – пісаў пасля вяртання адзін з удзельнікаў экспедыцыі Людвік Влодэк. – Міністрам сельскай гаспадаркі з’яўляецца практыкуючы земляроб-селянін; старшынёй каралеўскага таварыства сельскіх гаспадароў і дырэктарам сельска-гаспадарчай акадэміі з’яўляецца таксама практыкуючы земляроб – селянін. Адсюль паходзіць незвычайная практычнасць сельскагаспадарчай палітыкі, якая праяўляецца выключна ў падтрымцы ўрадам індывідуальнай ініцыятывы ва ўсіх галінах сельскай гаспадаркі і



*Карова швіцкай пароды, прывезеная ў Беліцу са Швейцарыі*

сельскагаспадарчай навукі, а таксама і тыпаў гаспадарак, дзе нішто не разлічана на тое, каб зрабіць уражанне, але дакладна і самым сціплым чынам служыць сваёй мэце. У адной з самых лепшых жывёлагадоўчых гаспадарак Даніі, у Kolekolle, мы бачылі гаспадарчыя і сядзібныя пабудовы вельмі сціплыя, якія амаль нічым не адрозніваюцца ад сялянскай сядзібы”[27].

Чырвоная дацкая жывёла дагэтуль лічыцца адной з лепшых у свеце. Гэта па заслугах аценілі і ўдзельнікі падарожжа. “Данія з’яўляецца краінай жывёлагадоўлі, – пісаў Л. Влодэк. – Яна вывела ўласную пароду чырвонай дацкай жывёлы, якую некаторыя жывёлаводы лічаць вельмі карыснай для паляпшэння нашай мясцовай жывёлы (адзін з удзельнікаў паездкі, пан



*Беліца. Бычкі, прывезеныя са Швейцарыі*



*Пастух у Беліцы*



*Будаўніцтва кароўніка ў Беліцы*

Караль Свяцкі з Беліцы, набыў з гэтаю мэтаю некалькі быкоў)”[28].

Агледзеўшы не толькі сядзібы і фермы, але таксама музеі і выдатныя мясціны Даніі, падарожнікі накіраваліся ў Швецыю. “Ад Даніі да Швецыі недалёка, – пісаў Л. Влодэк, – і спачатку здавалася, што няма ніякай розніцы паміж пейзажамі і тыпамі сельскагаспадарчай культуры. Аднак трэба ўсвядоміць тое, што працягласць Швецыі ў накірунку з поўдня на поўнач перавышае паўтары тысячы кіламетраў, адкуль з’яўляецца вялікая розніца ў клімаце і флоры, і трэба помніць, што паўночная мяжа нашай паездкі праходзіла па лініі Стакгольм–Гётэборг, дзе гэтае падабенства яшчэ захоўваецца належным чынам. Справа ў тым, што геаграфічна Швецыя падзяляецца на тры часткі: паўднёвую, сярэднюю і паўночную. Першая, ураджайная Скінія, гістарычна і кліматычна звязаная з Даніяй, з’яўляецца краем высокай сельскагаспадарчай культуры і таму стала галоўнай мэтай нашага падарожжа”[29].

Сельскагаспадарчыя дасягненні Швецыі, а таксама высокі ўзровень жыцця як уладальнікаў маёнткаў, так і іх работнікаў, не пакінулі абыякавымі нашых падарожнікаў. Перапоўненыя ўражаннямі, вярталіся яны на радзіму. “У нашым падарожжы мы бачылі шмат цікавых і павучальных рэчаў, – пісаў Л. Влодэк. – Ці прынясе яно якія-небудзь пазітыўныя вынікі кшталту ўстанаўлення кантактаў у галіне жывёлагадоўлі,



*Кароўнік у Беліцы на 267 галоў*




*Кароўнік у Беліцы знутры*



*Бык швіцкай пароды, галоўны вытворнік беліцкага статка*



*Ваганетка, на якой развозілі корм для кароў у Беліцы*

павелічэння імпарту насення з цудоўнай гаспадаркі ў Svalöf, паездкі для вучобы і практыкі маладых сельскіх гаспадароў у Швецыю і Данію, да чаго мы жадалі б схіліць адпаведныя арганізацыі, – сёння яшчэ меркаваць цяжка. Аднак зразумела адно – удзельнікі адвозяць з сабою з яе шмат карыснага для сябе, разам з успамінамі аб некалькіх днях, праведзеных з карысцю і задавальненнем у поўнай гармоніі з таварышамі”[30].

Караль Свяцкі прывёз з сабою ў Беліцу не толькі дацкіх племянных быкоў і багатыя ўражанні, але і цэлы альбом фотаздымкаў, на якіх былі адлюстраваны не столькі прыгажосць прыроды ды выдатныя мясціны Швецыі і Даніі, колькі ўладкаванне кароўнікаў і ўсталяваныя ў іх электрычныя машыны, рознага кшталту гаспадарчыя пабудовы, каровы, што давалі рэкордную колькасць малака, палі цукровых буракоў, птушнікі, школа садаводства, ферма, дзе разводзілі дзікіх качак, вадаспады, што выкарыстоўваліся для выпрацоўкі электраэнергіі, выпасы для маладняку і г. д. Відаць, ён не так даўно яшчэ набыў фотаапарат і не зусім яго асвоіў – здымкі з альбома “Паездка ў Данію і Швецыю, наладжаная Цэнтральным сельскагаспадарчым таварыствам у 1908 годзе” атрымліваліся далёка не заўсёды добрай якасці.

Вярнуўшыся ў родны маёнтак, К. Свяцкі выступіў з паведамленнем-справаздачай пра сваё падарожжа перад сябрамі мясцовага таварыства сельскіх гаспадароў. А сам грунтоўны даклад – вынік уважлівага і ўдумлівага аналізу ўбачанага – аўтар у тым жа годзе выдаў асобнай брашурай у Мінску ў друкарні Ільі Каплана[31].



*Свінаматка ў Беліцы*



*Конь са стайняў К. Свяцкага*



*В. Лядніцкі на кабыле Манон, якую ён набыў у свайго дзядзькі К. Свяцкага за 300 рублёў. 1910 – 1913 гг.*

Вопыт, атрыманы ў паездцы, вельмі прыдаўся яму пры ўладкаванні ўласнай гаспадаркі ў Беліцы. Праўда, з цягам часу замест дацкай племяннай жывёлы К. Свяцкі аддаў перавагу выведзенай у гарах Швейцарыі швіцкай пародзе. Вось што пісаў пра гэта В. Лядніцкі: "У Беліцы былі ўзведзены шыкоўныя мураваныя будынкі з кароўнікам, у якім па рэйках развозіўся ваганеткамі корм для кароў. Свяцкі прывозіў швіцкіх кароў і быкоў са Швейцарыі і ўвесь час атрымліваў залатыя медалі на розных сельскагаспадарчых выставах. Не менш цудоўнымі былі ў яго і хлявы"[32].



*Павільён сельскагаспадарчай выставы ў Слуцку. 1908 г.*

Тое, як сапраўды шыкоўна выглядалі хлявы К. Свяцкага, можна бачыць на захаваўшыхся фотаздымках. На адным з іх, які прадстаўляе ўнутранае начынне кароўніка, бачна, у якой чысціні ўтрымліваліся жывёлы, кожная з іх мела ўласнае стойла і асобную ўліковую картку. А якія выкрутасістыя імёны насілі каровы ў Беліцы: Дагмара, Барыкада, Травіята, Авантура!

Апроч кароў К. Свяцкі разводзіў таксама пародзістых свіней і коней. "Яго цугавыя коні былі знакамітыя, – пісаў В. Лядніцкі. – Ездзіў ён звычайна пяцёркай з лейцамі. Я памятаю, што неяк, расхвальваючы свайго фурмана, ён расказваў, што гэтай пяцёркай ноччу той прывёз нейкага біскупа з Талачына ў Беліцу за дзве з паловай гадзіны[33]. Апроч коней для сябе, якіх ён іншым разам купляў у Пецярбургу, іншым разам у Варшаве, Свяцкі заўсёды меў некалькі ездавых коней для гасцей"[34].



*Пажарная каманда на сельскагаспадарчай выставе ў Слуцку. 1908 г.*



*Сельскагаспадарчая выстава ў Слуцку. 1908 г.*



*Вытворчасць масла ў Беліцы*

Летам 1908 года, толькі што вярнуўшыся са Швецыі і Даніі, К. Свяцкі заспеў на радзіме прыгатаванні да правядзення сельскагаспадарчай выставы ў Слуцку, у якой ён, трэба думаць, таксама прыняў удзел. У сямейным альбоме захавалася некалькі фотаздымкаў, на якіх можна бачыць, як выглядаў спецыяльна пабудаваны для выставы павільён, публіку, што прыбыла з розных месцаў, выступленне пажарнай каманды (магчыма, Крупскага добраахвотнага пажарнага таварыства).

З часам для перапрацоўкі малака, якое ў вялікай колькасці выраблялася ў Беліцы, К. Свяцкі пабудаваў малочны завод з сыраварняй, дзе выраблялі высакаякасныя сыры для продажу. На фотаздымках бачна, што гэта была высокатэхналагічная для свайго часу вытворчасць з выкарыстаннем электрычных машын. Беліцкія сыры і масла ўпрыгожваліся фірмавай упакоўкай з указаннем імя ўладальніка: “Dobra Bielica K. Swiackiego”.

З 1910 года і да пачатку Першай сусветнай вайны К. Свяцкі быў сябрам савета Магілёўскага таварыства сельскай гаспадаркі. З 1909-га да рэвалюцыі з’яўляўся старшынёй Сенненскага сельскагаспадарчага таварыства[35]. “Дзясяткі практыкантаў, гэта значыць студэнтаў і выпускнікоў вышэйшых сельскагаспадарчых навучальных устаноў прайшлі праз Беліцу, навучаючыся пад кіраўніцтвам пана Караля і яго адміністратараў”, – пісаў пазней у сваіх успамінах М. Паўлікоўскі[36].



*Беліца. Злева направа: малочны завод і спіртзавод*



*Сыраварня ў Беліцы. Кіраўнік маслазавода Сікора з практыканткай*

А пра напалеонаўскі скарб ужо ў тыя часы хадзілі легенды. Толькі звязвалі іх не з імем Караля Свяцкага, а нейкага пана Ванлярлярскага. “Ванлярлярскага адрознівала незвычайна буйная фантазія, і нішто не магло спыніць яго капрызаў, – пісаў В. Лядніцкі. – Згодна мясцовай легендзе, Напалеон перад адступленнем з Масквы нарабаваў у маскоўскіх цэрквах залатых крыжоў, аднак умовы яго трагічнага вяртання з Расіі прымусілі выкінуць іх. Расказвалі, што апынуўшыся каля возера ў Крупках (у наш час яно належала майму дзядзьку Каралю Свяцкаму), Напалеон загадаў разбіць на ім лёд і скінуць гэтыя маскоўскія скарбы ў ваду. Ванлярлярскі паверыў у гэтыя легенды і вырашыў асушыць возера, каб знайсці патопленае золата. Сотні сялян былі занятыя ў гэтым фантастычным прадпрыемстве, якое, натуральна, пацярпела фіяска”[37].

Наладжаная ў Беліцы з еўрапейскім размахам гаспадарка прыбытку ўладару, аднак, не прыносіла. “Дзядзька Караль Свяцкі, – пісаў В. Лядніцкі, – штогод меў сто тысяч рублёў са свайго цудоўнага лесу, аднак усе гэтыя грошы на сябе не траціў, большую частку ўкладаў у сваю сельскую гаспадарку і жывёлагадоўлю ў Беліцы, якія даходаў яму не прыносілі, хоць і былі ўладкаваны самым цудоўным чынам”[38].



*Сядзібны дом (палац) у Беліцы. Фота пасля 1911 г.*



*Гаспадарчыя пабудовы (хлявы, спіртзавод) і сядзібны дом у Беліцы*

**Рэзідэнцыя і яе насельнікі**

Сядзібны дом або палац у Беліцы знаходзіўся на невялікай адлегласці ад комплексу гаспадарчых пабудоў. Дом быў узведзены ў сярэдзіне XIX стагоддзя, і сам Караль Свяцкі нарадзіўся ў ім у 1866 годзе.

Назваць гэтую рэзідэнцыю шыкоўнай наўрад ці даводзіцца. Аднапавярховы мураваны дом на 18 пакояў уяўляў сабою прамавугольнік, выцягнуты ў даўжыню. Упрыгожаннем галоўнага фасада былі моцна выступабючы ўперад рызаліт на галоўнай восі, які дадаткова атрымаў другі паверх, а таксама два трохкутныя франтоны на злёгку выступаючых сіметрычных бакавых рызалітах. Плоскі рэльеф мясцовасці не дазваляў зрабіць эфектны пад'езд да галоўнага ўвахода, які ўпрыгожвалі дзве пары калон тасканскага ордэра.

Супрацьлеглы фасад, што выходзіў у парк, быў такі ж просты. Яго асаблівасцю была толькі вялікім паўколам выступаючая цэнтральная частка – вонкавы бок круглай у плане бальнай залы.

Па меры таго, як у Караля Свяцкага раслі даходы і павялічвалася сям'я (у 1900 годзе нарадзіўся сын Станіслаў), уладар Беліцы адважыўся на пашырэнне і перабудову сваёй рэзідэнцыі. У 1909 – 1911 гадах над левым крылом дома па праекце архітэктара Станіслава Мячкоўскага была надбудавана васьмігранная двух'ярусная вежа, якая адразу надала дому больш рамантычны выгляд. Вежа



*Сядзібны дом у Беліцы з боку парку*



*Вежа беліцкага палаца*



*Беліца. Галоўны ўваход сядзібнага дома летам*

мела асобны ўваход, і праз порцік з калонамі, пераадолеўшы некалькі прыступак, можна было выйсці адразу ў парк.

Відаць, у той жа час з дапамогай таго ж архітэктара да вонкавай сцяны бальнай залы была прыбудавана элегантная зашклёная веранда, якую палюбілі і гаспадары, і іх госці. Першыя любілі рабіць там вячоркі, а другія цёплымі летнімі начамі ахвотна заставаліся тут начаваць.

“Палац быў значна больш сучасны, чым, напрыклад, талачынскі, – пісаў Вацлаў Лядніцкі, – у пэўным сэнсе можа і прыгажэйшы, з вялікай круглай бальнай залай, прасторнымі салонамі і сталовай, пакоямі для гасцей, кабінетам Свяцкага, бібліятэкай, будуарам цёці Свяцкай і цудоўнай зашклёнай тэрасай, затое парк непараўнальна меншы за талачынскі і ўезды ў Беліцу менш прадстаўнічыя (прычынай чаго была плоская мясцовасць). (…) Палац у Беліцы, а таксама ўсе сядзібныя пабудовы мелі электрычнасць, вадаправод і каналізацыю. Паміж Беліцай, фальваркамі і Крупкамі быў праведзены тэлефон. На палях пракладзены дрэнаж, балоцістыя лугі асушаны”[39].

У правай частцы дома (калі глядзець з боку галоўнага фасада) знаходзіліся пакоі Караля Свяцкага – бюро і кабінет для працы. У левай частцы – будуар гаспадыні. У вежы быў уладкаваны ванны пакой, а на другім паверсе – скульптурная майстэрня Станіслава Свяцкага. У адным з пакояў знаходзілася хатняя капліца.

Убранства пакояў асаблівай раскошай не вызначалася. Пэўную элегантнасць пакоям надавалі невялікія каміны і высокія печы з белай кафлі. Столь не мела дэкаратыўнай ляпніны, сцены звычайна былі толькі пафарбаваныя.



*Палац у Беліцы. Частка дома, якую займаў К. Свяцкі*



*Палац у Беліцы. Анфілада пакояў*



*Палац у Беліцы. Будуар Марыі Свяцкай*



*Палац у Беліцы. Хатняя капліца*

Выключэнне складала бальная зала. Яе сцены вертыкальна падзяляліся цёмнымі драўлянымі рэйкамі на вялікія прамавугольнікі, якія былі абклеены ўзорыстымі шпалерамі. Тут жа знаходзіліся два ледзьве не самыя каштоўныя прадметы сядзібнага інтэр’ера – пазалочаныя падлюстэрнікі са стальніцамі з белага мармуру і высокімі люстэркамі ў стылі Людовіка XV[40]. Дарэчы, іх вытанчаную прыгажосць маглі бачыць не толькі заможныя госці ды родзічы Свяцкіх, але і простыя жыхары Беліцы. На адным з фотаздымкаў з сямейнага альбома мы бачым чародку сялянскіх дзетак, запрошаных на набажэнства, якое пад імправізаваным алтаром, уладкаваным на сцяне бальнай залы, праводзіў ксёндз Зажыцкі.

Самая каштоўная мэбля ў доме была не старэйшая за эпоху бідэрмаер (другая чвэрць XIX стагоддзя), за выключэннем пары сакрэтнікаў, камодаў і пюпітраў з арэхавага дрэва. Безумоўную гістарычную каштоўнасць мелі вялікія, акаваныя жалезам дарожныя куфры. У доме было шмат парцаляны і старасвецкага срэбра. Бібліятэка налічвала каля трох тысяч кніг пераважна на польскай, рускай і нямецкай мовах. Іншым разам траляліся кніжкі і на англійскай. Збіралі бібліятэку апошнія ўладары Беліцы з кніг, якія выходзілі ў канцы XIX – на пачатку XX стагоддзя[41].

На фотаздымку будуара Марыі Свяцкай няцяжка разгледзець асобныя прадметы яе ўласнай калекцыі: статуэткі, элегантную мэблю, забаўкі на каміне, карціны на сценах.



*Палац у Беліцы. Бальная зала. Старадаўнія вальсы ўспамінае Раіна Ванькові,*
*сястра пісьменніка Мельхіёра Ваньковіча*



*Палац у Беліцы. Набажэнства, якое праводзіў для сялянскіх дзетак кс. Зажыцкі ў бальнай зале*



*В. Ванькові́ч. Напалеон ля вогнішча. 1834 г. Нацыянальны музей, Варшава*

Як паведамляе польскі гісторык архітэктуры Раман Афтаназі, які сустракаўся з сынам Караля Свяцкага Станіславам, мастацкая калекцыя ўладароў Беліцы была невялікай, без прэтэнзій на вытанчанасць або раскошу збору. У ёй было некалькі прац марыністаў італьянскай і французскай школ, а ў астатнім – творы сучасных польскіх мастакоў. Найбольш каштоўнымі можна лічыць два палатны Валенція Ваньковіча (1800 – 1842) (маці Караля Свяцкага паходзіла з роду Ваньковічаў) – аўтапартрэт і жанравую сцэну, якая прадстаўляла Напалеона, які глядзіць на палаючую Маскву. Апошняе палатно захавалася – яго ўдалося вывезці з Беліцы пасля рэвалюцыі, і ў міжваенны час карціну прынялі ў збор Нацыянальнага музея ў Варшаве.

На сценах палаца ў Беліцы можна было бачыць таксама працы паэта і карыкатурыста Артура Бартэльса (1818 – 1885); карціны Вітольда Вейхерта (1867 – 1904), якія прадстаўляюць сцэны палявання; палотны аднаго з вядучых прадстаўнікоў рамантычнай плыні “Маладая Польшча” Лявона Вычулкоўскага (1852 – 1936); удзельніка паўстання 1863 года, які доўга знаходзіўся на выгнанні ў Сібіры, Рамана Швайніцкага (1845 – 1915); працы Уладзіслава Маеўскага (1881 – 1925), выхаванца мастацкіх школ Кракава і Мюнхена[42].

Здымкі з прац малавядомага сёння польскага скульптара Станіслава Якубоўскага (1881–1934) трапілі на старонкі сямейнага альбома Свяцкіх. Скульптурай захапляўся





*Скульптура С. Якубоўскага*



*Беліца. Баляслаў Данімірскі і яго бюст*



*Беліца. Анэлія Карковіч на прыступках, якія вядуць у вежу палаца і скульптурную майстэрню*

і сын уладара маёнтка Станіслаў. Аб тым, дзе ён вучыўся мастацтву лепкі і ці вучыўся ўвогуле, звестак знайсці не ўдалося. Таму сёння застаецца толькі меркаваць, хто быў аўтарам бюста Баляслава Данімірскага (1871 – 1931), роднага брата жонкі Караля Свяцкага, – Станіслаў Свяцкі ці, можа быць, той жа С. Якубоўскі, якога маглі запрасіць у маёнтак.

Ва ўсялякім выпадку, у вежы беліцкага палаца царавала багемная атмасфера. Яшчэ на адным фотаздымку на прыступках, што вядуць у пристанак натхнення, прылягла Анэлія Карковіч, якая застыла ў томнай паставе музы і натхняльніцы кожнага, хто гатовы быў пераступіць парог.

Пейзажны парк, што атачаў сядзібны дом з усіх бакоў, быў не асабліва вялікі. З боку галоўнага пад'езда да дома і на супрацьлеглым баку былі пракладзены сцяжынкі і разбіты газоны з клумбамі, на якіх раслі ружы і іншыя расліны, што змяняліся ў залежнасці ад пары года. Вырошчвалі іх тут жа, у спецыяльных аранжарэях і цяпліцах. Замыкаў парк квадрат алей, абсаджаных на старапольскі манер ліпамі[43]. "Упрыгожаннем парка, – пісаў В. Лядніцкі, – былі невялікі стаў, добрая пляцоўка для тэніса і некалькі цудоўных старых ліпавых алей перад домам. Калі ў Беліцы летам рабілі балі, у гэтых алеях ставілі сталы для вячэры, калі дазваляла надвор'е, а шчасце гэтаму звычайна спадарожнічала, і госці піравалі пад лампіёнамі, што віселі над мноствам сталоў"[44].

Ад Вацлава Лядніцкага даведваемся пра характар і звычкі ўладароў сядзібы: "Лад жыцця ў Беліцы быў зусім іншы, чым у Талачыне. Я ўвесь час параўноўваю Талачын і Беліцу таму, што фартуны іх уладароў былі больш-менш аднолькавымі і значна большымі, чым ва ўсіх акаляючых маёнтках, прынамсі, тых, якія я ведаў. Гэты лад жыцця



*Беліца. Пад'язная алея*



*Стаў у беліцкім парку*



*Ліпавая алея ў Беліцы*



*“Алея ўздыхаў” у беліцкім парку*

адрозніваўся перш за ўсё таму, што Свяцкія былі значна маладзейшыя за Славінскіх[45] і знаходзіліся прыкладна ва ўзросце маіх бацькоў. (Рэвалюцыйныя гады перарвалі жыццё ў Беліцы, калі Свяцкаму ледзьве споўнілася пяцьдзясят). Але і тэмперамент дзядзькі Караля быў гэтаму прычынай. Яго жонка, з роду Данімірскіх, паходзіла з зямель, што дасталіся пасля падзелаў Рэчы Паспалітай Прусіі, была ціхай, цудоўна выхаванай і ўвогуле добра адукаванай жанчынай, якая падпарадкоўвалася мужу цалкам, са стаічнай пакорлівасцю даравала яму ўсе здрады. Яна здолела спалучыць грамадскую працу (у Беліцы былі заснаваны неафіцыйныя падрыхтоўчыя курсы і школы для дзяцей, і цёця Свяцкая вельмі актыўна клапацілася пра мясцовае насельніцтва, улічваючы ўсе яго патрэбы) з гатоўнасцю служыць мужу як дасканалая гаспадыня на пастаянных, вельмі шматлюдных прыёмах, балях, паляваннях, якія ён бесперапынна наладжваў. Цікавілася яна і палітыкай. (…)

Я ўжо згадваў, што дзядзька Караль быў славуты сваім тэмпераментам – перш за ўсё, тэмпераментам данжуанскім. Гэта не быў Дон Жуан у поўным значэнні гэтага слова, гэта быў страшэнны жарабец. Прыстойны, заўсёды цудоўна апрануты, брунет, з падстрыжанымі вусікамі над моцна развітай і выступаючай ніжняй сківіцай, з поўнымі жыцця вачамі і зубамі, якія блішчэлі



*Парк у Беліцы*



*К. Свяцкі і А. Карковіч*
*на шпацыры ў беліцкім парку*



*Беліца. На пляцоўцы для тэніса*



*Беліца. Гульцы ў тэніс*

залатымі каронкамі і пломбамі (калі ён зрабіў сабе гэтыя ўпрыгожанні, мая мама неяк сказала яму жартаўліва: "Табе не хапае яшчэ брыльянтаў у гэтым золаце"), бадзёры, заўсёды ў руху, ён увесь час паддаваўся фізічным жаданням. Пра яго можна было сказаць: "Хто першы трапіўся, той і прапаў" – прыгожая, брыдкая, падлетак, замужняя. Часта здаралася, што, напрыклад, падчас гульні ў тэніс – а ён часта гуляў у тэніс, гэтак жа, як і ездзіў верхам (кожны дзень рана ён аб'язджаў на кані фальваркі і палі, а пасля поўдня гарцаваў з гасцямі), чакаючы сваёй чаргі, ён адводзіў у глыб парку тую або іншую дзяўчыну і там імкнуўся, здаецца, не заўсёды без поспеху, давесці свае афекты да апошняй рысы.

Ён арганізоўваў цудоўныя святы. Звычайна прыбывала некалькі вялікіх вазоў, запрэжаных чацвёркай, і выязджалі кудынебудзь далёка ў лес, дзе повар і служба чакалі з абедам і віном. Так, аднойчы, калі госці ўжо сядзелі ў вазах, пачалі шукаць гаспадара, які знік. Не было таксама і пані С., вядомай сваёй прыгажосцю, вясёлым норавам і дасціпнасцю. Цёця Свяцкая звярнулася да слугі, той прамармытаў нешта няўцямнае, і тады нехта з маладых людзей падрадзіўся пайсці шукаць дзядзьку Караля. Пазней я даведаўся, што ён знайшоў яго на нейкай лаўцы ў парку з пані С. у позе, якую магу не апісваць… (…)

Здаецца, у ранняй маладосці ў яго былі хворыя лёгкія, і яго адправілі ў Каір. На шчасце, пазней ніякіх праблем з лёгкімі ён не меў, і жыццё сваё ў Беліцы правёў у добрым здароўі.

Яго буйны тэмперамент праявіўся не толькі ў сферы "мілых свавольстваў", не толькі ў спорце і танцах (ён быў прызнаным і нястомным выканаўцам мазуркі), не толькі ў частых забавах у Беліцы, Мінску і Варшаве (неяк у Варшаве ён прыйшоў у такое захапленне ад Месалькі[46], што пераскочыў праз фатэль, аркестр і ўхапіў яе за плечы), але і ў многіх іншых галінах жыцця. Я ўжо



*Караль Свяцкі ў Беліцы*



*Падрыхтоўчыя курсы і школа рукадзелля для дзяцей у Беліцы*

згадваў пра яго гаспадарку. Ён горача да яе прывязаўся. Той факт, што ён укладаў у яе большую частку сваіх даходаў, мае значэнне, бо калі мы возьмем пад увагу іх велічыню, тым ярчэй праяўляецца іншы факт: Свяцкі ўвогуле ў прыватным жыцці быў чалавекам сціплым. Напрыклад, ездзіў звычайна другім класам. Прыёмы ў Беліцы, гасцінныя і шумныя, не вылучаліся асаблівымі вычварнасцямі. У той жа час ён шмат ахвяраваў на дабрачынныя мэты. Я ўжо згадваў пра грамадскую дзейнасць яго жонкі, не меншым грамадскім працаўнікам быў і ён сам. Перш за ўсё, у Беліцы праводзілі шмат часу незаможныя родзічы як яго самога, так і яго жонкі, ён утрымліваў яе курсы і школы, клапаціўся пра добрыя ўмовы жыцця для сваіх падданых і чэлядзі, прымаў удзел у дзейнасці розных земляробчых таварystваў. Падчас выбараў у Дзяржаўную Думу ўдзельнічаў ва ўсіх перадвыбарчых польскіх прыгатаваннях. На балях у Беліцы ніводная вячэра не магла абыйсціся без прамоў, і тут дзядзька



*Работнікі ля лесапілкі ў Крупках*

Караль зноў верхаводзіў – пад тымі ліпамі прамаўляў палымяныя патрыятычныя словы”[47].

Пацверджанне грамадскага тэмпераменту Караля Свяцкага знаходзім у дакументах эпохі. У 1912 – 1916 гадах ён быў сябрам земскага сходу Сенненскага павета, з’яўляўся сябрам павятовай раскладачнай па прамысловаму налогу канцылярыі[48]. “Памятныя кніжкі Магілёўскай губерні” паведамляюць таксама аб тым, што на працягу 1909 – 1916 гадоў К. Свяцкі быў нязменным сябрам праўлення польскага Таварыства асветы і дабрачыннасці. У 1909 годзе сябрам праўлення была таксама і Марыя Свяцкая[49], якая пазней палічыла за лепшае адысці з публічнай арэны, але дабрачынную дзейнасць не пакінула. Трэба меркаваць, што богаслужэнне для дзяцей у бальнай зале беліцкага палаца, пра што ўжо згадвалася вышэй, – справа яе рук.



*Караль і Марыя Свяцкія*



*Сялянскія дзеці ў Старой Беліцы*



*Вёска Старая Беліца*



*У вёсцы Маргойцы*

Гэтаксама, як і падрыхтоўчыя курсы і школа рукадзелля для дзяцей у Беліцы, выхаванцы якіх адлюстраваны на адным з фотаздымкаў сямейнага альбома.

Адносіны са сваімі падданымі Караль Свяцкі будаваў не на адной толькі боязі пана і безумоўным яму падпарадкаванні. На старонках альбома багата здымкаў, на якіх мы можам бачыць сялян і работнікаў маёнтка. Простыя людзі спакойна і з годнасцю глядзяць у аб'ектыў. На іх тварах няма той пячаткі забітасці і прыніжанасці, пра якія так часта на пачатку XX стагоддзя пісалі свае і прыезджыя літаратары пры наведванні Беларусі.

Зноў дамдзім слова Вацлаву Лядніцкаму: "Хачу расказаць яшчэ пра два факты. Караль Свяцкі добра ведаў польскую літаратуру, і яго характарызавала асаблівая прывязанасць да тэатра. Таму амаль кожны год ён наладжваў у Беліцы аматарскія прадстаўленні (ігралі пераважна Выспяньскага; сам Свяцкі, напрыклад, – і я гэта памятаю – выступаў у ролі Самуэля ў "Суддзях") і жывыя карціны, якія прадстаўлялі розныя палотны польскіх мастакоў. І гэта яшчэ не ўсё. Гэтыя прадстаўленні ён наладжваў у розных павятовых мястэчках, перавозячы з аднаго ў другое сваю трупу і дэкарацыі. У мяне перад вачамі такі вечар, удалы, вясёлы і буйны – у Оршы, на які з'ехаліся ўсе навакольныя памешчыкі і мноства гасцей з аддаленых маёнткаў. Гралі там як раз "Суддзяў", пасля чаго пачаўся баль, што працягваўся ўсю ноч. Усё гэта ён арганізаваў сам: пляцоўку для прадстаўлення і баль, памяшканні для гасцей і г. д. (…)

Не падлягае ніякаму сумненню, што гэты занятак не толькі даваў Свяцкаму вялікую асабістую сатысфакцыю і прыемнасць, не толькі задавальняў яго захапленне тэатрам, не толькі даваў выйсце яго акцёрскаму і рэжысёрскаму тэмпераменту, але і быў важным фактарам у жыцці навакольных польскіх памешчыкаў, падаграваючы ў іх літаратурныя і культурныя зацікаўленні"[50].

Цікава, што ў сямейным альбоме захаваліся здымкі менавіта таго тэатраль-



*Работнікі, якія займаюцца меліярацыяй*



*Беліца. П’еса “Суддзі” С. Выспяньскага. Іграюць Караль і Марыя Свяцкія*



*Беліца. П’еса “Суддзі” С. Выспяньскага. Справа налева: Ст. Кінецкі, Дэспат-Зяновіч, Ян Данімірскі. Злева – Т. Ардоўскі*

нага прадстаўлення, пра якое піша В. Лядніцкі, – п’есы Станіслава Выспяньскага “Суддзі”. Гэта тэатральная пастаноўка з яўрэйскага жыцця была напісана ў 1900 годзе. У ёй расказваецца аб тым, як ліхвяршынкар, які пачуваў сябе непрыступным за сцяною рэлігійнасці, жорстка караецца рокам за свае справы: ён губляе любімага сына, а другі яго сын становіцца забойцам. На лужку беліцкага парку, ператвораным у імправізаваную сцэну, мы бачым Караля Свяцкага (неўтаймаваны тэмперамент якога выглядае тут вельмі пераканаўча), яго жонку Марыю, родзічаў і знаёмых, што прыехалі ў маёнтак і на час ператварыліся ў акцёраў.

Яшчэ на двух фотаздымках дамы і кавалеры выконваюць гавот – салонны французскі танец, папулярны ва ўсёй Еўропе. Тады прадстаўлялі, відаць, нешта з XIX стагоддзя.



*Гавот. Прадстаўленне ў Беліцы*

Свяцкія, як і большасць карэнных шляхецкіх сем’яў Беларусі канца XIX – пачатку XX стагоддзя, пазіцыяніравалі сябе палякамі і былі настроены патрыятычна. Улюбёным танцам Караля, як ужо згадвалася вышэй, была мазурка, якую ён танцаваў з жонкаю ў нацыянальных касцюмах. Пара велічна выступала ў кунтушах[51], які ў мужчын падпярэзваўся спецыяльным шырокім поясам. Галаву Караля вянчала магерка з пяром, абшытая футрам. Раскошны дыван – кілім – пад нагамі пары, якая застыла ў эфектным танцавальным па, дапаўняе “жывую карціну” з недалёкага мінулага Рэчы Паспалітай абодвух народаў.

Аўтарам шматлікіх фотаздымкаў, што захаваліся ў сямейных альбомах, быў Станіслаў Свяцкі. Позірк мастака пазнаецца



*Гавот. Прадстаўленне ў Беліцы. Першы з правага боку – Станіслаў Свяцкі*



*Мазурка ў выкананні Караля і Марыі Свяцкіх на прыступках палаца ў Беліцы*



*Мазурка ў Беліцы. Караль і Марыя Свяцкія*

ў многіх кампазіцыях. Ну каму б яшчэ тады, на золаку з'яўлення аматарскай фатаграфіі, прыйшло ў галаву здымаць сумёты, намеценыя амаль уровень з дахамі сялянскіх хат? Або сухое заснежанае дрэва ў лесе? А лыжніка, які імкліва нясецца з беліцкіх круч і спаборнічае з іншымі ў з'ездзе з дапамогай толькі адной палкі? А нетры беліцкай пушчы летам – прыстанак рознага кшталту звярыны і птушак? Або бурлівую веснавую паводку 1915 года?

Як і яго бацька, Стась Свяцкі нарадзіўся ў Беліцы. Адбылося гэта на зломе стагоддзяў – у 1900 годзе. Першыя здымкі, што дайшлі да нашага часу, прадстаўляюць яшчэ маленькага хлопчыка, які хадзіў у кароткіх штоніках. Дзяцінства Стася прайшло ў атачэнні прыроды і жывёл. Караль Свяцкі, сам заўзяты паляўнічы, рана пачаў браць сына з сабою ў лес. Ён прывучаў яго да назіральнасці, непатрабавальнасці, верхавой язды. Паляўнічыя трафеі бацькі напаўнялі дом. Ля адной з лесвіц стаяла чучала мядзведзя, забітага ў Беліцы ў 1901 годзе. У маёнтку жыў прыручаны лясны воўк, які прызнаваў толькі аднаго чалавека – маладога слугу, свайго апекуна. У беліцкім парку быў зроблены "дом Рабінзона", дзе жыла ручная сава і хлопчык іншым разам заставаўся начаваць. На паляванне на качак ездзілі ў маёнтак Урэц, дзе праз возера плылі на лодках-душагубках. Ва ўсім Сенненскім павеце толькі ў Нярэйшынскай казённай лясной дачы ды хвойных лясах К. Свяцкага вадзіліся рысі[52].

Усё гэта разам узятае садзейнічала развіццю ў хлопчыка цікавасці да прыроды. З часам ён стаў арнітолагам-аматарам. У беліцкім палацы знаходзіліся тры вялікія шафы, у якіх Станіслаў захоўваў сабраную ім калекцыю яек мясцовых і пералётных птушак. Цікавілі яго і падводныя акамянеласці са дна Чорнага мора, а таксама паўночных мораў[53]. Прынамсі, нечым



*Сумёты ў Мінюцеве вышынёй амаль да дахаў сялянскіх хат*



*Зіма ў лесе ля Беліцы*



*С. Кіневіч і Стась Свяцкі з ручной савой ля “дома Рабінзона” ў беліцкім парку*



*Станіслаў Свяцкі ў Беліцы*



*З’езд лыжніка з беліцкай кручы з адной палкай*



*Прыручаны лясны воўк, які прызнаваў толькі свайго апекуна*



*Беліцкая пушча ўлетку*



*Веснавая паводка 1915 г. у Беліцы*



*Беліца. Стась Свяцкі з Другам*



*“Пяшчотны тата”.*
*Стась і Караль Свяцкія на паляванні*



*Мядзведзь, забіты ў Беліцы ў 1901 г.*



*Караль Свяцкі на паляванні на глушцоў*



*На каньках. У цэнтры – Караль Свяцкі,*
*злева ад яго – жонка Марыя,*
*першы справа – сын Станіслаў*



*Урэц. Паездка на паляванне на качак*

падобным захаплялася і яго маці – дзеля гэтага дастаткова зірнуць на камінную полку ў яе будуары, упрыгожаную караламі і іншымі рэдкасцямі, якія прывозіліся з падарожжаў.

З часам у Станіслава з'явілася яшчэ адно захапленне – калекцыяніраванне зброі. Як паведамляе Раман Афтаназі, юнак сабраў вялікую калекцыю старажытнага польскага, а таксама бліжне- і далёкаўсходняга ўзбраення[54].

Асобную частку жыцця насельнікаў палаца ў Беліцы складалі падарожжы. Свяцкія маглі сабе дазволіць паездкі за мяжу – і рабілі гэта ахвотна і шмат разоў. У альбоме знаходзім здымкі і з пляжа ў Майары каля Рыгі, і з падарожжа па Рэйне ў Германіі, і з шыкоўнага гатэля ў Біярыцы, і з паездкі ў Іспанію і Партугалію, і з Рыўеры, і з курортаў Швейцарыі.

Падарожжы ў Царства Польскае і Каралеўства Прусія (куды ўваходзіў Торунь і ваколіцы) паездкамі за мяжу не лічыліся – гэта была краіна, родная па культуры і гісторыі, у якой жыло шмат родзічаў. У траўні 1912 года Свяцкія, якія прыехалі ў Варшаву, нечакана аказаліся сведкамі грандыёзнай падзеі, калі тысячы людзей выйшлі на вуліцы сталіцы – так Варшава развітвалася са сваім знакамітым пісьменнікам Баляславам Прусам.

Па подпісах, зробленых да некаторых фотаздымкаў у альбоме, можна дапусціць, што Станіслаў Свяцкі пэўны час жыў у Варшаве на вуліцы Новы Свят. Можа быць, ён там вучыўся? Пакуль невядома. Аднак здымкі, зробленыя на адной са старэйшых вуліц горада, зноў выдаюць вострае вока мастака – калі не па дыплому, то, прынамсі, у душы.

Шмат паездак Свяцкія рабілі і па Беларусі, фіксуючы па дарозе не толькі сядзібы сваіх родных і знаёмых, але і мясцовыя адметнасці. У маёнтку Абольцы (зараз Талачынскі раён Віцебскай вобласці) яны сфатаграфавалі касцёл, пабудаваны з лістоўніцы. У маёнтку Астрагляды (цяпер Брагінскі раён Гомельскай вобласці) – руіны палаца Прозараў, які быў спалены казакамі ў 1863 годзе. У маёнтку Рудакоў (зараз Хойнікскі раён Гомельскай вобласці) – сядзібны дом Станіслава Ваньковіча.

Аднак размераны лад жыцця сямейства, які складваўся гадамі, у адну хвіліну быў парушаны ў жніўні 1914 года, калі пачалася вайна.

**Лёс**

"Гасціннасць і самаахвярнасць Свяцкага раскрыліся ў ім у найвышэйшай ступені падчас вайны, – пісаў В. Лядніцкі. – Беліцу і яе сядзібныя пабудовы запоўнілі натоўпы ваенных выгнаннікаў з Польшчы, і пад дахам Свяцкага знайшлі прытулак не толькі сем'і сялян, але і многіх інтэлігентаў. Не адзін журналіст, мастак і да т. п. перажыў ваенныя гады ў яго доме, карыстаючыся не толькі кватэрай і ўтрыманнем, але і атрымліваючы фінансавую дапамогу. У многіх іншых сядзібах, напрыклад, Талачыне або Бігосаве, рабілі тое ж самае, аднак Беліца пераўзыходзіла ў гэтых адносінах усіх. Яна ператварылася ў своеасаблівую калонію выгнаннікаў"[55].

Пра гэта ж ўспамінаў і Міхал Паўлікоўскі (1893 – 1972), польскі пісьменнік эміграцыі, які памёр на Гаваях. У 1965 годзе ў Парыжы выйшла яго аповесць "Wojna i sezon", дзе знаходзім такія радкі, што тычацца Беліцы: "Кожнае лета двор напаўняўся галасамі моладзі абодвух палоў – блізкіх і далёкіх сваякоў, прыяцеляў, а таксама бедных студэнтаў, пісьменнікаў і мастакоў, якім быў патрэбны адпачынак у вёсцы. Наладжваліся балі, забавы, спартыўныя спаборніцтвы, вакальна-літаратурныя вечары, аматарскія тэатральныя прадстаўленні. Перад вайной у Беліцы збіралася моладзь не толькі з ваколіц, не толькі з усёй Літвы, але таксама з Каралеўства, Памор'я, Познаньскага ваяводства і Галіцыі. З пачаткам вайны, а асабліва пасля разгрому рускіх летам 1915 года і наплыву бежанцаў, Беліца і навакольныя фальваркі набраклі ад "уцекачоў", якія ў гасцінных уладаннях пана Караля знайшлі прытулак, стол і рашэнне сваіх побытавых праблем.



*Вісбадэн, Германія. Восень 1911 г.*



*Іспанія. Порт Сан-Себасцьян*



*Іспанія. Мадрыд.*
*Перад каралеўскім палацам*



*Іспанія. Таледа*



*Біярыц, Францыя. Hotel de Paris*



*Балтыка. На пляжы ў Майары каля Рыгі*



*Рыўера*



*К. Свяцкі на шпацыры ў гарах.*
*Германія, восень 1911 г.*



*Марыя Свяцкая ў Біярыцы*



*Марыя Свяцкая ў Давосе, Швейцарыя.*
*24 сакавіка 1914 г.*



*Партугалія. Батанічны сад у Лісабоне*



*Варшава. Тэраса на вуліцы Кракаўскае Прадмесце, адкуль прысутныя назіраюць за пахаваннем Б. Пруса. Май 1912 г.*



*Варшава. Пахаванне Баляслава Пруса. Май 1912 г.*





*Варшава. На вуліцы Новы Свят*



*Касцёл у Абольцах*



*Сядзібны дом С. Ваньковіча ў Рудакове*


*Візіт ксяндзоў у Беліцу. На ганку веранды палаца. У цэнтры – Караль і Марыя Свяцкія. З правага боку стаіць Станіслаў Свяцкі*


*Марыя Гурэцкая з Міцкевічаў*

У ліку бежанцаў з Каралеўства знаходзіўся пан Стэфан Кяджыньскі, сярэдняй рукі аўтар пары кніг і п’ес для сцэны. Жыў ён у Беліцы, якая ўжо была запоўнена да апошняй ступені магчымасці. Здарылася так, што ў Беліцу зазірнулі родзічы пана Караля, і гэтай раднёй былі пажылая цётка пана Караля Марыя Гурэцкая, народжаная Міцкевіч (дачка Адама), і Тэадор Дыдыньскі, апошні жывы прафесар Варшаўскай галоўнай школы, з жонкаю”[56].

Як бачым, гаспадарам Беліцы даводзілася прымаць у сябе красу тагачаснай польскай інтэлігенцыі. Марыя Гурэцкая (1835–1922), старэйшая дачка Адама Міцкевіча, стала жыла ў Парыжы, займалася перакладамі і філантрапічнай дзейнасцю, напісала ўспаміны пра свайго бацьку. Тэадор Дыдыньскі (1836 – 1921) – вельмі вядомы польскі юрыст, прафесар Галоўнай школы і ўніверсітэта ў Варшаве, старшыня Варшаўскага навуковага таварыства, аўтар кніг па рымскаму праву. Працы


*Караль Свяцкі (трэці злева ў другім радзе зверху) і Станіслаў Свяцкі (першы справа ў тым жа радзе) сярод выгнаннікаў, што знайшлі прытулак у Беліцы. У верхнім радзе злева направа: невядомы француз, Баляслаў Данімірскі, Рышард Луба, Ежы Данімірскі*



*Навучэнцы і выкладчыкі II-класнай школы Польскага таварыства дапамогі ахвярам вайны ў Крупках*

Т. Дыдыньскага выдаваліся не толькі на польскай, але таксама на рускай і нямецкай мовах. Цікава, якія яшчэ імёны згадваліся б у сувязі з прыездамі ў Беліцу, калі б успамінаў сучаснікаў захавалася болей?

З пачаткам вайны Караль Свяцкі стаў сябрам адразу двух аддзяленняў Камітэта яе імператарскай вялікасці вялікай княжны Таццяны Мікалаеўны для аказання часовай дапамогі асобам, што пацярпелі ад ваенных бедстваў – Магілёўскага губернскага і Сенненскага павятовага[57]. У Крупках Свяцкія адкрылі II-класную школу Польскага таварыства дапамогі ахвярам вайны.

Хутка, аднак, Свяцкім самім наканавана было стаць выгнаннікамі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Беліцы панавала безуладдзе. Маёнтак акупіравалі нямецкія войскі. Пасля іх адступлення ў канцы 1918 года ў Беліцы з’явіўся атрад польскіх легіянераў, накіраваных у Беларусь для аховы шляхты, якая жадала пераехаць на пастаяннае месца жыхарства ў Польшчу[58]. Свяцкія пакінулі наседжанае гняздо і, страціўшы амаль усю маёмасць, накіраваліся да родных у Познаньскае ваяводства. Хлеб эмігранта аказаўся горкім.

“Пазней у Польшчы Караль Свяцкі не знайшоў прызнання і ўдзячнасці за тое, што зрабіў – і нават наадварот, – пісаў В. Лядніцкі. – Адзін журналіст, які добрыя два гады правёў у Беліцы як госць Свяцкага, апісаў таго выключна з боку яго неўтаймаванай жарсці да прыгожага полу, апусціўшы цалкам размах гасціннасці і самаахвярнасці. Аднак дзядзька Караль не быў выключэннем у гэтым сэнсе. Такі лёс чакаў у Польшчы амаль усіх выхадцаў з ускраін. (У Познаньскім ваяводстве было інакш). Калі яны страцілі свае маёнткі, не раз дарэмна шукалі падтрымкі ў тых, каму шчодра дапамагалі падчас вайны. Дзядзька апынуўся без сродкаў якраз у Познаньскім ваяводстве, дзе атрымаў працу ў фальварку брата сваёй жонкі, Данімірскага. (Муж і жонка вялі там малочную гаспадарку, жылі ў маленькім дамку ўпраўляючага). Я сустракаў яго падчас майго побыту ў Познані ў 1921 – 22 гадах. Успамінаю, як ён спакойна пераносіў гэтыя вялікія змены ў сваім жыцці, часта паўтараў: “Я страціў Беліцу, затое набыў Польшчу”. Сяброўскія адносіны і крэўныя сувязі з Данімірскімі і Сласкімі[59] аблягчалі яму выгнанне з маёнтка. І раней ён быў знаёмы з многімі на Памор’і і ў Познаньскім ваяводстве, а цяпер завёў новыя знаёмствы. Заўсёды вельмі радаваўся, калі хто-небудзь выказваў яму сяброўства і прыхільнасць. Не магу забыць тугі, якая мяне ахапіла, калі аднойчы, расказваючы пра нейкую таварыскую сустрэчу ў Познані, ён падкрэсліў, што Хлапоўскі (не памятаю, які) міла пачаставаў яго цыгарэтай!



*Караль Свяцкі (стаіць злева) вітае сваіх супрацоўнікаў на дажынках. 1926 г.*

Мой бацька[60], якога лёсы выхадцаў з ускраін глыбока хвалявалі, выкарыстоўваў розныя спосабы, каб тыя з іх, хто адыграў на крэсах вялікую грамадскую ролю, атрымалі ўзнагароды. Ён жадаў атрымаць для іх хоць бы такога кшталту прызнанне ад Рэчы Паспалітай за іх верную службу айчыне. Ён дамагаўся атрымання ордэна Polonia Restituta[61] для Караля Свяцкага, які не толькі прыняў натоўпы выгнаннікаў, а да вайны падтрымліваў польскую культуру на крэсах, ствараў і ўтрымліваў аб'яднанні для дзяцей – аднак таксама ахвяраваў на грамадскія і культурныя патрэбы ў Царстве Польскім, на крэсах, а таксама на польскія патрэбы ў Маскве (напрыклад, стыпендыю імя Міцкевіча, на якую мой бацька збіраў сродкі ў 1889 годзе). Бацька вельмі разлічваў на прыхільны разгляд сваёй прапановы.



*Галоўная зала Нацыянальнага сельскагаспадарчага банка ў Кракаве, дзе С. Свяцкі працаваў у 1937 – 1939 гг.*

Пра яго намаганні, натуральна, ведаў і сам Караль Свяцкі, таму што бацька прасіў у яго розныя неабходныя дакументы, таму, калі атрымаў адмову, ён вымушаны быў аб гэтым яму напісаць. Бацька чытаў мне яго адказ – поўны годнасці, але і суму"[62].

Ордэн Polonia Restituta Караль Свяцкі ўсё ж атрымаў. Аб гэтым мы даведваемся з некралога, апублікаванага ў газеце "Słowo Pomorskie". У ім паведамлялася аб тым, што 6 мая 1929 года ў гарадку Хелмжа Торуньскага павета пайшоў з жыцця Караль Свяцкі, кавалер афіцэрскага крыжа ордэна Polonia Restituta, уладар маёнткаў Беліца, Крупкі і Урэц на Беларусі, першы дырэктар



*Станіслаў Свяцкі на маскарадзе ў Парыжы перад Новым, 1925-м годам*

Паморскага сельскагаспадарчага таварыства і віцэ-прэзідэнт Гуртка сельскіх гаспадароў у Хелмжы[63].

Марыя Свяцкая перажыла мужа на чвэрць стагоддзя і памерла 29 снежня 1954 года, толькі што адзначыўшы сваё 82-годдзе (нарадзілася яна 6 снежня 1872 года).

Лёс Станіслава Свяцкага ў выгнанні невядомы. Па запісах у сямейным альбоме можна зразумець, што ў 1924 – 1925 гадах ён вучыўся ў Парыжы, верагодней за ўсё, банкаўскай справе. З 1 сакавіка 1937 года да пачатку Другой сусветнай вайны працаваў у Нацыянальным сельскагаспадарчым банку ў Кракаве. Пасля вайны, як піша В. Лядніцкі, разам з маці жыў у Кельцах[64]. Вядома, што ў Станіслава была дачка Барбара, якая на пачатку 1970-х гадоў перадала альбомы з сямейнымі здымкамі ў Нацыянальную бібліятэку ў Варшаве, дадаўшы да іх свае каментарыі[65].

**Літаратура і крыніцы:**

1. Найбольш значнымі працамі па гісторыі Беліцы з’яўляюцца краязнаўчыя даследаванні Аляксандра Бараноўскага. Гл.: *Бараноўскі А.В.* Агляд крыніц па гісторыі вёскі Беліца Сенненскага раёна і сядзібы Свяцкіх // Книжное наследие А.П. Сапунова. Материалы республиканской научно-практической конференции к юбилеям издания А.П. Сапуновым книг “Витебская старина” (т. 1, 1883) и “Река Западная Двина” (1893). 23 декабря 2013 г. Минск, 2014. С. 220 – 222; *Бараноўскі А.В.* Полымя (Беліца): гісторыя маёнтка і вёскі. Віцебск, 2015. 40 с.

2. *Бараноўскі А.В.* Полымя (Беліца): гісторыя маёнтка і вёскі. С. 34 – 36.

3. Вацлаў Лядніцкі (1891–1967), польскі гісторык літаратуры. Нарадзіўся ў Маскве ў сям’і адваката Аляксандра Лядніцкага і Марыі, дачкі Соф’і з Адляніцкіх-Пачобутаў і Уладзіміра Крыванoсава. Пасля заканчэння гімназіі вучыўся ў Маскоўскім і Ягелонскім (Кракаў) універсітэтах. У 1922 г. у Ягелонскім універсітэце атрымаў ступень доктара раманскай філалогіі. Пазней займаўся гісторыяй рускай літаратуры. Выкладаў у Кракаве, Бруселі, Злучаных Штатах Амерыкі. Памёр у Амерыцы, пахаваны ў Нью-Ёрку.

4. Электронны рэсурс: http://polona.pl/item/3280422/0/

5. Фартунай на беларуска-польскіх землях называлі багацце, вялікі маёнтак.

6. Размова ідзе пра Станіславу Свяцкую з роду Ваньковічаў (1840 – 1894).

7. *Lednicki W.* Pamiętniki. T. 1. Londyn, 1963. S. 115 – 116.

8. *Под ред. А.С. Дембовецкого.* Опыт описания Могилевской губернии. Кн. 3. Могилев на Днепре, 1884. С. 216 – 217.

9. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 1. Мінск, 1993. С. 494.

10. Памятная книжка Могилевской губернии на 1909 год. Могилев, 1909. С. 48; Памятная книжка Могилевской губернии на 1910 год. Могилев, 1910. С. 66.

11. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 4. Мінск, 1997. С. 264.

12. Памятная книжка Могилевской губернии на 1910 год. С. 339.

13. *Аникиевич К.Т.* Сенненский уезд Могилевской губернии: опыт описания в географическом, историческом, этнографическом, бытовом, промышленном и статистическом отношениях, с картой уезда, схемой двух озер и рисунками в тексте. Могилев, 1907. С. 124 – 125.

14. Список фабрик и заводов Российской империи. СПб., 1912. Ч. 1. С. 166 – 167.

15. Памылка памяці В. Лядніцкага. Палац у Крупках знаходзіўся на беразе не возера, а ракі Бобр.

16. *Lednicki W.* Pamiętniki. S. 116.
17. Памятная книжка Могилевской губернии на 1910 год. С. 326 – 327.
18. *Lednicki W.* Pamiętniki. S. 116.
19. Dziennik Poznański. 1894. 19 lipca. S. 5.
20. Памятная книжка Могилевской губернии на 1897 год. Могилев, 1897. С. 245, 268.
21. Памятная книжка Могилевской губернии на 1900 год. С. 194.
22. *Шибеко З.В., Шибеко С.Ф.* Минск. Страницы жизни дореволюционного города. Минск, 1990. С. 210 – 212.
23. *Бараноўскі А.В.* Полымя (Беліца): гісторыя маёнтка і вёскі. С. 14 – 15, 35. Мемарыяльная дошка да нашага часу не захавалася.
24. Памятная книжка Могилевской губернии на 1910 год. С. 342.
25. Sprawozdanie Centralnego Towarzystwa Rolniczego w Królewstwie Polskiem. Za rok 1908. Warszawa, 1908. S. 11.
26. Gazeta Rolnicza. 1908. № 26. 27 czerwca. S. 499.
27. *Włodek L.* Wycieczka rolnicza do Danii // Tygodnik illustrowany. Nr. 31. 01.08.1908. S. 623.
28. Ibidem.
29. *Włodek L.* Rolnicy polscy w Szwecyi // Tygodnik illustrowany. Nr. 32. 08.08.1908. S. 644.
30. Ibidem. S. 645.
31. Гл. у гэтым нумары часопіса: *Кароль Свяцкий.* Поездка в Данию и Швецию.
32. *Lednicki W.* Pamiętniki. S. 116.
33. Талачын ад Беліцы аддзялялі 40 вёрст.
34. *Lednicki W.* Pamiętniki. S. 116 – 117.
35. Гл. "Памятные книжки Могилевской губернии" на 1909 – 1916 гг.
36. Электронны рэсурс: http://www.goniec.net/goniec/inne-dzialy/lektura-gonca/wojna-i-sezon-22.html
37. *Lednicki W.* Pamiętniki. S. 583.
38. Ibidem. S. 191.
39. Ibidem. S. 117.
40. *Aftanazy R.* Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. T. 1. Województwa mińskie, mścisławskie, połockie, witebskie. Wrocław – Warszawa – Kraków, 1991. S. 284.
41. Ibidem. S. 285.
42. Ibidem.
43. Ibidem.
44. *Lednicki W.* Pamiętniki. S. 117.
45. Славінскія – уладары сядзібы Юзэфполле ў Талачыне.
46. Люцына Месаль (Месалька) (1886 – 1953) – прымадонна польскай аперэты.
47. *Lednicki W.* Pamiętniki. S. 117 – 120.
48. Гл. "Памятные книжки Могилевской губернии" на 1912 – 1916 гг.
49. Памятная книжка Могилевской губернии на 1909 год. С. 42.
50. *Lednicki W.* Pamiętniki. S. 120.
51. Кунтуш – мужчынскае або жаночае верхняе адзенне з праразнымі рукавамі.
52. *Аникиевич К.Т.* Сенненский уезд Могилевской губернии. С. 55.
53. *Aftanazy R.* Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. S. 285.
54. Ibidem.
55. *Lednicki W.* Pamiętniki. S. 120 – 121.
56. Электронны рэсурс: http://www.goniec.net/goniec/inne-dzialy/lektura-gonca/wojna-i-sezon-22.html
57. Памятная книжка Могилевской губернии на 1916 год. Могилев, 1916. С. 46, 210.
58. *Бараноўскі А.В.* Полымя (Беліца): гісторыя маёнтка і вёскі. С. 29.

59. Сласкія – сям'я роднай сястры Караля Свяцкага Марыі (1865 – 1922).

60. Бацька В. Лядніцкага Аляксандр Лядніцкі быў вядомым адвакатам і грамадскім дзеячам.

61. Polonia Restituta – ордэн Адраджэння Польшчы, які быў зацверджаны 4 лютага 1921 г.

62. *Lednicki W.* Pamiętniki. S. 121 – 122.

63. Słowo Pomorskie. 1929. № 107. 9 maja. S. 13 – 14.

64. *Lednicki W.* Pamiętniki. S. 122.

65. У якасці ілюстрацый для артыкула выкарыстаны здымкі з альбомаў з Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве з наступнымі шыфрамі: F.43749-F.43774/AFF.I-37, F.43775-F.43830/AFF.I-38, AFF.II-46 (zawiera: F.44263-44328), AFF.II-47 (zawiera: F.44329-44410).




*Беліца і ваколіцы на карце Ф. Шуберта*

*Кароль СВЯЦКИЙ*

# ПОЕЗДКА В ДАНИЮ И ШВЕЦИЮ*

**Часть I**

Центральное сельскохозяйственное общество в Варшаве постановило путем целого ряда экскурсий в разные культурные страны Европы познакомить своих членов с сельским хозяйством в этих краях. Как вам известно, господа, пять лет тому назад была организована этим обществом поездка специально в Данию, в которой участвовало несколько членов Минского общества сельского хозяйства; после этого была еще устроена поездка в Богемию, а в этом году пришла очередь поездке в Швецию. Но ввиду того громадного интереса, который представляет для нас Дания, особенно в деле кормления скота, было решено посвятить три дня Дании, а остальное время, т. е. одиннадцать дней, Швеции.

Прежде чем начать свой отчет, позвольте, господа, познакомить вас вкратце с техникой устройства такой поездки; только хорошо технически устроенная поездка может принести действительную пользу. Записавшиеся участники поездки собрались в Варшаве в числе шестнадцати человек. Прежде всего, из своей среды мы избрали руководителя и казначея, избавивших нас от лишних хлопот в поездке.

Руководителем был избран секретарь центрального общества г-н Венявский. Программа поездки была заранее выработана, самым детальным образом советом центрального общества совместно с доктором Винтфельдом, секретарем общества вывоза сельскохозяйственных продуктов из Дании и профессором университета в Стокгольме Дампфельдом. Избраны были самые интересные для нас хозяйства, школы и вообще места, на которых лица, пожелавшие давать нам указания, ждали нас в условленное время. Мы переезжали с одного места на другое в Дании преимущественно в экипажах, в Швеции – по железной дороге. Прибыв на определенное место, руководитель экскурсии задавал владельцу или же управляющему имением целый ряд вопросов, мы же со своей стороны дополняли вопрос исключительно через руководителя и записывали все ответы. Этим путем мы достигли ясного представления о каждом хозяйстве, что было бы невозможно при беспорядочном допросе. В заключение я должен добавить, что расходы на эту поездку не превысили трехсот рублей на каждого участника, считая с момента выезда из Варшавы.

Пять лет тому назад, после первой поездки в Данию был вам, господа, доложен очень подробный и богатый данными отчет члена Минского общества г-на Трусколяского. Я же, пробыв только три дня в Дании, могу лишь дополнить этот отчет поверхностными впечатлениями. В зависимости от того короткого промежутка

*Текст приводится по изданию: Поездка в Данию и Швецию, устроенная в июне 1908 года Центральным сельскохозяйственным обществом в Варшаве. Описал К. Свяцкий. Минск: типография Илья Каплан, 1908. Фотографии взяты из принадлежавшего Свяцким альбома “Поездка в Данию и Швецию, устроенная Центральным сельскохозяйственным обществом в 1908 году”, хранящегося в Национальной библиотеке в Варшаве (F.43831-43924/AFF.II-43).



*Nasbyholm (Швеция).*
*Разведение диких уток*



*Стокгольм.*
*Прощание со Швецией*

предстоящих задач. Далее, полагаю, весь-ма полезным для нас, особенно для наших теперешних и будущих опытных станций, войти в сношения с семенным хозяйством в Swolöf. Для тех же из нас, которые разводят голландский скот, могу смело посоветовать обратиться к Швеции, где они найдут скот по экстерьеру не хуже голландского и гораздо более выносливый, с большей гарантией от заражения и, что чрезвычайно важно, полной гарантией в молочном происхождении. Кто боится «голландцев», как слишком требовательных и изнеженных, могу посоветовать «ayrshire», которые тоже очень рационально ведутся в скотоводных центрах Швеции и при больших количествах жирного молока дают мясныя фигуры.

А мелкие наши хозяева! Путь их к хозяйствам Швеции очень далек, но, полагаю, что картина мелких хозяйств, которая развернулась перед их глазами, насколько она завидна, настолько же и утешительна. Утешительно то, что можно из самого незначительного куска земли извлечь столько пользы, чтобы и самому хорошо прожить, и будущность детей обеспечить.

Да! Путь этот далек! Но мы должны, по примеру шведов, всеми силами стараться сократить его и облегчить, не забывая, что только та страна действительно культурна, в которой мелкие хозяйства процветают.

**К.И. Свяцкий**



*Стокгольм*

*P. A. W. BIAŁORUSIN*

# КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ DZIENNIKA WARSZAWSKIEGO

**(спозненая)**

***Віцебск, 24 жніўня 1855 г.***

Вітаю цябе, пачцівы аддзеле карэспандэнцыі Dziennika! Але адкуль? На гэты раз з Віцебска, таму што рушыў я з майго зацішша, і нават з Магілёва, за інтарэсам, як мы, беларусіны, кажам. Ой, не дай Божа найвялікшаму майму непрыяцелю ездзіць і хадзіць за інтарэсам; лепей дровы пілаваць, ваду насіць і нават пудрэту[1] вырабляць, чым пільнаваць інтарэс.

Адкладаючы ад’езд з дня на дзень, ад заўтра да заўтра, сяджу я ў Віцебску ўжо тыдзень і другі. Нуда; знаёмстваў амаль ніякіх. Затое даследую характарыстыкі горада, валачуся па амаль невядомых мне вуліцах, наведваю святыні, склады і г.д. Вялікая розніца паміж гэтымі двума беларускімі гарадамі – Магілёвам і Віцебскам. Магілёў нядаўна цалкам, як Фенікс з попелу, адроджаны, элегантны, вытанчаны, свежанькі, як цацка, забудаваны, падобны на фельетоны французскіх часопісаў, якія шмат і прыгожа гавораць, не распавядаючы нічога; Віцебск наадварот патыхае старым жыццём, кожную хвіліну сустракаеш у ім тут і там старыя нязграбныя камяніцы з высокімі дахамі, няма на іх архітэктурнай аздобы, адны толькі тоўстыя без меры слупы выступаюць са сцен, беручы прыклад з пілястраў, а на фасадах не аднаго з тых даміскаў спаткаеш надпіс: “Года гасподняга 1654 або 1735 (раней, пазней) на хвалу Богу, да маёй і бліжніх маіх выгады, Якуб Вансовіч” (ці хто іншы).

Віцебск – горад досыць разлеглы, але нерэгулярна і дрэнна забудаваны; камяніца на некалькі паверхаў стаіць тут побач з напалову паваленай драўлянай яўрэйскай халупай, кантраст паўсюль надзвычайны. Аднак тут і там можна спаткаць будынкі, больш вартыя ўвагі. Але, як гэта здараецца звычайна ў губернскіх гарадах, панове архітэктары не прывыклі трымацца аднаго стылю, ордэр карынфскі, дарычны, іянічны і візантыйскі змяшаныя разам; сапраўдны архітэктурны хаос. Аднак калоны, відаць, былі больш за ўсё мілыя мясцоваму архітэктару, таму ў большай частцы самыя значныя будынкі ўпрыгожаны калонамі, хоць, кажучы праўду, гэтыя калоны ніяк не вызначаюцца добрымі прапорцыямі, суадносіны падножжаў, капітэляў, карнізаў і іншых частак цалкам страчаны, злеплены яны чыста па-беларуску, толькі на вока. Дзве ракі перарэзваюць горад у розных накірунках: Заходняя Дзвіна і Віцяблянка. Берагі Дзвіны прыгожыя, крутыя, рэчышча глыбокае; пра прыгажосць берагоў Дзвіны чыталі, напэўна, у Баршчэўскага. Святынь у Віцебску, як у горадзе губернскім, дастаткова. Некаторыя з іх вельмі прыгожыя, а высокія вежы званніц ужо здалёк уражваюць падарожнікаў, што прыбываюць у горад з боку Магілёва.

Шмат з гэтых святыняў вызначаюцца прыгажосцю стылю, які, як я ўжо казаў, у іншых будынках Віцебска па меншай меры

[1] Пудрэта – арганічнае ўгнаенне з высушаных і стоўчаных экскрыментаў з дабаўленнем тарфянога парашку – *заўвага перакладчыка.*

не ўражвае, аднак што найперш здзіўляе ў шмат якіх святынях, дык гэта мешаніна стыляў у розных іх частках: касцёл у гусце чыста італьянскім ці гатычным нясе купал з візантыйскім смакам, што сведчыць пра не вельмі вялікія архітэктурныя здольнасці мясцовага будаўніка, бо пры ўсталяванні купала ні на адной з гэтых святынь ён не змог дастасавацца да цэлага, да дамінуючага стылю, так што гэтыя купалы здаюцца непатрэбнымі дадаткамі, без якіх касцёлы маглі б абыйсціся.

Сярод святынь самым знакамітым з'яўляецца па-базыльянскі касцёл (зараз Успенскі сабор), які стаіць на краі стромага і чароўнай прыгажосці берага Дзвіны. Вонкавая постаць гэтай святыні нагадвае нам сярэднявечча і хвалюе нейкай дзіўнай пакорай духу: будынак гэты са сваім фасадам і гатычнымі вежамі, што выстрэльваюць высока ў неба, невымоўна прыгожы, пілястры з боку ўвахода з'яўляюцца сапраўднай аздобай, а цудоўныя карнізы – годныя ўзоры знаўцы рамяства і мастака; уражвае вока, аднак, завяршэнне фасада ў форме трохкутніка, што зусім не стасуецца з правіламі стылю, у якім узнесена ўся святыня.

Некаторыя абразы заслугоўваюць увагі. Паміж іх сустракаем адзін з подпісам Fiéchi.

Сапраўды артыстычнае выкананне двух алтароў даўніх часоў (Пана Езуса і Свяцейшай Панны) здзіўляе майстэрскай разьбой і лепкай; калоны, што падтрымліваюць перакрыцці, годныя захаплення. Каля касцёла цягнецца надзвычай доўгая трохпавярховая камяніца, раней гэта быў кляштар айцоў базыльянаў разам са школай, у гэтай хвіліне яна рэстаўруецца, бо плануецца перавесці сюды з Полацка семінарыю праваслаўнага веравызнання. Гімназічны будынак, што ўзносіцца тут жа,




*Выгляд на цэнтр Віцебска з Духаўской гары.*

**Віцебск.**

*Сталіца губерні над ракою Дзвіною, заснаваны ў 1021 годзе; з часоў Гэдыміна гэты горад належаў Літве. У 1864 г. у Віцебску было 24,455 жыхароў, 3,146 дамоў, 33 праваслаўныя цэрквы, 3 рыма-каталіцкія касцёлы і 1 кляштар, 34 сінагогі і дамы малітвы, 66 фабрык рамёстваў. Гандаль увогуле развіты слаба; зараз з-за злучэння чыгункаю з Рыгай, Вільняй і г.д. ён можа значна павялічыцца.*

***Opiekun Domowy. Nr. 52. 29.12.1869. S. 410.***

таксама складаў частку кляштарных пабудоў айцоў базыльянаў.

Сярод іншых святынь самымі знакамітымі з'яўляюцца наступныя.

Касцёл па-езуіцкі (зараз сабор Св. Мікалая) на Смаленскай вуліцы з доўгімі і разлеглымі карпусамі, свежа адрэстаўраванымі, у якіх раней размяшчаліся кляштар і калегіум езуітаў. Уваскрасенскі касцёл на вуліцы Смаленскай, [касцёлы] Праабражэння Гасподняга, Прасвятой Багародзіцы, Узнясення, Успення (айцоў базыльянаў), Апекі Найсвяцейшай Дзевы Марыі, Святой Троіцы і шмат іншых.

З касцёлаў рымска-каталіцкага веравызнання на вуліцы Смаленскай варты ўвагі касцёл ксяндзоў бернардзінцаў, які стараннем князя Галіцына захаваны ад заняпаду; касцёл Прасвятой Багародзіцы на Замкавай вуліцы, не так даўно пабудаваны.

Парафіяльны і разам з тым могілкавы касцельчык Святой Барбары хутчэй каплічкай можа называцца; пра касцёлы Святога Якуба, Найсвяцейшай Панны Марыі Балеснай, Святога Яна і фару я не згадваю.

Калі ўжо я згадаў пра могілкі, то раскажу вам, што і я сядзеў самотны перад адным помнікам у Віцебску, разважаў і марыў адзін Бог ведае аб чым; хадзіў ад адной магілы да другой, чытаў пабожныя надпісы і са скрухаю выконваў просьбы памерлых аб прывітанні ці зваротах да Дзевы Марыі. Пасярод маёй прагулкі па могілках жалобныя думкі, не менш жалобныя галасы капланаў і магільныя requieseant in pace няміла абудзілі мяне ад мараў. Вось паволі праходзіць пахавальны картэж, адкрыеш галаву, укленчыш, прамовіш "Анёл Панскі" за душу, што ўжо прадстала перад веліччу Найвышэйшага, яшчэ адна хвіліна, некалькі балесных енкаў, некалькі ўдараў малатка, некалькі стукаў лапаты – і ўсё скончана, форма ўвасаблення ўжо знікла, а працэс распаду дапоўніць астатняе. Паміж годнымі ўвагі помнікамі на каталіцкіх могілках у Віцебску самым прыгожым з'яўляецца нагробак сям'і Цеханавецкіх. Я не спыняюся тут на апісанні помнікаў, ёсць некалькі можа досыць каштоўных, але не хапае ім думкі; не хапае той нямой мовы, што надае свайму твору адна толькі рука мастака-разбяра.

Некаторыя надпісы, аднак, зроблены пабожнай рукою і, абуджаныя жалем, больш мяне кранулі, чым завостраныя слупы з літога жалеза, завершаныя пазалочанымі крыжамі.

Могілкі пры манастыры Св. Марка за чатыры вярсты ад Віцебска маюць шмат багатых і каштоўных помнікаў. Да адметнасцяў, што знаходзяцца за межамі горада, належыць таксама камень Святога біскупа Язафата на адлегласці паўвярсты. Яўрэйскіх бажніц у Віцебску тры; гэта мураваныя будынкі з вежачкамі. Адзіны евангелічны касцёл застаўся ў спадчыну ад ксяндзоў піяраў.

З самых знакамітых будынкаў першым сярод іншых з'яўляецца палац губернатара Белай Русі; пышны будынак з фасадам на чатыры паверхі, які абапіраецца на магутныя калоны, карпусы палаца шырока раскінуліся ўздоўж абрывістага берага Дзвіны, а з вакон палаца адкрываецца цудоўны выгляд. Перад фасадам уладкаваны невялікі бульвар, а алеі бяроз і італьянскіх таполяў, што пачынаюцца з яго, далёка цягнуцца па набярэжнай Дзвіны і з'яўляюцца ўлюбёным месцам прагулак у шэрую гадзіну для жыхароў Віцебска. Гэтая набярэжная Дзвіны шмат каштуе гораду, бо, нягледзячы на год, штогод робіцца насып з друзу, камення, дрэва і зямлі, які ссоўваецца і апаўзае. За палацам цягнецца вялікі сад губернатара, сапраўды шыкоўна ўладкаваны, дзе можна падыхаць свежымі пахамі і паветрам. Іншыя найбольш значныя будынкі наступныя: гмах цывільнага і крымінальнага суда; губернскае праўленне, пошта, прытулак для сірот, вайсковы лазарэт, будынак тэатра, дом цывільнага губернатара і г.д. Палацык Грынеўскага над ракой Віцяблянкай на Смаленскай вуліцы побач з шашою, з акаляючымі яго будынкамі і карпусамі, часткова мураванымі, а часткова зробленымі з дрэва, выглядае досыць прывабна. У правым крыле палаца на тры паверхі знаходзяцца некаторыя ўрадавыя ўстановы, а два бронзавыя львы разца

нейкага беларускага мастака сцерагуць браму палаца.

Да гэтага часу не маем ніводнай кнігарні ў Віцебску[2]. Аднак даведваемся ў гэты час, што перамовы пра адкрыццё кнігарні скончаны паміж панамі Вольфам і Кракелем. Актыўны і прадпрымальны кнігагандлёвец і выдавец пан Б.М. Вольф марыць пра кніжную манаполію ў сталіцы і правінцыях Царства. У сталіцы шыбка пасунуў ён поспех сваёй фірмы і стаў амаль на роўні з лепшымі пецярбургскімі кнігагандлярамі, а ў хуткім часе можа і пераўзыйдзе ўсіх прадпрымальнасцю і падборам накладаў у розных мовах. Менавіта ў прыгожай краме пана Кракеля (на Смаленскай вуліцы) ён адчыняе кнігарню, так неабходную жыхарам губерні і горада Віцебска. Разумовы рух у Віцебску непараўнальна меншы, чым у Магілёве, што даказаў былы беларускі кнігагандляр Я. Глазер, калі ў Віцебск прыязджаў толькі ў пэўную пару, у Магілёве ж жыў доўга і меў значныя прыбыткі, і даходаў гэтых, падзеленых сёння на чатыры кнігарні, яшчэ ім хапае, аднак заўсёды і тут можна мець пэўны прыбытак і быць карысным для грамады. Вясковыя жыхары найлепш спрычыняюцца да апрацоўкі радзіннай мовы: Буйніцкі, Плятэр, Цеханавецкі, Борх і іншыя стала жывуць на вёсцы. Розніца ў гаворцы і звычаях паміж Магілёвам і Віцебскам вельмі адчувальная. Ветлівасці і прыемнага абыходжання больш сустракаецца ў Магілёве; у Віцебску ж наадварот: заняткі літаратурай называюць гультайствам, якое можа дазволіць сабе адзін толькі жыхар вёскі, але не чыноўнік.

У корпусе лекараў ёсць тут знакамітасць, чалавек некалі вельмі знаны, доктар медыцыны, хіругіі і філасофіі, <…> правадзейны стацкі саветнік Гібенталь, аўтар некалькіх важных твораў на медыцынскія тэмы, напісаных па-нямецку. Сярод іншай катэгорыі знакамітасцяў вельмі пачэснае месца займае доктар філасофіі і прыродазнаўчых навук, правадзейны стацкі саветнік і кавалер шматлікіх ордэнаў Васіль Іванавіч Загашаў, сябра многіх навуковых таварыстваў у краі і за мяжою, кавалер ордэна Св. Губерта, узнагароджаны медалём лонданскай выставы за паляпшэнне спосабу вырошчвання льну па метадзе Шэнка і Клаусена. Апроч таго яснавяльможны пан Загашаў з'яўляецца аўтарам даследавання на рускай мове пад назваю "Пра прадукцыйныя сілы Белай Русі (Магілёўская і Віцебская губерні)",1851, Санкт-Пецярбург і шмат якіх іншых твораў. Муж гэты, поўны ўсебаковай і глыбокай навукі, набыўшы нядаўна зямлю недалёка ад горада, паказвае цуды агранаміі і сельскага кіравання і кідае недаверкам жывы доказ у вочы, што могуць розум, навука і праца…

Пра што вам яшчэ напісаць? А, і тут ёсць тэатр, гэта значыць, не толькі зала, але і таварыства драматычных артыстаў пад дырэкцыяй пана Чаховіча.

Яшчэ колькі слоў пра Віцебск дашлю; гэтыя колькі слоў будуць гістарычныя, нешта з мінулага горада.

***P. A.W. Białorusin.***
***Dziennik Warszawski. 1856. Nr. 12. S. 4;.***
***Nr. 13. S. 4.***
***Пераклад з польскай***
***Людмілы Хмяльніцкай.***

[2] У Магілёве іх чатыры: Б.М. Вольфа, Сыркіна, Мендэльсона і Эліашберга разам з друкарняй – *заўвага аўтара.*

*Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ*

# НЕВЯДОМАЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ АРЦЁМА ВЯРЫГІ-ДАРЭЎСКАГА?

24 жніўня 1855 года з Віцебска ў Варшаву ў рэдакцыю газеты "Dziennik Warszawski" была адпраўлена карэспандэнцыя, якую аўтар сціпла падпісаў крыптанімам "P. A.W. Białorusin". У рэдакцыйным партфелі тэкст праляжаў амаль тры месяцы і пабачыў свет толькі ў студзені наступнага года, у выніку чаго пад загалоўкам карэспандэнцыі з'явілася ўзятае ў дужкі рэдактарскае акрэсленне: "Спозненая"[1].

Аўтар прадстаўляў у сваім артыкуле досыць шматслоўнае апісанне архітэктурных каштоўнасцяў і культурнага жыцця тагачаснага Віцебска. Прычым апісанне гэтае зыходзіла ад чалавека, які ў горадзе стала не жыў. "Нуда; знаёмстваў амаль ніякіх", – пісаў ён. У той жа час аўтар добра арыентаваўся ў тапаграфіі горада, рэаліях яго жыцця, ведаў пра славутасцяў мясцовага таварыства (доктара Гібенталя, В.І. Загашава). Усё гэта сведчыла аб тым, што ў Віцебск ён прыехаў не ўпершыню, бываў у горадзе і раней.

Чырвонай ніткай праз усё апавяданне праходзіць параўнанне Віцебска з Магілёвам, з якім аўтар, відавочна, меў больш цесныя стасункі.

Чыйму ж пяру магла належыць адасланая ў Варшаву карэспандэнцыя?

Найперш варта адзначыць, што яе аўтар меў, безумоўна, дачыненне да літаратурнай працы і тагачаснага літаратурнага асяроддзя – у сваёй нататцы ён згадвае пісьменнікаў Яна Баршчэўскага, Казіміра Буйніцкага, Міхала Борха, Адама Плятэра.

Як вядома, "віцебскі Парнас" 1850-х гадоў быў досыць абжыты. Тут працавала цэлае грона літаратараў: Геранім Марцінкевіч, Арцём Вярыга-Дарэўскі, Ялегі Пранціш Вуль (Карафа-Корбут), Вінцэнт Газдава-Рэвут, Ігнат Храпавіцкі і іншыя.

Расшыфроўка крыптаніма схіляе да думкі, што гэта мог быць Арцём Вярыга-Дарэўскі (P[an?] A[rtemiusz] W[eryha]). Да таго ж, як вядома, ён пісаў некаторыя свае творы па-беларуску і толькі адзін з усіх тагачасных літаратараў Віцебшчыны называў сябе "беларусінам", карыстаўся псеўданімам Беларуская Дуда. Аднак усе біёграфы А. Вярыгі-Дарэўскага пішуць, што ў гэты час жыў ён у Віцебску і меў уласны маёнтак Стайкі на адлегласці дзясятка вёрст ад горада.

Каб разабрацца ў сітуацыі, паспрабуем заглыбіцца ў біяграфію А. Вярыгі-Дарэўскага.

Дзякуючы дакументам Віцебскага дваранскага сходу, апублікаваным Д. Васілеўскім[2], і паслужному спісу А. Вярыгі-Дарэўскага з атэстата, знойдзенага Г. Кісялёвым у матэрыялах следства, што вялося над інсургентам у 1863 г.[3], біяграфія літаратара вядома досыць падрабязна. Нарадзіўся ён 23 кастрычніка 1816 г. у маёнтку Кублічы Лепельскага павета Віцебскай губерні ў сям'і Ігната Вярыгі- Дарэўскага і Юстыны з Гласкаў. У хуткім часе яго маці памерла, а бацька ўзяў другі шлюб з Багуміляй з роду Буйніцкіх, што была маладзейшая за яго амаль на 30 гадоў. У першым шлюбе ў Ігната Вярыгі-Дарэўскага нарадзіліся два сыны – Арцём-Аўгустын і старэйшы Іван, у другім – сын Сымон і пяць дачок: Мар'яна, Кацярына, Фларанціна, Фартуната і Тэрэза. Жыла вялікая сям'я ў фальварку Людвінава Дзісенскага павета на той час Мінскай губерні.

Жывучы на Дзісеншчыне, Арцём Вярыга-Дарэўскі скончыў курс навук у Забельскай гімназіі айцоў-дамініканцаў і ўжо ў сакавіку 1836 г. паступіў на службу ў рэвізійную камісію Віцебскага дваранскага



*Панарама Магілёва. Гравюра XIX ст.*

сходу. “Царскі ўрад быў незадаволены дзейнасцю дваранскага сабраньня, – пісаў Д. Васілеўскі, – і цар загадаў скласьці часовую камісію з даверaных паноў ды чыноўнікаў для праверкі правільнасьці залічэньня шляхты ў дваранства, апекі над маёнткамі панскіх сірат і г.д. Камісія рэвізавала ўсё кола дзейнасьці дваранскага сабраньня за некалькі гадоў”[4].

У рэвізійнай камісіі А. Вярыга-Дарэўскі працаваў восем гадоў. У студзені 1844 г. ён выйшаў у адстаўку, і наступную працу прыдбаў толькі яшчэ праз восем гадоў. За гэты час ён ажаніўся з Варварай Кавалеўскай і набыў невялікі маёнтак Стайкі ў Віцебскім павеце, за якім лічылася ўсяго “48 душ мужчынскага полу сялян”[5].

Падобна на тое, што Стайкі А. Вярыга-Дарэўскі набыў у адной са сваіх сясцёр. У спісе прыхаджан Астровенскага касцёла, да якога быў прыпісаны маёнтак, за 1843 г. яго ўладальніцай названа “памешчыца Кацярына Зброжкава Вярыжына”[6]. Відаць, Кацярына з роду Вярыгаў выйшла замуж за аднаго са Зброжкаў, якім маёнтак належаў на працягу некалькіх пакаленняў, і на той час ужо аўдавела. Цікава, што менавіта ў гэтых Стайках прайшло дзяцінства яшчэ аднаго літаратара Віцебшчыны – Аляксандра Рыпінскага, маці якога паходзіла з роду Зброжкаў[7]. На час продажу маёнтка А. Рыпінскі знаходзіўся ў выгнанні, спачатку ў Францыі, потым у Англіі, куды трапіў за ўдзел у паўстанні 1831 г.

У лютым 1852 г. А. Вярыга-Дарэўскі, абмежаваны ў сродках на ўтрыманне сям'і, у якой ужо нарадзілася дачка Габрыеля, зноў паступіў на службу. На гэты раз ён атрымаў пасаду апекуна сельскіх запасных магазінаў у Віцебскім павеце. Колькасць апекуноў магазінаў у кожным павеце і іх заробкі вызначала не дзяржава, а мясцовае дваранства, раскладаючы ўсе выдаткі на ўласныя маёнткі[8]. Пасля заканчэння выбараў 1856 г. А. Вярыга-Дарэўскі з “пасады апекуна сельскіх запасных магазінаў выбыў”[9]. На гэтым ягоная служба і скончылася.

Мяркуючы па ўсім, адразу пасля набыцця ўласнага маёнтка А. Вярыга-Дарэўскі стала жыў у Стайках. Па справах службы яму даводзілася час ад часу бываць у Віцебску, дзе ён спыняўся, відаць, часцей за ўсё ў заезных дамах. Аднак значна больш цесныя сувязі меў з Магілёвам, дзе жыў яго швагер Апалон Кавалеўскі[10]. Менавіта магілёўскія рэаліі ўкрапляюцца ў яго паэму “Гутарка пра сваяка”, напісаную ў Стайках у 1856 г.[11]

Горад на Дняпры быў асабліва прыцягальным для Арцёма Вярыгі-Дарэўскага і з тае прычыны, што ў ім былі ажно чатыры кнігарні і друкарня. Вядома,

што Арцём і яго брат Сымон былі вялікімі аматарамі кнігі. Сымон Вярыга-Дарэўскі на пачатку 1840-х гадоў нават адчыніў у Віцебску публічную чытальню, дзейнасць якой працягвалася на працягу шасці гадоў[12].

Арцём Вярыга-Дарэўскі на працягу многіх гадоў збіраў уласную хатнюю бібліятэку, якой асабліва ганарыўся і пра якую не аднойчы згадваў у лістах да сваіх карэспандэнтаў. "З рухомасці, апроч мэблі і іншых гаспадарчых рэчаў, маю бібліятэку, якая знаходзіцца ў большай частцы ў маёнтку маім Стайках і складаецца з рускіх, часткова французскіх, а пераважна з польскіх кніг, каштуе, прыблізна ацэньваючы, да 2500 рублёў срэбрам", – паведамляў ён на следстве пасля свайго арышту ў 1863 г.[13]

"Да гэтага часу не маем ніводнай кнігарні ў Віцебску", – пісаў у сваёй карэспандэнцыі P. A. W. Białorusin. Відавочна, што гэтая акалічнасць магла прыцягнуць увагу і скласці клопат толькі для аматара прыгожага пісьменства.

Калі пагадзіцца з тым, што P. A. W. Białorusin – гэта Арцём Вярыга-Дарэўскі, то ў біяграфію літаратара варта ўнесці некаторыя карэктывы. Яны тычацца галоўным чынам таго, што цесная сувязь з Віцебскам у яго ўсталявалася толькі з другой паловы 1850-х гг. Менавіта ў гэты час А. Вярыга-Дарэўскі пачынае часцей бываць у Віцебску, заводзіць тут новыя літаратурныя і сяброўскія адносіны, паглыбляецца ў культурнае і грамадскае жыццё горада, што бачна з яго лістоў і карэспандэнцый у газеты і часопісы 1857–1862 гг.

**Літаратура і крыніцы:**

1. *P. A.W. Białorusin.* Korespondencja Dziennika Warszawskiego (spóźniona) // Dziennik Warszawski. 1856. Nr. 12. S. 4; Nr. 13. S. 4. Пераклад гл. у гэтым нумары альманаха.

2. *Васілеўскі Д.* Арцём Ігнатавіч Вярыга і яго літаратурна-грамадзкая чыннасьць // Полымя (Менск). 1929. Чэрвень. С. 183–200.

3. Пачынальнікі. З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. Укл. Г.В. Кісялёў. 2-е выданне. Мінск, 2003. С. 280 – 282.

4. *Васілеўскі Д.* Арцём Ігнатавіч Вярыга і яго літаратурна-грамадзкая чыннасьць. С. 188.

5. Пачынальнікі. С. 280.

6. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей – НГАБ), ф. 1781, воп. 26, спр. 1472, арк. 37-а адв. – 38.

7. Гл.: Дапаўненне да вываду шляхціцаў Рыпінскіх, зробленае Віцебскім Дваранскім дэпутацкім сходам па просьбе А. Рыпінскага. 1828 г. (НГАБ, ф. 2512, воп. 1, спр. 155, арк. 193 – 198 адв.).

8. Полное собрание законов Российской империи. Собрание второе. Т. XV. Отделение первое. 1840. От № 13044 – 14140. СПб., 1841. С. 397.

9. Пачынальнікі. С. 281.

10. Тамсама. С. 245.

11. Гл.: Вярыга-Дарэўскі А. Гутарка пра сваяка. У кн.: *Хаўстовіч М.* Даследаванні і матэрыялы: літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў. Том першы. Warszawa, 2014. С. 168 – 190.

12. *Кісялёў Г.* Загадка беларускай "Энеіды". Мінск, 1971. С. 163 – 164.

13. Пачынальнікі. С. 283.

*Сергей ЛЕОНЧИК*

# МАКСИМИЛИАН МАРКС В ЕНИСЕЙСКОЙ ССЫЛКЕ

В конце 1861 – начале 1862 гг. в Российской империи проходил процесс создания тайных обществ с целью подготовки январского восстания 1863 г. Подготовка велась не только на территории Царства Польского и Западного края, но и в российских столицах – Петербурге и Москве, где обучались студенты-поляки. В конце 1861 г. «Общество инициаторов» приступило к созданию в Москве на базе студенческой организации «Ogół» («Огул») нового тайного революционного объединения, получившего в дальнейшем название «Союз сторонников движения».

Уже своим названием «Союз сторонников движения» подчеркивал единство политического направления этой организации с течением красных[1]. Летом 1862 г. «Союз» заявил о полной координации и подчинении своих действий Центральному Национальному Комитету в Варшаве, а также готовности подняться на борьбу. Более конкретная деятельность общества была связана в первую очередь с революционными организациями Литвы и Беларуси. Кроме того «Союз сторонников движения» установил прочные связи с формирующимися тайными польскими революционными организациями в Петербурге, а также с польскими группами, возникшими в Центральной России: в Перми, Казани, Ярославле, Костроме, Симбирске, Владимире. Практическая деятельность членов общества сводилась к подготовке к восстанию и вербовке новых членов. Они спешно знакомились с военным делом и литературой на военную тему, приобретали личное оружие, собирали у проживавших поляков деньги на подготовку к восстанию, переправляли оружие в Литву.

С самого начала деятельности польских революционных групп в Москве во главе их стал Польский комитет, являвшийся органом повстанческой власти. В руководство комитета входили активные участники «Союза сторонников движения». Весной 1863 г. в составе руководства Польского комитета находились Т. Далевский, М. Маркс, А. Зельверович, П. Маевский, Н. Бернацкий, Н. Колтубай[2]. В дальнейшие годы деятельность комитета была тесно связана с именами Максимилиана Маркса[3] и Павла Маевского.

В первые месяцы восстания Польский комитет занимался организацией отправки уезжающих в отряды, обеспечением их оружием и одеждой, заготовкой медикаментов. К середине 1863 г. «Огул» прекращает свою деятельность. Из числа студентов-поляков Московского университета выехало для участия в восстании 200 человек, остались только медики для окончания учебы.

Начиная с ранней весны 1863 г. участники восстания бегут из разбитых отрядов, пересыльных пунктов, арестантских рот, мест ссылки и ищут помощи в Москве, зная о существовании хорошо организованного тайного польского общества. В Польский комитет поступали сведения об отправке в Москву партий ссыльных с предшествующих этапных пунктов. Члены комитета, в особенности группа женщин, помогали ссыльным деньгами и медикаментами.

Один из руководителей комитета, преподаватель географии 4-й Московской гимназии Максимилиан Маркс и его супруга Леокадия принимали непосредственное участие в этой деятельности. Их дом на Трубной площади в Москве стал местом

встреч студентов-поляков. Заподозренный властями в неблагонадежности, с 15 декабря 1863 г. по 12 февраля 1864 г. М. Маркс находился в заключении в Трубецком бастионе Петропавловской крепости. По постановлению следственной комиссии в дальнейшем за ним устанавливалось негласное наблюдение. Несмотря на это, Максимилиан Маркс не прекращает своей активной деятельности в польской организации[4].

Деятельность московской польской организации в 1865 г. почти сливается с деятельностью русских революционных групп. В Польском комитете в Москве ставится вопрос о переформировании польской организации с целью лучшего согласования общих революционных действий. С весны 1865 г. московскую «конституционную группу» возглавляет глава Польского комитета Павел Маевский.

Целью объединившихся революционных кружков было установление в России демократическо-конституционного строя. В качестве толчка, способного поднять народ к восстанию, было избрано цареубийство. За Польшей признавалось право на независимость. Основная цель – демократическая конституция – могла объединить разнородные радикально-демократические группировки. Каждая из входивших в организацию групп могла трактовать необходимость демократических преобразований со своих позиций. Организация должна была строиться по пятеркам или шестеркам.

По совместным планам революционеров Центральной России и Сибири было решено начать восстание весной 1866 г. 4 апреля Дмитрий Каракозов неудачно стрелял в Александра II. В связи с начавшимся после этого правительственным террором общероссийские планы были сорваны[5]. Своеобразным окончанием революционной деятельности этих лет стало неудавшееся восстание ссыльных поляков в Восточной Сибири на Кругобайкальском тракте[6].

Польские революционные круги в Москве в 1866 г. не были полностью выявлены, и об их продолжавшейся деятельности свидетельствовали жандармские доносы. По делу Д. Каракозова был привлечен и Максимилиан Маркс. 14 июля 1866 г. он был предан Верховному уголовному суду по обвинению в доставлении средств тайному революционному обществу «Организация», а также в укрывательстве польских политических преступников[7].



*Енисейск. Успенский собор. Фото С. Леончика*

24 сентября того же года М. Маркс «как пособник в приготовлении мер для убийства частного лица» был приговорен к лишению всех прав состояния и ссылке в Сибирь на поселение[8].

9 декабря 1866 г. осужденные поляки – 50-летний Максимилиан Осипович Маркс и 27-летний Павел Петрович Маевский, а также российские революционеры Орест Васильевич Малинин и Виктор Александрович Федосеев (обоим было по 24 года) были доставлены в столицу Енисейской губернии город Красноярск.

Местом ссылки М. Марксу был назначен отдаленный Енисейский округ. Енисейск был отдален от центра губернии почти на 300 километров.

Енисейск, основанный в 1619 г., является одним из старейших городов Сибири. В XVII в. он становится опорной базой для освоения бескрайних просторов Восточной Сибири. С 1622 г. должность воеводы в Енисейске исполнял польский шляхтич Павел Хмелевский[9]. В 1676 г. Енисейск обретает статус «разрядного» (областного) города, а в 1719 г. это уже центр Енисейской губернии. Находясь на пересечении важнейших водных путей, в XVII–XVIII вв. он становится центром ремесел и торговли Восточной Сибири.

В начале XIX в. Енисейск утратил свое былое величие, однако найденные неподалеку в тайге золотоносные россыпи придали новую динамику развитию города. В XIX в. он входил в число десяти красивейших уездных городов России. Его и поныне украшают великолепные православные храмы: Спасо-Преображенского мужского монастыря, основанного в 1642 г., Успенский собор 1793–1818 гг., Воскресенская церковь 1747 г., Богоявленский кафедральный собор 1730–1750 гг. и др. В конце XIX в. в Енисейске были также построены мечеть и синагога. Еще и сегодня приезжающих поражает величие купеческих особняков и очарование домов с резными наличниками на окнах[10]. Этот сибирский город строили казаки, русские переселенцы, а также многочисленные ссыльные – русские, евреи, немцы и, конечно, поляки.



*Енисейск. Резные оконные наличники. Фото С. Леончика*

Важным источником по истории города является «Краткая летопись Енисейского и Туруханского края Енисейской губернии за 1594 – 1893 гг.», написанная на основании документов, воспоминаний и различных печатных источников енисейским краеведом Александром Игнатьевичем Кытмановым[11]. В летописи А. Кытманов выделяет два этапа формирования польской диаспоры в Енисейске: ссыльные после восстания 1831 г. и ссыльные после восстания 1863 г. Автор отмечает, что первые поляки пользовались уважением среди местных жителей, так как часто исполняли функции волостных писарей, в тяжелых климатических условиях успешно занимались огородничеством. Ссыльные после восстания 1863 г., по мнению А. Кытманова, являлись наиболее образованной и мастеровой группой среди населения города. Поляки работали на золотых рудниках в качестве инженеров, кузнецов, столяров, бухгалтеров и врачей. Благодаря их приезду в Енисейске стали проводиться занятия по музыке и танцам.



*А.И. Кытманов. Фото из фондов Енисейского краеведческого музея*

В 1877 г. Кароль Матушинский открыл в Енисейске магазин «Варшавский».

Особо выделяет А. Кытманов в своей летописи личность политического ссыльного Максимилиана Маркса[12].

Незадолго до своей смерти М. Маркс решил описать свою долгую и увлекательную жизнь. Воспоминания он назвал «Записки старика». Еще при жизни он успел переправить эту рукопись во Львов[13]. В настоящее время она хранится в научной библиотеке им. Василя Стефаника Академии наук Украины во Львове (Осс. III. 3454). Фотокопия рукописи, сделанная в 1973 г., находится в Енисейском краеведческом музее им. А.И. Кытманова.

«Записки старика» – дневник Максимилиана Маркса с 1821 по 1888 гг. Это рукопись, насчитывающая 188 страниц и написанная на русском языке. Воспоминания разделены географически по местам пребывания автора: Витебск (1821 – 1840), Смоленск (1841 – 1860), Москва (1861 – 1864), путешествие из Петербурга в Кежму (1866 – 1867), Кежма (1867), Енисейск (1869 – 1888). Последняя запись относится к 9 декабря 1888 г. Весь дневник был написан в Енисейске.

Первая часть рукописи описывает детство и юность автора. Однако, принимая во внимание то, что М. Маркс описывал эти события будучи уже человеком преклонных лет, в них отразилась как авторская трактовка событий, так и их исторический анализ[14].

Описывая свой приезд в Енисейск, М. Маркс пишет, что это был январь 1867 г. По дороге в Сибирь М. Маркс и его соратники не знали, куда конкретно они едут. 5 января их привезли в Енисейск. В полицейском управлении, по случаю сочельника, их только отметили и отправили «на все четыре стороны». Однако как только новоприбывшие вышли из управления, их сразу же приютил местный поляк. «Бобрович был из ссыльных поляков, – пишет М. Маркс. – Дела его как отличного столяра шли хорошо, и он уступил нам одну комнату на время, пока нас не увезут далее. Теперь объяснилось, что мы назначены в Енисейский округ: но один округ этот со своим Туруханским отделом больше Франции и Германии, двух сильнейших европейских государств, вместе взятых <…>. Нас направляли к северу»[15].

В Пинчуге, центре волости, сопровождающие ссыльных, наконец, распечатали пакет, после чего все выяснилось. Русские друзья оставались в этой волости, а М. Маркса с П. Маевским отправили дальше – в Кежму.

В Кежме Максимилиан Маркс знакомится с обычаями и жизнью сибиряков, о чем подробно пишет в своих воспоминаниях: «Мыло составляет здесь туалетную только специальность, девушка часто не только от матери, но иногда и от бабушки получает его как свадебный подарок»[16].

15 декабря 1868 г. М. Маркс перебирается на поселение в Енисейск. Там его уже ожидают жена и дочь. Свой приезд он описывает так: «После захода солнца на улицах не видно никого, ворота домов все заперты, цепные собаки спущены и ставни окон закрыты. Темень, глушь и мороз градусов в 40»[17].

В начале своего пребывания М. Маркс столкнулся с неприязнью со стороны местных жителей. Связано это было с тем, что в пожаре, имевшем место в Енисейске,

власти обвинили ссыльных поляков. М. Маркс рассказывает об экстренном заседании Городской думы Енисейска, на котором как-то сразу же «выступила легендарная польская интрига».

«“Поляки сожгли город!” – крикнул один из гласных, именно тот, который потом спасался со своим несгораемым добром на Енисее. “Поляки! Кто же более?” – подтвердило двое других сановитых купцов. “На чем же вы основываете ваше заявление?” – спросил исправник. “Какое вам нужно еще основание? Что народ видит, то и Бог слышит. Знаете ли вы эту пословицу?” Последовала громкая пощечина, данная крикуну одним из интеллигентнейших чиновников. Но ничто не помогало. “Поляки, поляки сожгли нас!” – разнеслось по пустырям сгоревшего города и всем окрестностям его, и все – от мала до велика – завыли хором песенку на катковский мотив. Исправник и интеллигенция зачлись общественными врагами. И пошло писать от смешного до отвратительного. Одна из здешних дам, имевшая дочь, за которой приволакивались несколько молодых поляков и которую они выучили даже что-то отбарабанивать на фортепиано, хвасталась перед своими подругами, высказываясь в том духе, что она – вернейшая патриотка, но все-таки как принимала, так и впредь будет принимать в своем доме врагов Отечества. Что за великодушие?» – саркастически завершает свой рассказ М. Маркс[18].

В Енисейске М. Маркс в первую очередь стал заниматься обучением детей, готовя их к поступлению в гимназию. У него было много учеников как в городе, так и в округе.

М. Маркс сообщает, что его пригласил один из самых влиятельных в Енисейске людей – И.А. Григорьев – и предложил «преподавать взрослым дочерям его физику и естественные науки, которые, как находящимся у него гувернанткам, так и преподавателям в уездном училище, были неизвестны. Еще две дамы – госпожа Полежаева, старшая дочь господина Григорьева, и госпожа Пфейфер, жена управляющего [золотыми] приисками



*Католическая икона из польской семьи в Енисейске. Частная коллекция*

В.И. Базилевского – изъявили желание познакомиться с этими науками. Григорьев уехал с семейством в свое Костромское имение, дочери его поступили в Цюрихский университет, закончили курс и вышли замуж: старшая за профессора Шмутцигера, а младшая – за В.И. Базилевского. Обе дамы, учившиеся у меня, стали матерями нескольких детей»[19].

Однако и самому М. Марксу пришлось несладко из-за вмешательства Н.Н. Сторожева, директора Енисейской женской прогимназии, убоявшегося конкуренции со стороны ссыльного учителя. Дело дошло до главного инспектора училищ Восточной Сибири в Иркутске, и в результате М. Маркс вынужден был дать подписку «впредь не заниматься никаким ни учебным, ни ученым делом»[20].

В летнее время М. Маркс совершал практически ежедневно ботанические экспедиции за город. Позднее его гербарии заинтересовали шведских ученых во время их экспедиций по Северу в 1875 и 1876 гг. В своей работе «Климат Енисейска по двенадцатилетним наблюдениям 1871 – 1883 гг.» М. Маркс пишет: «Невольно приходится удивляться выносливости здешних растений, когда, после сильней-



*Католическое распятие из польской семьи в Енисейске. Частная коллекция*

шего инея утром, в полдень на какой-нибудь лужайке в полноте жизненной энергии целые тысячи исполинских пионов или башмачок, которыми случалось любоваться на европейских выставках только под хрустальными клетками»[21].

Однако увлечение ботаникой и педагогические занятия не стали основными для ссыльного поляка. В Енисейске М. Маркс развернул обширную научно-исследовательскую деятельность в области метеорологии. Он практически в одиночку создал первую метеорологическую станцию на территории Сибири. С 1870 г. стал постоянным сотрудником Русского географического общества в этой области. С конца апреля 1871 г. М. Маркс приступает к постоянным метеорологическим наблюдениям в Енисейске по специальной инструкции, присланной Академией наук. Это был кропотливый труд ученого без помощников. Наблюдения велись изо дня в день, по 3 раза в сутки, без малейших пропусков в течение 12 лет. Они оказались с самого начала так точны и научны, что Русское географическое общество признало полезным передавать их немедленно в Главную физическую обсерваторию и печатать в летописях.

В начале работы М. Марксу приходилось самому мастерить некоторые приборы. В 1874 г. Енисейск посетил директор Пекинской обсерватории Фритче, который высоко оценил исследования ученого, но его приборы признал несоответствующими. В 1875 г. из Главной физической обсерватории Петербурга М. Марксу были высланы новые приборы, и исследования стали вестись еще более точно[22].

Максимилиан Маркс наблюдал и чрезвычайные явления в природе, которые не входили в его обыкновенную инструкцию, но имели большое научное значение. В январе 1872 г. в Енисейске был необыкновенный холод – минус 58˚С. Ученый определил точную вели-чину поправки своего термометра при точке замерзания ртути и получил достоверное наблюдение одной из самых низких температур, которые когда-либо наблюдались на Земле.

М. Маркс также подробно описывает наблюдаемые им северные сияния. Ученый составляет и издает в Енисейске таблицы времени для городов Енисейской губернии[23].

Исследования и организационная работа не ограничивались у М. Маркса только Енисейском. Он стал учредителем метеостанций в Туруханске и селе Гольчихе при устье Енисея. «Он высказал особенное внимание и предусмотрительность, через что наблюдения его получили высокое научное значение». Наблюдения с этих метеостанций также высылались в Русское



*Инструменты архитектора из польской семьи в Енисейске. Частная коллекция*



*М.О. Маркс. Фото ок. 1874 г. Из фондов Енисейского краеведческого музея*

географическое общество и вошли в «Repertorium fur Meteorologie» – публикацию Главной физической обсерватории[24].

Енисейск был местом, которое посещали многие научные экспедиции, исследовавшие Русский Север. В начале октября 1873 г. после экспедиции по Нижней Тунгуске город посетил выдающийся ученый Александр Лаврентьевич Чекановский (1833 – 1876). Участник польского восстания 1863 г., сосланный в Сибирь, он проводил геолого-географические исследования южной части Иркутской губернии, реки Ангары и окрестностей. В 1873 – 1875 гг. совершил три экспедиции по северо-востоку Сибири, дошел до моря Лаптевых. А. Чекановский собрал многочисленные геологические, палеонтологические и ботанические коллекции. После себя он оставил интересные дневники, обработанные впоследствии другим польским ссыльным и ученым Иваном (Яном) Дементьевичем Черским. Именем А. Чекановского назван горный хребет в Якутии.

В Енисейск А. Чекановский прибыл во главе экспедиции, состоявшей из астронома и метеоролога Фердинанда Мюллера, топографа Гаврилы Нахвальных и ссыльного поляка Владислава Ксенжопольского, препаратора чучел и собирателя ботанических коллекций. А. Чекановский близко познакомился с Марксом, который помог ему написать отчет по проведенной экспедиции. Как пишет сам М. Маркс, А. Чекановский сказал ему: «Я как воспитанник Дерптского университета[25] плохо знаком с русской терминологией. Помогите мне, сделайте одолжение»[26].

Будучи у М. Маркса в гостях, А. Чекановский в беседе с ним и его женой, которая спрашивала о состоянии здоровья впавшего в сумасшествие В. Ксенжопольского, произнес очень примечательный монолог о судьбе ссыльных поляков: «Много пало, предалось пьянству, оскотинилось <…>. Другие крепятся, но это до поры до времени. У кого есть цель жизни, основанная на научных любимых занятиях, тот потянет подольше, но все-таки в перспективе – сумасшествие. <…> Как бы весело трудился я, как бы усердно работал среди милых мне родных и ближних, трудился и работал для них же, в родной моей стране и в ее пользу. А теперь невольно иногда при всей страсти к науке, при всем стремлении к уяснению ее тайн надвигается гадкий, отвратительный вопрос: да на что? к чему? для кого?». М. Маркс на это ответил ему: «Трудясь для науки, работаем на все человечество. Достанется что-нибудь и нашей родине, и нашим родным». А. Чекановский в ответ на это сказал: «Ах, хотя бы раз еще взглянуть на



*А.Л. Чекановский*

милые лица своих людей, на милую травку своих полей, на цветы своей родины…»[27].

Услышав эти слова, супруга М. Маркса выбежала в другую комнату и возвратилась со своим молитвенником в руках. Развернув молитвенник, А. Чекановский увидел засушенные еще на родине цветы. Он был так ими растроган, что М. Маркс предложил ему взять несколько штук себе. А. Чекановский взял только один анемон.

10 октября он уехал из Енисейска. В следующем 1874 г. А. Чекановский совершил еще одну экспедицию на Оленек. Возвратившись, он поехал в Петербург, где покончил жизнь самоубийством[28].

В 1876 г. в Енисейск прибыла экспедиция шведского профессора Нильса Адольфа Эрика Норденшельда[29], в которой участвовали ботаник Люнстрем и зоолог Стукеберг. Ученые пробыли в Енисейске всего четыре дня[30]. Норденшельд, ознакомившись с научной деятельностью М. Маркса, посоветовал ему заняться наблюдениями за космической пылью. Маркс передал профессору свои обширные гербарии растений из окрестностей Енисейска[31].

Заслуги перед наукой М. Маркса не остались незамеченными в академической среде Санкт-Петербурга. Действительный член Русского географического общества М.А. Рыкчеев обращается с предложением присудить М. Марксу золотую медаль общества за труды по метеорологии и промер реки Енисей. В январе 1878 г. Маркса награждают малой золотой медалью географического общества. Однако позднее из-за тяжелого материального положения медаль эту ему пришлось продать.

Материальные трудности постоянно преследовали М. Маркса и его семью. Ежемесячного пособия, выдаваемого политссыльным, не хватало на жизнь, и власти, принимая во внимание тяжелое положение, дополнительно помогали М. Марксу[32].

В течение нескольких лет, следуя совету Н. Норденшельда, Максимилиан Маркс безуспешно искал космическую пыль. 3 октября 1881 г. он, наконец, сделал открытие, позволившее русской науке совершить важный шаг в этом направлении. Сам М. Маркс так писал о своем открытии: «При сильном западном ветре, сменившем противоположный ему восточный, в 9 часов вечера начал накрапывать дождь. В 10 часов я вышел во двор для производства отсчетов на термометре и гигрометре и был невольно поражен каким-то неопределенным фосфорическим светом на вершине флюгера, находившегося на крыше сарая. Свет этот, в виде расходящейся



*Здание Енисейского краеведческого музея. Фото С. Леончика. 2017 г.*

кисти, то моментально являлся, то исчезал». Внимание исследователя привлекли два обстоятельства. Во-первых, наблюдаемое явление происходило в то время, когда Земля находилась близко к пути ноябрьских метеоритов. Во-вторых, сильно наэлектризованное состояние атмосферы. Затем в отчете М. Маркс подробно описывает, как он промывал дождемер чистой водой в поисках космической пыли. Собранные осадки имели кирпично-красный цвет. Собрав муть на фильтр, он сделал ее анализ, который и показал наличие железа, кобальта и никеля, т.е. тех элементов, которые характеризуют метеориты[33].

Об открытии сообщили «Известия Русского географического общества»[34].

Стоит отметить, что и в настоящее время исследования космической (кометной) пыли очень актуальны. Сейчас для этих целей запускают специальные зонды. Ученые США, Германии и России, исследуя пыль из космоса, пытаются узнать, из какого вещества 4,5 миллиарда лет назад возникла Солнечная система[35].

Максимилиан Маркс активно сотрудничал с первым сибирским краеведческим музеем, возникшим по инициативе и под руководством Николая Михайловича Мартьянова в 1877 г. в Минусинске, на юге Енисейской губернии. По инициативе музея типография в Минусинске издала работу М. Маркса «Таблицы минусинского времени»[36]. В 1891 г. М. Маркс дарит музею глобус звездного неба, изготовленный им самим, а также подписку американского метеорологического журна-ла за несколько лет[37].

В Сибири М. Маркс вел активную переписку с другим политическим ссыльным, отбывающим ссылку в Минусинске, – князем Александром Кропоткиным, братом знаменитого анархиста Петра Кропоткина. Переписка носила сугубо научный характер. В январе 1877 г. жандармы из Минусинска сообщали, что А. Кропоткин «...предполагает издать какое-то сочинение по астрономии, над которым много трудился». Однако завершить эту книгу ему так и не удалось. По сведениям работников Минусинского музея, князь имел небольшую домашнюю обсерваторию, хорошо знал современную новейшую литературу по астрономии, которую выписывал из столичных магазинов России[38].

На подаренном директору Минусинского музея Н.М. Мартьянову экземпляре своей монографии «Климат Енисейска по двенадцатилетним наблюдениям (1871 – 1883)», хранящейся до сих пор в библиотеке музея, М. Маркс написал: «Намереваясь прекратить свои наблюдения и проститься с Енисейском, я составил в таблицах возможно полный вывод из двенадцатилетнего периода наблюдений»[39].

Максимилиан Маркс принимал активное участие в организуемых в окрестностях Енисейска экспедициях. Так, в 1882 г. он участвует в экспедиции по обследованию и устройству конно-железной дороги от Енисейска до пристани Полуустной на Чулыме. Обследовав пространство между Енисейском и рекой Чулым, он внес предложение об устройстве такой дороги как одного из способов соединения речных систем Оби и Енисея. Согласно вычислениям М. Маркса дорога эта должна была быть протяженностью в 161 версту[40].

В 1883 г. в культурной жизни далекого сибирского города Енисейска произошло знаковое событие – по инициативе Александра Игнатьевича Кытманова был открыт краеведческий музей[41]. Максимилиан Маркс принимает непосредственное участие в становлении нового музея и становится его сотрудником.

М. Маркс активно печатался в историко-мемуарном журнале «Русская старина», освещая темы, не связанные с естественными науками. Таковыми его трудами были, например, эссе о друге-востоковеде Каетане Кассовиче[42], а также русском мыслителе и общественном деятеле Михаиле Буташевиче-Петрашевском[43].

Еще в 1878 г. М. Марксу было разрешено выехать в Екатеринославскую губернию. Запрещался только въезд в столицы и Таврическую губернию. В докладной

